УДК 821.161.3
ББК 84 (4Беи)
Б17

**Календа, С.**

**Б17** Падарожжа на край ложка / Сяргей Календа. – Вільня: ***, 2016. – *** с.

**ISBN**

Гэтая кніга – споведзь. Спроба распавесьці пра той боль, з якім жывеш, нягледзячы ні на што. Асэнсаваньне хваробы, сьмерці, жыцьця, каханьня і такой зьявы, як “так склаўся лёс”.

Кніга “Падарожжа на край ложка” напісана на адрыве, пад высокім артэрыяльным ціскам, падчас высокай тэмпературы, у стане сну.

Не дазваляецца чытаць летуценьнікам і людзям, якія шукаюць на старонках толькі дабра, бо дадзеная кніга – страшная. Кніга пра жах жыцьця, але пад гэтым жахам хаваюцца шчырае каханьне і назіраньне за тым, як дзень ператвараецца ў ноч і як родная мама можа сядзець акуратна на зэдліку, схіліўшы галаву, і падшываць парваную шкарпэтку, і павекі яе лёгка варушацца, а навокал чутна толькі, як гатуецца суп на кухні.

УДК 821.161.3
ББК 84 (4Беи)

**ISBN**

*Маме, якая зь дзяцінства*
*вучыла мяне, што я вольны*
*выбіраць дарогу, але нясу*
*адказнасьць за сваё*
*права волі і жыцьцё*

## 1

Ня ведаю, як бы вы гэта здолелі перажыць, але я пасьпеў памерці і вярнуцца да жыцьця не адзін раз, пакуль уся нашая сям'я разам з хворай маці перажывала горшую трагедыю, чым сусьветная вайна і крызіс, горшую за перабудовачныя часы і часы прыродных катаклізмаў… і ўсё гэта адбывалася ня дзе-небудзь у Мэксыцы альбо нямецкім шпіталі, усё адбывалася ў нашым засраным горадзе (ніякі ён, гэты Менск, ня чысты, што б вам ні казалі праклятыя госьці сталіцы)… усё было тут і цяпер, на гэтым бяскрайнім і завялікім для маёй мамы ложку… мне хацелася памерці замест яе, я адчайна жадаў, каб усё, што зь ёй адбываецца, проста пакінула яе і я б гэта перапрываў сам, я б усё гэта сабраў бы голымі рукамі, зьеў бы, выпіў бы, ускрыў бы сабе пуза і забраў бы ў сябе, а потым паехаў бы як мага далей, каб мяне ніхто ня бачыў і ня чуў, і праглынуў бы, і сабраў бы лёгкімі, зашыў бы сабе ў кішачнік… каб ніколі такога больш ні з кім, чуеце, ні з кім не змагло здарыцца!

Шмат чаго можна было б абмінуць і перапрываць – голад, сьпёку і мароз, любы парніковы эфэкт ня меў бы для мяне горшага ўзьдзеяньня… але назіраць і перажываць тое, як твая маці пакутуе восем год запар… восем адчайных і абсалютна недзіцячых год… восем сьвядомых год маладога

чалавека, які пасьпеў у жыцьці спатыкнуцца, і не аднойчы, і пасьпеў у жыцьці расчараравацца, і нават паўдзельнічаць у дарослых гульнях.

Жыцьцё любога маньяка і пакуты самагубцы пададуцца самымі салодкімі і лёгкімі, ніж часы хваробы тваіх родных… і мне, спадарства, было б нашмат лягчэй за Віёна адматаць тры разы ў турме, тройчы кожны дзень чакаючы, калі мяне павесяць на плошчы, ніж тое, што адбывалася са мною і маёй сьвятой мамай.

***

Але пачну свой аповед здалёк, калі я вучыўся ў старэйшай клясе і, як звычайна, вяртаўся дамоў… або часам не вяртаўся. Мяне чакала мама…

Мама, калі я адчыняю старыя разьябаныя дзьверы нашай камуналкі, заўсёды сустракае мяне цёпла, яна заўсёды запытваецца, як у мяне прайшоў вучэбны дзень, абдымае… я яе цалую ў шчаку, яна вешае маю куртку, я іду на кухню, але зразумела, што спачатку мяне накіруюць у ванны пакой мыць рукі, я лёгка пагаджаўся, бо трэба было зь іх змыць пах цыгарэт і пасьпець непрыкметна спаласнуць рот вадою з зубной пастай...

Што я магу сказаць, усё было як звычайна, я адчыніў дзьверы, як я ўжо казаў, разьябаныя дзьверы нашай дзіры… бо на іх месца жывога не было: нейкія латкі, прыбітыя плянкі і старыя дошкі, дзіркі ад старых замкоў і ручак… да ўсяго яшчэ дзверы дзіка рыпучыя, і за некаторымі латкамі скразьняк, бо аднойчы дзядзевы сябры стралялі ў гэтыя дзьверы…

Я іх нарэшце адчыняю, але дзьверы не да канца адчыняюцца, ім штосьці замінае… быццам мех з бульбаю нейкі, ці што?

Мне ўдаецца неяк праціснуцца, і я сутыкаюся з такой карцінай: мой дзядзька, брат мамы, б’е яе нагамі… а яна ляжыць і нават нічога ня кажа, толькі ціха стогне.

– Што за хуйня! – я кідаюся на дзядзьку з кулакамі, ён уварочваецца, усьміхаецца.

Кажа мне:

– Пляміш, ня суйся, чуеш, – і, рэзкім штуршком адкінуўшы мяне ўбок, сыходзіць вонкі, пераступіўшы цераз маму.

Зразумела, ніхто мянтоў ня кліча, бо гэтыя сабакі ізноў пасадзяць яго за краты, трэба маўчаць… підарасы! Але я выклікаю хуткую. Кажу ім, што мама страціла прытомнасьць і ўпала на стол, ад чаго пабіла бок… ну так, блядзь, менавіта так… сукі, слухайце ўсе… страціла прытомнасьць і ўпала! Дзядзьку здаць нельга, дзядзька можа сесьці… ён можа ня толькі сесьці, але і ня даць нам жыцьця праз гэта… і, акрамя яго, нам ніякага жыцьця і так няма ад бабкі ды іншых “сваякоў”.

Маму забіраюць на суткі ў бальніцу, я настойваю, а сам, нават не чакаючы малога са школы, нічога нікому ня кажучы, выпраўляюся да сваёй ужо былой дзяўчыны, у мяне важкая падстава застацца ў яе ночыць, нават калі дома яе самотная маці…

То-бок падумайце альбо, ня ведаю, уявіце… я тут толькі што перажываю такую жудасную драму, але замест таго, каб штосьці зрабіць разумнае, вартае сям’і, я тупа ўспамінаю пра сваю былую бабу і еду да яе, абсалютна нармальна разважаючы, што гэта я ахвяра, што гэта ў мяне ад стрэсу ўсё пераблыталася ў галаве, і я цяпер пашкоджаны

і варты спачуваньня… і пакуль я еду, спадзяюся на тое, што ў мяне будзе сэкс… няхай сабе і пакамечаны і, можа быць, сумны, але сэкс.

Увечары набіраю маму, кажу, што дома ня ночу, бо нахуй мне патрэбны гэты згнілы барак, гэтыя ржавыя пакоі, гэты п’яны бацька, бабка гэтая – кодла і ўсе астатнія, хто б там ні быў бы яшчэ прапісаны: дзядзька-наркаман, цётка-вар’ятка альбо які цыган… мне похуй, я ненавіджу нашу сям’ю і асабліва ненавіджу бацьку за тое, што мы ўжо столькі год жывем як апошнія бамжы і хадзячыя мерцьвякі!!! Мама слухае моўчкі і толькі пакрыўджана нагадвае мне, што я пакінуў свайго брата там аднаго, самотнага, галоднага і халоднага.

***

Увогуле ложкі ў нашай сям’і былі чымсьці архетыповым, нейкім юнгаўскім несьвядомым. Мы з братам вечна дзялілі гэтую двухпавярховую дзіцячую труну, нават калі ўжо ногі глядзелі ў вокны, нават калі ўжо калені ўпіраліся ў верхні ложак альбо мае капыты зьвешваліся зьверху… мы адвечна былі скукожаныя на сваіх спальных месцах… скурчваліся ў позы эмбрыёнаў і спалі, марылі, мастурбавалі там… мне ўдавалася нават прыводзіць дзяўчат на другі паверх гэтага ложка, калі бацькі зьяжджалі ў вёску да сваякоў… ложак у розныя бакі рухаецца, мы адтуль зьляцім, я сур’ёзна, зьляцім на падлогу і я як мінімум зламаю сабе чэлес… але нічога, ня падаем, толькі ўва ўсе бакі ўсё варушыцца, як на цягніку… а яна стогне “што ты са мной робіш, о што ты са мной робіш!”… брат у гэты час звычайна чакае на кухні альбо перад зачыненымі дзьвярыма. Альбо яго ўвогуле няма дома.

Брат часта сплаўляўся зь сябрамі сноўдаць па раёне… калі зусім малы быў, дык яшчэ нічога, маяліся там рознай бясшкоднай дрэньню… пакуль не пачалі піць “Глікадзін”… вось тады ўжо нікому не было да сну, сэксу альбо адпачынку перад тэлевізарам…

Ложак маіх бацькоў быў ложкам іх першага каханьня, першага сэксу, першага сну, і ўвогуле гэты ложак бачыў за свой час усё – і запіл як мяне, так і брата, і гвалт, і бойкі, і жудасныя сны, і каляровыя сьненьні, і мае першыя няўдалыя спробы любошчаў, а потым плаўна і непрыкметна гэты ложак, а дакладней канапа-кніга, зьмяніўшы сялянскую хату на пакой у трохпакаёўцы, нарэшце пераехаў у новую кватэру ў пакой малодшага, а бацькі набылі сабе набор з ложка, камода і шафы зь дзьвюма маленькімі тумбачкамі… і ў жыцьці маёй мамы гэты “спальны” набор быў першым і самым жаданым у новай кватэры, і, паводле далейшага разьвіцьця жыцьцёвай ленты Мёбіўса, гэты ж новы вялікі модны ложак стаўся для яе месцам апошніх дзён, апошніх словаў.

А што здарылася потым з той эпахальнай канапай-кнігай, запытаецеся вы… а здарылася наступнае: пасьля таго як мамы ня стала, мы счакалі з паўгода і пераехалі з В. і Хурмой са здымнай кватэры назад… а мой брат жыў і працаваў ужо ў Маскве, мы дамовіліся выкінуць нахуй гэты ложак любошчаў і драмы, але, зразумела, счакаўшы, калі і бацька зьедзе ў Расею на працу, каб ня бачыў гэтага і не замінаў, бо ён занадта сэнтымэнтальны і барахольшчык да мозгу касьцей… я аднёс гэты ложак, а дакладней канапу-кнігу, на вуліцу, паставіў ля пад’езда…

Не, ну вы ўяўляеце… пражыць палову жыцьця на канапе-кнізе, спружыны якой упіраліся б вам у сьпіну, але вы толькі падкладалі б паболей пледаў і прасьцінак… мая маці не магла дазволіць сабе ложак усё жыцьцё, але чаму тады я мог дазволіць сабе і ежу, і вопратку, і платнае навучаньне?! Таму што самаахвярнасьць маёй мамы ня ведала межаў, бо яе сэрца ўжо даўно было парэзаным на кавалкі і зь вялікай любоўю пакладзенае нам з братам у кішэнькі нашых адпрасаваных, са стрэлкамі, штаноў… кавалачкі сэрцаў нам з братам, проста ў кішэньках… і спачатку гэтыя кавалачкі заўсёды былі вільготнымі, але потым засохлі, і мы з братам павесілі іх сабе на шыі, побач з крыжыкамі.

І што, вы думаеце, здарылася з выкінутым ложкам? Усе выходныя на гэтай канапе пілі падлеткі… пілі, і курылі, і ставілі адно аднаму засосы… варта было толькі вынесьці гэтую д’ябальскую рэч на вуліцу, як яе адразу акупавалі гавенныя байструкі… я ня вытрымаў такой зьнявагі, нават да гэтага ложка, які выклікаў у мяне толькі агіду і шкадаваньне… я сарваў сьпіну, але, блядзь, аднёс яго на вялікі сьметнік і ляснуў аб асфальт, каб ножкі яго ў розныя бакі разьляцеліся!

***

Усё маё дзяцінства і дзяцінства майго брата поўнілася неспадзяванкамі, калі варта не задаваць пытаньняў, але глядзець ва ўсе бакі, пільна глядзець, сачыць… дзядзька мог падняць шапік і прытарабаніць процьму рознай дробязі, кшталту лякаў для пазногцяў альбо пакункаў жуек, адзежу, прыстаўкі дэндзі… мы карысталіся чымсьці, гралі на прыстаўках у залі, калі нам дазвалялася туды заходзіць. А заходзіць у залю нам маглі дазволіць альбо бабка, аль-

бо цётка... звычайна заля з тэлевізарам была зачыненая, калі іх не было, але ж як мы радаваліся, калі прыходзіў наш дзядзька і проста адчыняў залю, уключаў тэлевізар і прыстаўку і мы зь ім гулялі, часам ён нават прыносіў колу альбо яшчэ штосьці неверагоднае. Дзядзька мог прыйсьці зь сябрамі, і яны калоліся і вырубаліся, і мы з братам маглі гуляць у прыстаўку колькі хочацца, пакуль ня вернецца з працы хтосьці з нашых бацькоў альбо, што, вядома, нашмат горш, – бабка.

У нас усё было б вельмі файна ў жыцьці, калі б не было так неверагодна жудасна і цяжка ў дзяцінстве, і той факт, што мы разам з братам вырасьлі ў адносна адэкватных мужчын, – гэта стоадсоткавая заслуга маёй мамы.

І, напэўна, мы цяпер робім усё так, каб ня быць падобнымі да бацькі, мы стараемся не злоўжываць алькаголем, быць сапраўднымі адданымі мужамі...

Што б ні адбывалася ў нашым парваным жыцьці, мама заўсёды прыходзіла на дапамогу, яна магла нас ратаваць і дапамагчы выкараскацца зь любой пасткі.

Быў час, калі на аўтазаводзе, дзе працаваў мой бацька, заробак выдавалі рэчамі. Не істотна якімі... часам гэта была рэальная неспадзяванка... паябень, якую нідзе ня скінеш. Ну добра было б, калі б завод даваў замест грошай маторы альбо нейкія каштоўныя рэчы, але часам гэта даводзіла нашу сям’ю да гістэрычных прыпадкаў... калі мама, як мне здавалася, весялілася не па тэме. Ноч, бацька п’яны на падлозе сьпіць, да гэтага раскідаўшы па пакоі колькі паперак – беларускія рублі! Каля бацькі ляжаць чырвоныя чаравікі... вельмі дарагія чырвоныя жаночыя чаравікі, якія немагчыма зварыць і зьесьці з маслам, сыр на іх не пакладзеш, не пасмажыш, і яны нахуй нікому не патрэбныя, а мама сядзіць

на ложку і сьмяецца, а я на сваім другім ложкавым паверсе раблю выгляд, што сплю, і назіраю ў шчылінку з-пад коўдры, і не разумею, чаму гэта мама сьмяецца, калі зусім тут ня сьмешна ўсё. І брат мой таксама ляжыць на першым ложкавым паверсе, і таксама робіць выгляд, што сьпіць, і думае, прыдумляе, якім чынам можна зварыць з чырвоных жаночых чаравікаў суп альбо мо іх пастарацца стушыць?..

Бацька заўсёды любіў нас пацешыць сваімі гісторыямі, мы часта чакалі яго дамоў, як пасьля вайны альбо нейкіх дзіўных прыгод. У пакоі заўсёды ўвечары была напружаная атмасфэра, і пакуль я не пасталеў і не пачаў па вечарох сядзець з гітарай і “крыжачком” у пад’ездах, гэтую атмасфэру я адчуваў скураю, яна была як кісель, гэтую атмасфэру чаканьня, нэрваў і адвечнага спадзяваньня можна было есьці лыжкаю проста з паветра.

Вось мы ляжым у ложках, бабка нас прагнала з залі, выключыла тэлевізар і ўсіх адправіла, бо зьбіраецца спаць… так, з залі, самага вялікага пакоя ў кватэры, велізарнага, а мы ўчацьвярых у каморцы – дзевяць квадратных мэтраў… і нам зусім ня хочацца спаць, таму мы ляжым, чакаем, мама ляжыць у сваім ложку, па баках разам зь ёй – мы з братам… яна нас гладзіць па галовах… усё было б найцудоўна ў гэтым вечары, калі б мы не чакалі зь невядомага падарожжа нашага бацьку.

Мінула гадзіна, мы пасьпелі прыснуць, як у пакой падае цела бацькі, нос паламаны, вочы разьбітыя… ён піў зь сябрамі пасьля працы ў бары і вырашыў нахабна пазнаёміцца зь нейкай блядзінай, якая была не адна… нам

распавядае бацькаў сябра, чалавек, які заўсёды выглядае нармалёвым, пры любым стане алькагольнага ап’яненьня. Ну што ж, дзякуй вам, сябра бацькі Л., мы вельмі радыя, што дачакаліся гэтага вепрука…

***

Гэта немагчыма сабе ўявіць, як мы раней з братам біліся… зразумела, мы былі пацанамі і біцца для нас – абсалютна нармальна, і толькі мама заўсёды казала, што, калі яе ня стане, мы з братам будзем адзіныя блізкія людзі на плянэце. Нас гэта супыняла, мы апускалі галовы, мы не хацелі, каб мамы ня стала, і нам зусім не хацелася заставацца настолькі самотнымі на плянэце.

Але біліся мы зь ім як супэргерoі!

Брат утыкаў мне ў плячо нажніцы, рэзаў мне жывот бітай вазай, а я ў сваю чаргу разьбіваў яму вока і нос.

І, здаецца мне, самая грандыёзная бойка зь ім у нас здарылася аднойчы летам. Біцца і сварыцца мы пачалі яшчэ на кухні, і брат пабег ад мяне ў наш пакой. Я за ім. Ён толькі пасьпеў зачыніць за сабою дзьверы і абаперціся, каб я ня змог уварвацца з кулакамі.

Усё здарылася такім чынам: я з разгону кінуўся на дзьверы і плячом вынес іх разам зь дзьвярной каробкай.

Дзьверы ўпалі на брата… брат зь дзьвярыма паляцеў на бацькоўскі ложак, а ложак сваімі ножкамі прабіў драўляную падлогу.

Такая карціна ўвечары для мамы: выбітыя дзьверы з каробкай ляжаць на ложку, які праламіў падлогу, і малодшы сын з падбітым вокам.

***

З часам, калі ў мяне стаў ламацца голас і я дастаткова насмактаўся з дваровымі дзяўчатамі падчас гульні ў бутэлечку, я пачаў шукаць больш глыбокіх і сур’ёзных адносінаў з супрацьлеглым полам… так… я адразу прыкмеціў сабе адну з найпрыгажэйшых дзяўчат у школе ў старэйшай клясе.

Я, вядома, самым сапраўдным нахабным чынам вырашыў, што яна будзе маёй нягледзячы ні на што… ні на тое, што яна нашмат прыгажэйшая за большую палову дзяўчат на плянэце, вышэйшая за большасьць аднаклясьніц у сьвеце… і побач са мною яна выглядала яшчэ больш прывабнай, бо я быў каратканогі, нязграбны, поўны і да таго ж патлаты.

Вы падумаеце, што такое немагчыма, што я нейкі вар’ят, калі вырашыў, што яна стане маёй сяброўкай. Да ўсяго яе былы хлопец штодзень ашываўся ў нашай агульнай кампаніі, і падобны ён быў да сумесі Бруса Ўіліса з Ісусам Хрыстом. Гэты чалавек, і ня толькі ён, але і яшчэ тузін такіх жа прыгожых ідыётаў і гопнікаў, папярэдзіў мяне, заўважыўшы мае пацуковыя заляцаньні да галоўнай прыгажуні раёну, што калі я адважуся хоць на што адносна яе – мне пізда… мне пізда ад кожнага зь іх паасобку ў розных дварах і падземных пераходах, і пізда мне агульная ад усяго раёну. Бо такія цёлачкі павінныя… проста абавязаныя быць з героямі.

Ладна, падумаў я… ідзіце ўсе ў сраку, але мне яна патрэбная, толькі яна, і ўсё будзе, як я гэта заплянаваў. Не інакш.

Некалькі месяцаў было выдаткавана на зьдзяйсьненьне плянаў і яшчэ паўгода на тое, каб у нас зь ёй атрымліваўся файны, юнацкі, гарачы, якасны сэкс.

Мы былі ў экстазе ад усяго на сьвеце, нас прываблівалі любыя завулкі і куты: парк, лаўкі, някошаная трава, дахі, ліфты, лесьвічныя клеткі і нават трамвай былі дасьледаваныя намі як найлепшыя месцы для сэксу.

У нас атрымлівалася піліцца нават у пакоі, пакуль мама была на кухні, а астатнія суседзі па кватэры ў сваіх норах і дзірах… усё проста, не здымаючы ніводнай рэчы з адзеньня… толькі расшпіленая шырынка і яе прыпаднятая спадніца і ссунутыя крыху набок стрынгі. Кожны раз мы ябаліся як апошні, і зразумела, што часам мог выпадкова зазірнуць хто заўгодна з дванаццаці сужыцеляў у наш пакой… але звонку магло падацца, што я чытаю сваёй дзяўчыне кнігу, а яна сядзіць у мяне на руках… усё прыстойна…

І толькі мама неяк мне аднойчы сказала, так, раптоўна, нечакана і выпадкова… калі вырашыла навучыць мяне вязаць, альбо калі не навучыць, у скрайнім выпадку зьдзівіць гэтым цудам – як хутка ў яе бегаюць пальцы… і сказала яна мне: “Ты б, сынок, хаця б мамы пасаромеўся” – і я адразу ўсё зразумеў і вельмі пакрыўдзіўся на яе… і пачаў крычаць і сварыцца, што яна лухту нейкую вярзе, што яна зусім нахабная – нейкія рэчы мне гнюсныя казаць!

Я абураюся, а сам разумею, наколькі па-дурацку выглядаю, пыхлівы даўбаёб…

Вось зараз пішу пра гэта, а перад вачыма то пасунутыя ўбок стрынгі, то хуткія маміны рукі, якія вучаць мяне вязаць… што рабіць? Можа, выкалаць сабе вочы і пажыць у целе Эдыпа? А можа, адрэзаць пэніс і пайсьці да скапцоў маліцца?!

Што рабіць? Што рабіць? Што рабіць?

***

Вечар, травень… заўтра амаль апошні дзень у школе і потым экзамэны… хутка я буду абітурыентам… у мяне будуць два з паловай месяцы ў жыцьці, калі я буду звацца абітурыентам… буду ня рыбай ня мясам… гаўном на палачцы, пацаном, толькі што выйшаўшым з родных адзінаццацігадовых турэмных пэнатаў, чалавекам, юнаком, адчайна жадаючым як мага болей заставацца разьдзяўбаем і гаўном адначасова, каб захаваць хоць якія ўдалыя ўспаміны пра дзяцінства.

Вечар, травень, я зайшоў дамой тупа пасраць і падмыцца, бо гігіена мусіць хоць калісьці здарацца ў прапахлага гармонамі хлопца.

– Усё, сёньня хопіць! – кажа мне мама.

– Як гэта хопіць? Што значыць хопіць?!

– Я кажу: хопіць сёньня швэндацца незразумела дзе і да невядома якога часу!!!

Я пізьдзец як раззлаваны! Ніхто і нішто ня можа мяне спыніць! Як гэта я нікуды не пайду, калі лета, гармоны і блядзкі партвэйн у руках Андрэя кажуць мне аб іншым… вабяць мяне… патрабуюць ламаць межы, бар’еры і іншыя перашкоды.

Мама проста кладзецца на ложак у нашай каморы і кажа, што калі я куды пайду, то няхай… ёй кепска, яна памірае… і калі мне дазволіць сыноўнае сумленьне пакінуць маці ў такім цяжкім стане, з такім высокім ціскам і сэрцабіцьцём і пульсам… то няхай… няхай я пайду на ўсе чатыры бакі! Мама просіць бацьку хоць штосьці сказаць, бо бачыш, ён жа і курыць, і п’е, і невядома чым яшчэ займаецца! Можа быць, ён ужо нават клей нюхае…

Я заходджу ў прыбіральню. Сру… потым падціраюся, у ванным пакоі падмываюся, намазваю падпахі дэададрантам і ў калідоры ўжо крычу, што я ня нюхаю клей, я п’ю партвэйн, куру і кахаюся ў падваротнях з Ж.! І ў сэкунду да таго, як ляснуць уваходнымі дзьвярыма, я чую, як зь іншых пакояў на розныя лады і танальнасьці сьмяюцца нашыя сваякі-сужыцелі, нашыя пацукі і пацучыхі… нашыя прусакі і сабакі… суседзі і проста наркаманы і злодзеі… злодзеі, варажбіткі, старыя бёрджэсаўскія “пціцы”, няма на іх Алексаў...

Я сышоў… а мама не паднялася і нават ня крыкнула мне нічога ў сьпіну… а бацька… ну што бацька… ён сядзеў на кухні… чуў усё… але як звычайна: “ну што я яму скажу?!”… яму, здаецца, заўсёды тэлевізар і вадзяра былі найбліжэйшымі сябрамі і дзецьмі.

***

Мой дарагі чытачу, ты, напэўна, лічыш мяне злосным курдупелем, сьмярдзючай дупаю, думаеш, што я так адчайна ненавіджу ўсіх навокал, што мацюкаюся па-чорнаму і спускаю свае нэрвы без тармазоў… але павер мне, я вельмі люблю сваю сям’ю, і за маці маё сэрца разрываецца на кавалкі, і кавалкі сэрца рвуцца на яшчэ больш дробныя кавалкі, якія ў сваю чаргу россыпам каляровых агнёў успыхваюць, як тытунёвая папера, і грудзі палаюць, і цела пячэ, і баліць за ўсё тое, што адбылося зь ёю, за ўсе тыя пакуты, якія было б цяжка трываць дзесяцярым асілкам!!! У мяне адчай, і разгубленасьць, і процьма пытаньняў: “Каму гэта было трэба? Хто бачыў карысьць у гэтых пакутах?! У каго была такая мэта, каб давесьці да такога адчаю мяне і маю маму?”

Можа быць, вінаваты Бог? А можа, ягоны Сын?

А можа быць, тут пазабавіўся дзядзька Люцыпар?

Альбо там Алах вырашыў адпомсьціць няверная?

Навошта было даводзіць чалавека, прышлага ў гэты сьвет з агромністым заплечнікам дабрыні і любові да ўсяго жывога?..

Каму мне плюнуць у твар за тое, што так выматаў яе сьвятое цела, так зьнішчыў яе прыгожы стан хваробаю?!

Але Яна так мужна, так цьвёрда і ўпэўнена змагалася з усімі пакутамі і наваламі, што ўзвысілася да самых нябёсаў, узмацнілася духоўна да такога стану, што сышла на Нябёсы роўна на сьвятую Пасху, калі брамы Раю былі адчыненыя наросхрыст і чакалі менавіта яе…

***

З мамай у мяне былі адносіны не заўсёды адкрытыя і шчыра любячыя… я мог пасварыцца зь ёю… мог проста ўсчыніць сварку і прывесьці дамоў якую дзяўчыну, перад гэтым выпіўшы… здаралася, калі яна мяне будзіла на пары, я праз алькагольны тлум спрабаваў яе ўдарыць і нават ня памятаў пра гэта… быццам сам нячысьцік заблытваў мяне перад прачынаньнем. Але я заўсёды выбачаўся, я потым пакутаваў некалькі дзён, што мог так сябе паводзіць.

Мой дурны характар дыктаваў мне процьму розных шаблёнаў гнюсных паводзін, і я, як ішак, ішоў паводле іх наперад, калі насамрэч варта было б зрабіць два крокі назад!

Аднойчы бацькі знайшлі маю калекцыю голых курвяг. Здарылася гэта ў мае чатырнаццаць год… я, як і абсалютная большасьць гетэрасэксуальных пацаноў, зьбіраў выявы з голымі бабамі: фішкі, кардонкі, фанцікі, выразкі з газэтаў, часопісаў і іншых крыніц былі акуратна складзеныя ў спэцыяльную кардонную тэчку з матузкамі і выціснутым словам “ДЕЛО №”. Ня ведаю, якім чынам знайшлі мой скарб для дрочыва, але ўвечары, калі я ўжо быў у сваім ложку на другім паверсе і глядзеў на ўзоры дывана, які вісеў на сьценцы, мае бацькі ўварваліся ў пакой і пачалі на мяне крычаць і абурацца! Прычым ня тым крыкам, у якім ёсьць свой пачатак, кульмінацыя і канец… усё адразу пачалося з кульмінацыі… і я ляжаў, закрыўшы галаву падушкаю, і разважаў, даўно яны рыхтаваліся да гэтага на кухні? Раіліся і сварыліся, як данесьці да мяне тую рэч, што рукаблудзіць і калекцыянаваць выявы голых жанчын – гэта грэх?

Я, шчыра, быў вельмі засмучаны і нават пачаў плакаць, але я таксама не разумеў, чаму жаночае цела – грэх… калі я сам колькі разоў чуў, як мае продкі на сваім ложку варочаюцца і стогнуць? Мне ж дакладна няма з кім стагнаць, таму і даводзіцца зьбіраць голых цёлак і зачыняцца ў прыбіральні альбо ў ванным пакоі!

Ня ведаю, як доўга на мяне сварыліся б, калі б ня мама… дзіўна, але я заўсёды думаў, што тата ў мужчынскіх пытаньнях мусіць быць мне бліжэйшым… ну прынамсі хоць тут неяк мяне падтрымаць, але ўсё закончыла маці, яна мяне праз хвіліну ўжо супакойвала і гладзіла маю галаву праз намоклую ад сьлёз падушку…

На наступны дзень ніхто нават і ня ўспомніў пра вечар, але сваю калекцыю я ўжо нідзе не знайшоў… давялося

наноў зьбіраць, але там ужо на даляглядзе было больш жарсьці, якая прыходзіла да мяне звонку: аднакалясьніцы, сяброўкі, гульні ў бутэлечку, засосы і пэтынг.

***

Такія дні запамінаюцца звычайна на вельмі доўгі час… можна пра іх памятаць, нават калі адсохне мозг і цела будзе рэагаваць толькі на зьнешні раздражняльнік… гэта быццам табе праз усё цела прапускаюць электрычны ток і перад вачыма праносяцца вольтавыя яскравыя ўспаміны, якія немагчыма выпаліць ніводным полымем і лязэрам, нават калі вочы ператворацца ў вараныя яйкі.

Было сонца, яно адчайна сьвяціла ў бацькоўскі пакой, нішто не магло суцішыць і распусьціць гэтыя промні, яны сьвяцілі няўмольна і весела, і нам было неверагодна весела, нам з бацькам было весела так, што хоць плач, бо калі ты ў сямейніках і майцы-алкагалічцы, а ў пакоі стаіць сьпёка і пах перагару і поту, ня вельмі хочацца дапамагаць зьбіраць новы ложак. Але ёсьць верагоднасьць таго, што, калі я не дапамагу, адзін бацька можа ня справіцца, і тады дзе сёньня спаць маёй маці, бо старая канапа ўжо перастаўлена да брата, а зь яго пакоя нарэшце зьехаў стары двухпавярховы ложак… так, зьехаў да сваякоў, а то ж… нішто на сьметніцу ня пойдзе! У вялікай і беднай сям’і.

Дарэчы, не адразу сказаў, так, мы знаходзімся ў новай кватэры, мама адчайна змагалася атрымаць сацыяльнае жытло, так старалася, што цалкам падарвала сваё здароўе! Так намагалася, што ўжо больш ні на што не засталося моцы – ані дыхаць, ані цікавіцца чымсьці… толькі думкамі штохвіліны зьвяртацца да раку ў грудзёх, пад пахамі, у лёгкіх…

Мы з бацькам корпаемся з новым ложкам, разьбіраем яго на дэтальки і спрабуем сабраць гэты канструктар… нязграбны і завялікі канструктар, бо мама замовіла такі вялікі ложак, што яна на ім будзе потым глядзецца, як маленькая птушачка, пад слаямі пледаў і коўдраў…

Вось мы скруцілі шкілет ад ложка, такі своеасаблівы подыюм, пастамэнт. Маленькая сцэна… Кладзем зьверху матрац і разумеем, што ўвесь шкілет няправільна скручаны, бо матрац ляжыць у форме разгорнутай і перавернутай карэньчыкам кнігі, ну літаральна – пагорак…

“Блядзь! Перакручваем, але я спачатку пайду пакуру!”

Я чакаю бацьку зь перакуру, сяджу на падлозе, на халодным лінолеўме… мне б скінуць вагу… кіляграмаў так дваццаць, мо так не абліваўся б потам падчас збору ложка. Сяджу, адчуваю сракай холад падлогі, мружачыся ад промняў сонца… чую, як мама на кухні гутарыць па мабільным са сваёй сяброўкаю Хавабэль:

“Што такое кажаш? Расім ізноў?! Вось гэты хлопец!” – і далей яе прыгожага голасу не чуваць, яна ўключыла электрачайнік, ён пачынае кіпяціць ваду… мама будзе піць гарбату… як ёй падабаецца: адна-дзьве крупіначкі на кіпень – колер гарбаты празрыста-сонечны – і лыжка цукру.

Вяртаецца бацька… ад яго пахне цыгарэтамі і алькаголем, ён, вядома, пасьпеў хлопнуць сто грам… гэта азначае, што варта пасьпяшацца са зборам новага ложка, бо ён хутка ап’янее, а я адзін не падыму матрац, які можа зьмясьціць адразу тры сьвінгерскія парачкі.

***

Мне здаецца, страта маці для чалавека з’яўляецца найбольшай стратай у сьвеце… што б хто ні казаў пра гэта, але можна перажыць усё абсалютна, толькі ня гэта.

З мамай можна сварыцца, можна ад яе сыходзіць, ляснуўшы дзьвярыма, а можна яе моцна абдымаць і радавацца, калі ляжыш на яе каленах і адчуваеш, як яна гладзіць цябе па галаве… з мамай тваё жыцьцё пэрманэнтна, нават на адлегласьці абароненае і мае сваю лёгіку і сэнс існаваньня.

Калі ў цябе штосьці здараецца ў жыцьці, ты звоніш спачатку маме, а потым сваёй жанчыне… калі ты застаесься бяз маці, твае думкі пачынаюць круціцца вакол адчайных пошукаў сэнсу існаваньня, вартасьці жыцьця і бясконцасьці космасу, і зацягвае гэтае Быцьцё ў чорныя дзіркі мысьленьня, у неабмежаваны абсалют, якому абсалютна похуй на тое, ці ёсьць у цябе хтосьці, хто можа абараніць, абняць, выслухаць, парадавацца, аспрэчыць альбо пачаць за цябе хвалявацца.

Ведалі б вы, мае шаноўныя, як круцілася мама ў маім безграшовым дзяцінстве, але заўсёды падтрымлівала мяне і майго брата… мы хадзілі ў гурточкі, насілі кімано і малявалі дарагімі фарбамі, гралі на музычных інструмэнтах, а яна толькі рамантавала свой адзіны абутак і перашывала і так ужо перашытую спадніцу. Яе любоў і адчай былі бязьмежнымі, яна спакойна магла закласьці што заўгодна дзеля нас. І мне вельмі крыўдна, і адчайна хочацца забіць самога сябе за той мінімум цеплыні, які я ёй аддаваў… проста, ведаеце, мне падлеткам было ня надта ёмка праяўляць свае пачуцьці… потым юнаком мне ізноў

было неяк няёмка, потым я ўжо дарослым лічыў, што яна і так разумее і ведае, што я яе люблю… гэта дзіўна, але нават калі я пішу пра гэта, недзе ўнутры, на ўзроўні падсьвядомага, я апраўдваю сваю пазыцыю і свае дзеяньні… недзе там, калісьці даўно, мне быў закладзены код паводзінаў… генэтычны код, які я мог пераняць ад сваёй бабулі, якая заўсёды сварылася на маму, усчыняла вэрхал і рэзрух і была з усімі халодная і сьлізкая, як выкінутая на бераг рыбіна.

Я б не хацеў застацца жыць з такім характарам… я б хацеў быць пяшчотным і шчырым, хацеў бы стаць на шлях мамы і навучыцца прабачаць, але далей за ўсьмешку мінакам я не дакрочыў, я ўсё такі ж пахмурны ў грамадзкім транспарце, такі ж нелюдзімы са сваякамі і такі ж раздражняльны, як і звычайна, і калі мяне потым не атакуе біпалярны разлад, так званы маніякальна-дэпрэсіўны сындром, я, можа быць, стану самым сьціплым бацькам, і не істотна, калі і як – зьявяцца свае дзеці альбо мы з жонкай прывязем яго з дому…

Але раман не пра гэта, тут я захоўваю сваю маму і спрабую апісаць яе хваробу…

***

Як гэта было… як… хм… вось нават і ня ведаю, з чаго пачаць, бо было гэта непрадказальна і балюча, і адначасова да апошняга ніхто ня верыў.

За дзень да Раства ў мамы ўзялі аналізы на біяпсію… вы ўяўляеце?! За дзень да Раства!!! А дваццаць шостага пазваніў доктар асабіста ёй і сказаў: “аналізы кепскія, рыхтуйцеся да тэрміновай апэрацыі… яна будзе трыццаць першага, гэта найбліжэйшы дзень!”

Спачатку мама проста чакала аналізаў, і мы на Раство былі самі не свае… я сышоў піць з сябрамі… мы сядзелі ў бары гатэля «Плянэта», як на мабільны пазваніў брат і папрасіў вярнуцца дамоў… ён казаў ціха і спакойна, але я разумеў, што ён даводзіць мне інфармацыю далікатна…

Я дома. Мама… яна ў пакоі на ложку, на нашым ёбаным старым засраным парваным ложку! Галавою ў падушках, яна ня плача, яна крычыць, адчайна крычыць, але ізноў жа – робіць гэта так, каб нікога з астатніх не турбаваць, каб з суседняга пакоя гэтага ня чула наша цётка, каб бабка таксама гэтага ня чула… яна не хацела гэтага, яна адчайна не хацела зь імі дзяліцца сваімі сьлязамі, сваім горам, бо яны гэтага зь ёй не падзеляць, яны няздольныя будуць ёй спачуваць… яны ўсе толькі станчаць перад ёй танец дабра і зла, танец шчасьця і безнадзейнасьці… бацька побач на ложку, пахмурны, пануры, працьверазелы… гэта яго Раство, і ён таксама моцна пакутуе…

Я хаджу па пакоі… ну як хаджу… я раблю адзін крок і ўжо апынаюся каля тумбы, паварочваюся, раблю другі крок і адразу апынаюся каля ложка… наш пакой нават ня камэра, наш пакой – будка з чатырма сабакамі… я супакойваю маму як магу, я гутару зь ёй, кажу, што нічога яшчэ не вядома, што ўсё будзе добра, што трэба дачакацца аналізаў. А мама толькі крычыць, плача і стогне і паўтарае “за што, за што, за што, за што!”

Я крочу, як зьвер, туды-сюды, у чорным паліто, у чорным абутку, хаджу і адчуваю, як у мяне сьціскаецца сэрца, як баліць у грудзёх, як увесь гэты сьвет несправядліва накінуўся і катуе маю маму…

А потым надышоў дзень трыццатага сьнежня… мама рыхтавалася да апэрацыі і была ў бальніцы такая маленькая, такая... парцалянавая, усімі кінутая.

І новы год, ябаны новы год, калі пад звон келіхаў і шум пэтардаў я сядзеў у кватэры, якую нам аддалі бацькі маёй першай жонкі, сядзеў і піў, я ня мог ані легчы спаць, ані нажлукціцца… я сядзеў і піў, а мая цяпер ужо даўно былая жонка спала, пакрыўджаная, што я не дазволіў нават уключыць тэлевізар, што ніякага сьвята новага году.

А я ўжо чакаў наступнага дня, калі можна будзе наведаць маму, я думкамі штохвіліны зьвяртаўся да яе, казаў ёй: “усё будзе добра, ты ня бойся, пройдзе апэрацыя і ўсё адбудзецца як мага найлепей…” я зь ёй гутарыў, але ў галаве пульсавалі словы доктара, якіх хворыя ніколі ня чуюць, бо гэты цяжар кладзецца спачатку на плечы іх дзецям, мужам, жонкам, братам і сёстрам: “мэтастазы, мэтастазы, мэтастазы, трэцяя ступень, шанцаў амаль няма, будзем спадзявацца на лепшае, усё зробім, што зможам”.

***

Добра, хто б мне нагадаў мэты і кірунак гэтай кнігі, я быў бы ўсьцешаны, але пакуль нікога такога не знайшлося, давядзецца мне падсьвядома і ня толькі весьці свой бартавы запіс, пакуль маё цела нясецца насустрач чарговым абвалам беларускага рубля і ўвядзеньням новых падаткаў на падаткі, шлюб, дармаедзтва і жыцьцё, а мозг штодзень, штогадзіну вяртаецца да ўспамінаў добрых і ня надта, да асацыяцый і параўнаньняў, да гэтага непаўторнага і вусьцішнага агляду часу, калі было магчыма зрабіць усё што хочаш, але толькі не акрыяць, забіць трохачковы зь сярэдзіны спартовага поля ў кошык, зьлётаць на месяц, напісаць адразу тры кнігі, ня ведаю… выпіць нагбом бутэльку гарэлкі… усё было магчымым, акрамя паляпшэньня здароўя мамы.

Вы, напэўна, думаеце таксама і пра ложкі, якіх было ня так шмат у нашай сям'і, але якія сталіся эпахальнымі атрыбутамі, татэмамі на межах, на прыступках нашых жыцьцёвых крокаў, нашых няшчасных намаганьняў, высілкаў, коўзаньняў… ложкі гэтыя завабліваlі нас у свае мяккія абдымкі, абяцалі нам сьненьні і сэкс, абяцалі нам, што мы нарэшце прачнемся адпачнулыя, абяцалі нам патлумачыць скрозь сны сэнс існаваньня тут і цяпер у гэтай дзіўнай і зусім не сяброўскай краіне… старая канапа-кніга часта рыпела пад целамі бацькоў, а часта і проста спружыніла гучна, калі мы малыя з братам на ёй скокалі… гэтую канапу я рэзаў нажом, яе падлакотнікі прапальвалі цыгарэтамі сябры малога і дзядзькі, на яго ссалі шчанюкі і коткі, а таксама мой п'яны бацька.

Наш з братам двухпавярховы ложак проста стагнаў ад нашага цяжару, калі мы ўтрая перавысілі вагу ў адносасьці да яго магчымасьцяў, калі я караскаўся на верхні паверх у свае дваццаць, калі ночыў дома, п'яны і нязграбны, тоўсты, я адчуваў, як ложак абяцае сваім скрыгатам абрынуцца на галаву майму брату, які ціхамірна спаў, але насамрэч у свае амаль васямнаццаць яго часта на ніжнім ложку не апыналася… я лез і праклінаў сваё жыцьцё і жыцьцё ўсіх маіх сваякоў… я не разумеў, навошта я тут і цяпер, як так апынулася, што лёс выпаў менавіта мне караскацца на гэтую ложкавую гару, на гэты грэбаны алімп беднякоў, на гэтае ненавіснае мне ўзвышша, быццам я апошні ў гэтым сьвеце Сызыф, і цягну я сюды не камень і нават ня свой заплечнік, але крыўду і цяжкі сон, якія абавязкова на раніцу апынуцца на падлозе і будуць мяне чакаць… чакаць, каб я ізноў закінуў сабе на плечы ўвесь гэты непатрэбны друз і пакрочыў ва ўнівэрсытэт альбо на здымную кватэру працаваць і піць…

Гэты самы двухпавярховы ложак зьехаў, часткамі, але зьехаў да сваякоў бацькі ў вёску… я, шчыра кажучы, спадзяваўся, што расхуяру ложак у двары панэльных навабудаў молатам, які ў мяне захоўваўся ўжо з два тыдні, бо я загадзя аб гэтым паклапаціўся…

У новай кватэры, сярод белых сьценаў і незвычайнай прасторы, у сваім новым пакоі, дваццацічатырохгадовы, я ляжаў на старым разабраным і таму аднапавярховым ложку, намагаўся вачыма ахапіць прастору вакол сябе, бо мне належала ажно васямнаццаць квадратных мэтраў, цалкам вольных, акрамя старога стала, такога, на крывых ножках, так званага стала для часопісаў і ноўта… а побач вялікая сталёвая валіза з суседняга гіпэрмаркету з маёй адзежаю, вакол больш нічога не было, але я ляжаў на сваім старым ложку, і ў мяне было адчуваньне, што я ўсё яшчэ знаходжуся ў той самай бляшанцы ў дзевяць квадратаў на чацьвярых… і я рыпеў зубамі, і рыпеў імі так, што эмаль трэскалася, і мне было балюча піць гарачае альбо халоднае… мае вочы балелі ад напружаньня, я ня спаў суткамі… я ляжаў і сядзеў на ложку, я яго ненавідзеў, і першае, што зьбіраўся зрабіць у новай кватэры, гэта замяніць яго на новую, навюткую, замоўленую мною яшчэ месяц таму канапу, неверагодную вялікую, пэрсікавую, вясёлую канапу… канапу-кнігу! Ха! Як вам? Ізноў канапу, блядзь, кнігу! Я сапраўды знайшоў і набыў для сябе менавіта такі ложак, бо ён мне падаўся найбольш камфортным і, што галоўнае, – кампактным! Я мог яго зьбіраць, і мне адкрывалася яшчэ больш прасторы ў такім вялікім пакоі, як цяпер!

Я плянаваў забойства свайго ложка, дакладней верхняга ложка з двухпавярховага ансамбля! Брат мой не замарочваўся, адразу пагадзіўся свой стары ложак аддаць

сваякам бацькі, а ў сябе паставіць часова старую канапу бацькоў… я ж у сваю чаргу чакаў… і чакаў не абы-што, бо ў маёй канапы-кнігі не было ніякіх крывых падлакотнікаў, ніякіх згнілых спружын, і колер яна мела летні, і была сама па сабе ня мяккаю, што мяне цалкам задавальняла.

Сьмерць старому ложку я плянаваў спачатку праз агонь, але падумаў, што будзе палаць доўга і курэць, а ў нашым новым двары камэры паўсюль, ён новы зусім, абавязкова хтосьці ня дасьць мне давесьці справу да канца!

Потым я плянаваў гэты ложак парэзаць нажом, затачыць японскі цясак – і ўсьцяж яго па матрацы, і ўздоўж яго па рэбрах! Але ціха і непрыкметна гэтага ня зробіш… таму я вырашыў для ўсіх новых суседзяў зь першага знаёмства паказацца не такім вар’ятам, якім ёсьць, і заплянаваў сьмерць свайму ложку праз “раздрызг” цяжкім молатам на агульнай сьметніцы, на вачах абываталяў, алькаголікаў і проста няўклюдаў, якім няма чаго рабіць, акрамя як назіраць за маім ложкавым забойствам.

Але, але, але… мой ложак зьехаў адразу, як да мяне служба дастаўкі прывалакла новую канапу! Вось літаральна ў абед я свой стары ложак выкінуў у агульны калідор, паставіў на ногі новую канапу, прылёг на яе на хвілінку і не прыкмеціў, што заснуў ажно амаль на суткі… заснуў як немаўля на гэтым сьвятым і новым ложку, як анёл у атачэньні паветра, прасторы і новых шпалераў…

Я прачнуўся і даведаўся, што бацька ўжо адвёз сваякам усё, што я так хацеў раскалоць, усё, чаму наканавана было памерці ад раздрызгу, ад крыўды і назапашанай злосьці… напэўна, гэты ложак і цяпер недзе стаіць, у доме далёкіх і блізкі сваякоў, стаіць ён такі – і памятае сваім

нутром адбітак майго цела, смак маіх сьлёз і поту, памятае ўсе мае сны і пакуты, ціхенька так рыпіць і чакае свайго новага гаспадара… які абавязкова прылепіць пад ягоным матрасам жуйку альбо соплі… бо так робіць кожны новы гаспадар, пакідае ня толькі свой пот, сьлёзы, спэрму і адслоены эпідэрміс, але і казюркі, і жуйкі, і кроў, і лужыны гарбаты, кока-колы, піва, курынага супу – усё памятае і ўсё утрымлівае ў сабе ложак… усім усё прабачае, і не жадае іншага, і проста прымае як дадзенае.

***

Ну што, як вы… сябры… не стаміліся? Ёсьць яшчэ моц і імпэт прадзірацца скрозь увесь гэты сумны трэш далей? Праз гэты зусім не дзіцячы сумны суп. Будзем далей працягваць сёрбаць яго лыжкамі ці возьмем у рукі талерку і пачнем піць вялікімі глыткамі?

Чаго вам больш хацелася б? Напэўна, ніколі не чытаць такіх раманаў, ніколі не каштаваць на смак такім чынам прыгатаваныя стравы, што ад іх хочацца задушыцца… бадай вы і не разьлічвалі ніколі ў сваім жыцьці сутыкнуцца з такой кнігай, якая прымушае вас параўноўваць, шкадаваць і, напэўна, лічыць аўтара злосным курдупелем, але запэўніваю вас, аўтару самому далёка ня найс і яму насамрэч зусім ня хочацца пра ўсё гэта гутарыць, пісаць пра гэта, успамінаць і рабіць з гэтага кнігу… але па-іншаму не атрымаецца: альбо я давяду сябе да вар'яцтва, альбо ў мяне разарвецца грудная клетка, альбо я напішу пра ўсё гэта і прымушу вас падзяліць са мною боль і крык, і калі як мага болей людзей гэта прачытаюць і падзеляць са мною мой смутак і маё вар'яцтва, маю неўраўнаважанасьць,

мае пакуты, то і я пачну адчуваць сябе лягчэй, і такім чынам мы ўсе падзелім сум чытаньня і вернем адно аднаму процьму сьветлага каханьня і яскравага шчасьця…

Але хопіць пра рамантыку і хопіць скардзіцца, давайце мне свае рукі, трымайцеся за мяне моцна, бо зараз мы скокаем наўпрост у дзевяноста восьмы, і скокаем туды без страхоўкі і парашутаў, прызямляемся на старую канапу, старую разьябаную канапу, якая месьціць у сабе не адну калёнію мурашоў, клапоў і павукоў замест набіўкі, але зьверху засланая прыгожай накрыўкай, такім пледам, які мая бабка вельмі любіць і нікога не пускае на ім сядзець, як нікога з нас, малых, не пускае сядзець і на канапе…

Вось, мае дарагія чытачы, мы падаем на гэтую канапу і падымаем слуп пылу… усе жыхары канапы вылятаюць вонкі… тут і мурашы, і павукі, і клапы, і тараканы, і мы, і покрыва старое…

З залі выбягае бабка і пачынае крычаць на нас:

– Ах вы грэбаныя бастарды, ах вы скатабазы! Ану пайшлі прэч адсюль! Я тут прыбірала і пыласосіла! Пайшлі прэч хутчэй!

І мы з вамі ў споўзлых шкарпэтках і расьцягнутых майтках і саколках бяжым у свой маленькі пакой…

У пакоі мама і тата… мама ў ложку, за яе сьпінаю дзьве падушкі, яна напаўляжыць і чытае… бацька глядзіць тэлевізар, таксама ў ложку… бо ён, тыдзень таму псыхануўшы, што такая процьма народу штохвіліны ходзіць вакол на кухні і замінае глядзець тэлек, які стаіць на лядоўні, прытарабаніў аграменны тэлевізар у пакой і паставіў на наш з братам пісьмовы стол, і цяпер у нас настолькі мала месца ў пакоі, што, здаецца, нават стаяць – і тое няўтульна.

Вось мы заляцелі ў пакой і паскокалі хто куды па сваіх ложках… брат уніз, я на верхні ложак, ляжым… затаіліся…

Бабка ходзіць за дзьвярыма, скардзіцца, крычыць і не супакойваецца. І гэта ўпершыню, калі мой бацька, не да канца п’яны, але даволі выпіўшы, вырашае за нас пастаяць, так бы мовіць – абараніць нас…

Ён выходзіць з пакоя, і мы чуем, як бабка пачынае выць… я сур’ёзна, яна пачынае выць як жывёла, але занадта тонка і гучна, як сырэна… мы з братам пераглядваемся, бо я зьвешваю зьверху сваю галаву і гляджу на яго… у гэты момант увесь час маўклівая мама падхопліваецца і выбягае з пакоя… мы чуем крык, гукі бойкі, яшчэ штосьці… хочацца плакаць… проста ляжаць і плакаць…

Праз хвіліну бацькі вяртаюцца ў пакой… бацька моцна ўвесь падрапаны, на ім парваная саколка-алькагалічка, бяз рукавоў… бацька сам ня свой… нейкі ціхі… ён нават не жадае дапіваць… мама проста кладзецца ў ложак і адварочваецца да сьценкі, дзе вісіць кілім.

А за дзьвярыма толькі і чуваць:

– Калі вы ўжо адсюль зьедзеце! Сукі! Панарасьцілі тут яшчэ сваіх! Я ў вашым узросьце ўжо дзьве кватэры мела! Скаты! Піздуйце адсюль ужо! Давялі вунь мяне, ажно сэрца баліць! І ціск вунь які павышаны цяпер! Сьмерці маёй жадаеце! А вось хуй вам! Хуй вам! Самі яшчэ падохнеце, а я жыць тут буду!!!

***

Пераехаць жыць на здымную кватэру нам з В. было ці ня самым цяжкім рашэньнем за год… я ніяк ня мог вырашыцца на гэта… мы, па сутнасьці, даўно б з В. пераехалі

жыць сваёй сям’ёй, але дзеля мамы адкладалі гэта кожным разам. Настаў час, калі і маме крыху лягчэй стала, і я сам сасьпеў да гэтага, бо адна справа, калі ты зьяжджаеш куды тэрмінова па стыпэндыяльнай праграме альбо ў камандзіроўку, і гэта звычайна доўжыцца ад месяца да трох, ня лічачы маёй Нямеччыны, якая прыняла мяне і мае беды ажно на паўгода.

Падрыхтоўваць да гэтага я пачаў маму загадзя, за чатыры месяцы да пераезду, але і гэта было мне цяжкім выпрабаваньнем. З аднаго боку, хацелася спакойна жыць і працаваць, а з другога – я лічыў сябе няўдзячным сынам, які зьяжджае… зразумела, што ніхто не зьбіраўся маму пакідаць, і брат мой, ужо жывушы і працаваўшы ў Маскве, знаходзіў штомесяц час, каб яе наведаць, але мне было крыўдна за тое, што бацька нічога не прадпрымаў, гэты чалавек спакойна мог суцішыць маме адзіноту, дапамагчы ёй, але ён часта прыходзіў дамоў пьяны... таму мы вырашылі з братам і нашымі жонкамі, што будзем аплачваць маме няньку на дзень, каб яна сябе ня так самотна адчувала…

Зразумела, гэтага было не дастаткова, але выратоўвала ад процьмы клопатаў. Таму, праз гутаркі, дыялёгі і маналёгі, я маму настройваў на тое, што мы зьбіраемся здымаць кватэру недалёка ад дому. У В. будзе свая майстэрня, у мяне свой працоўны кабінэт… бо і сам бацька нас даставаў сваім алькагалізмам… калі мы былі дома, ён мог пачаць лезьці біцца… я, вядома, знаходзіў процьму чыньнікаў і апраўдваўся як мог, я знаходзіў лягічныя доказы і матывы… мама збольшага моўчкі гэта выслухвала, але на наступны дзень магла сумна прамовіць, ні да каго асабіста не зьвяртаючыся, што вось, яе мы пакінем, ніхто ня хоча

быць побач з чалавекам, які памірае. Я пачынаў псыхаваць, абурацца, В. супакойвала яе, што мы яе любім і нікуды далёка не падзенемся, мы будзем ночыць пару разоў на тыдзень, яе нянечка Ганна будзе заўсёды побач… нам трэба здымаць жытло, каб спакойна працаваць, бо тут і прасторы няма, і яна хварэе, і я не змагу яе турбаваць сваёй працай!

Яна ўсё разумела і адначасова не хацела гэта прымаць.

Вы разумееце, сябры, што такое пераехаць жыць у іншую кватэру, калі раз на тры-чатыры дні возіш маму на хіміятэрапію… як цяжка весьці дыялёгі… стараесься распавесьці штосьці файнае, вясёлае і лёгкае, сьмяесься разам зь ёй…

А яшчэ цяжэй, сябры мае, жыць у здымнай кватэры і раз на тры дні вазіць маму, якой адмовілі ў лячэньні, у пульманалёгію, на хуткай альбо ў сваёй машыне, але лепей на хуткай і на сваёй машыне за хуткай, каб потым маму везьці дамоў, пасьля таго як ёй зь лёгкіх сальюць два літры вадкасьці, густой, кісла-жоўтай, чырвона-барвовай вадкасьці… ехаць і думаць, што вось, ты жывеш асобна, а ёй так цяжка… але яна маўчыць, толькі калі ты ўжо зьбіраесься дамоў, яна цябе абдыме, ты яе пацалуеш у шчаку, а яна такая: “калі вы прыедзеце ночыць?”

– Заўтра, мам, заўтра прыедзем, мне сёньня яшчэ працаваць, але заўтра дакладна!

І вось мы, пераехаўшы, ня бралі з сабой ніякага ложка, мы на здымнай кватэры пачалі спаць на вялікім матрацы, пакладзеным на падлогу… і гэта было файным

выйсьцем, бо адразу здымала ўсе залішнія і непатрэбныя алюзіі, уяўленьні і ўмоўнасьці… мы спалі на падлозе і ў нас нарэшце не было ложка! Былі свабода і палёт, і лёгка дыхалася, але сумна спалася, бо сэрца штораз сьціскалася, ведаючы, разважаючы пра маму, як яна там, ці ўсё добра? Ганна ўсё зрабіла для яе як мае быць? Бацька там не замінае? І ўжо не да адпачынку… набіраеш яе.

– Ало, мам? Як ты? Усё добра?

– Так, усё добра, я ўжо зьбіраюся спаць…

– Мы заўтра прыедзем…

– Добра.

***

Я заўсёды казаў маме, што ніколі нікога не прабачу, ніколі не прабачу ўсім тым страшным людзям, якія яе крыўдзілі, яны ўсе выправяцца да Сатаны… іх сэрцы, якія будуць узважвацца на вагах супраць усіх жыцьцёвых учынкаў, іх сэрцы яшчэ не аднойчы абальюцца крывёю праз тое, як яны сябе паводзілі, як зьдзекаваліся і ганьбілі маю маму!

Усё ў жыцьці вяртаецца, і кожны атрымае тое, што заслужыў, і яму будзе дадзена тое, ува што ён верыў і што ўяўляў, але сьпярша яму адплацяць за ўсе учынкі…

Мне вельмі цяжка ў стасунках зь людзьмі, на якіх я пакрыўдзіўся альбо да якіх я згубіў свой давер, але я проста шалею, мяне пачынае трэсьці, калі я бачу тых самых асоб, якія даводзілі маю маму да сьлёз, даводзілі яе да неверагодных душэўных пакут.

Мама мне шмат разоў казала, што яна ўсіх прабачыла і варта было б і мне таксама іх усіх прабачыць… але

я псыхую і кажу маме, што раз ужо яна такая Маці Тэрэза, то я буду за яе не любіць гэтых людзей, бо яна занадта ўжо шчырая і добрая!

А што! Я магу і так!

Мой гэты дзёўбнуты характар, ведаю я, ад каго ён мне такі дастаўся…

***

Быў вечар, калідоры цёмныя, а мы стаялі з мамай каля нейкай пальмы, яна казала, што заўтра ў яе апэрацыя… яна вельмі баіцца… яна бачыла адсюль, што вунь там, праз акно, робяць апэрацыі… яна бачыла там голую руку і галаву чалавека ў трубках, пад наркозам… і яе туды таксама павязуць, і там будуць рабіць апэрацыю! Божухна, ёй страшна!

Яна стаіць, такая маленечкая зусім, у пухнатым халаце, які ёй набыў бацька, новы такі, пухнаты халат, блакітны… я яе гладжу па плячы… на большае я ня здольны, грэбаны сухар, гандон… я на большае ня здольны! Канешне! Я ўкладаю ўсю сваю моц, каб толькі не зараўці, як апошні ёлупень, каб не заліць гэты калідор сваімі сьлязьмі і саплямі, сваёй цёплай крывёю, якая, я ўпэўнены, яшчэ адзін крок – і проста вадаспадам хлыне з вачэй!

Не! Я стаю і гладжу яе па плячы… а яна стаіць, у гэтым пухнатым халаце, і яе вялікія празрыстыя сьлёзы капаюць на халат, цякуць па шчоках і падбародзьдзі… але я ні ў якім разе ня маю права заплакаць! Я АБАВЯЗАНЫ быць моцным і падтрымаць яе!

Я супакойваю, кажу, што ўсё будзе як найлепей! Як найсьвятлей у жыцьці пасьля апэрацыі!

Усё будзе добра!

Так мы стаім… а на гэтай ёбанай бальнічнай пальме побач з намі зіхацяць навагоднія гірлянды.

***

Ведаеце, ніводная жывая істота ў сьвеце ня дорыць столькі любові і шчасьця, як сабака… гэта неверагодны цуд – мець сабаку, радавацца разам зь ім і прачынацца ад гэтага мокрага носа. Нашу цудоўную Хурму, джэк-расэла, мы завялі, калі мама летам на лецішчы, убачыўшы ягд-тэр’ера, сказала, што яна ўжо гатовая завесьці новага сабаку… то-бок яна заўжды будзе памятаць нашу цудоўную Лайму, якая пражыла ў нас васямнаццаць год, але ўжо можна было б і завесьці акуратненькага кампактнага тэр’ера.

Падсьвядома я разумеў, што мама пагадзілася завесьці сабаку яшчэ й таму, што ні я, ні мой брат ня радавалі яе ўнукамі, у мяне нічога не атрымлівалася, а брат вырашыў не сьпяшацца з гэтым пытаньнем.

І вось мы з В. паехалі па нашага шчанюка, па гэты белы пухнаты камочак.

Хурма адразу захапіла нас, я раней і не ўяўляў, што буду гуляць зь ёй па тры разы на дзень, хвалявацца, што яна ня есьць, баяцца за яе жыцьцё падчас нашых шпацыраў… мама, напэўна, так і хацела, што калі яе ўжо ня будзе з намі, дык з намі застанецца вясёлая і цудоўная Хурма,

і мы будзем езьдзіць зь ёй да яе… што з намі будзе сабака, якога мы будзем любіць і які будзе любіць нас…

Распавесьці пра тое, што любіць рабіць Хурма, вельмі цяжка, складана ахапіць яе ўпадабаньні. Лягчэй распавесьці, што яна ня любіць.

Наш скураны чорны нос – гэта штодзённае сьвята… яе галоўная любоў у жыцьці, пасьля В. і сьнегу, вядома ж, наш ложак… дакладней матрац, бо на ложку мы больш ня сьпім…

Хурма адразу палюбіла наш матрац, яна сьпіць на ім, хаваецца пад пледам і сьпіць, хавае ў ім ежу, гуляецца з цацкамі і з намі, аблізвае нам шыі, твары і рукі, калі жадае нас пабудзіць, і ные альбо пачынае лізаць нам вушы.

Яна зьявілася ў нас у патрэбны час, каб падтрымаць, каб адвесьці ад нас скруху і цяжкія думкі… бывае, сядзіш на кухні, на тым самым месцы, дзе сядзела мама… п’еш… успамінаеш, як такім жа чынам яна сядзела і глядзела тэлевізар… яна любіла гістарычны сэрыял, калі яшчэ было жаданьне ўвогуле штосьці рабіць і чымсьці цікавіцца… і хочацца заплакаць, так заплакаць, проста закрычаць, разьбіць аб сьцяну гэты грэбаны кубак, талерку, паламаць на кавалкі стол, завыць, забрахаць, разьбегчыся і галавой аб сьцяну, каб трэснула гэтая галава, каб лопнулі вочы, каб… каб… каб… але вось тут прыбяжыць Хурма, пачне лашчыцца, прасіцца на рукі, лезьці да цябе са сваімі цацкамі, жаданьнямі пагуляцца, і ныць, хвастом у розныя бакі віхляць, ажно срака круціцца… і ўсё адпускае, цябе напаўняе шчырая любоў, і ты ўжо гатовы прабачыць Богу, Сьвету, Абсалюту ўсе гэтыя несправядлівасьці, гэтую неўладкаванасьць і пакуты маці, бо ты разумееш, што, калі ў сьвеце існуюць

сабакі, гэта сьведчыць аб тым, што ў сьвеце ёсьць процьма любові і шчасьця, і варта аб гэтым памятаць, бо, нават калі цябе ўжо ня будзе, застануцца пачуцьці, дробныя малекулы шчасьця і каханьня, якія будуць уплываць на агульначалавечы настрой.

***

Усе мы кожны дзень бачым па тэлевізары і ў сеціве клінікі, бальніцы і тыя беласьнежныя пакоі, якія ў беларусаў асацыююцца з хваробамі… па тэлевізары заўсёды вымалёўваецца такая карціна, што ўсё ў шпіталях як мае быць, што ўсе лякарні такія празрыстыя і стэрыльныя, чыстыя і ўзьнёслыя…

Я вам шчыра скажу, калі маму ўпершыню паклалі на хіміятэрапію пасьля апэрацыі і калі я прыйшоў яе наведаць, я ледзь ня страціў прытомнасьць ад таго жаху, які ўбачыў, я настолькі спужаўся таго, што адкрылася маім вачам, што, нават калі вось тут і цяпер стукаю па клявіятуры, маю сьпіну пакрывае халодны пот… я сур’ёзна… аблезлыя паносныя сьцены, старыя расхістаныя дзьверы, цёмныя калідоры і пах гною, лайна і мёду з прыступак выбіваюць з вас усё жыцьцё і радасьць, у беларускай анкалёгіі быццам наўмысна стварылі атмасфэру нявыкруткі, атмасфэру сьмерці і вусьцішы… яшчэ да таго, як знайсьці палату, дзе ляжала мама, мне давялося дзесяць хвілін змагацца з галавакружэньнем і страхам, я быў шакаваны ад абстаноўкі, я быў шакаваны, і мне было крыўдна, што мая мама знаходзіцца тут, я ня здольны быў нават уявіць, як адчувае сябе яна ў такім месцы… няўжо, калі чалавек захворвае, яго трэба ўтрымліваць на лячэньні ў такіх умовах, у такіх абставінах, дзе ня тое што немагчыма зайсьці ў прыбіральню

і немагчыма адшукаць душ, тут немагчыма спаць і проста ляжаць пад кропельніцай, бо самі сьцены цябе забіваюць… гэтыя засраныя вокны і гэтая халодная каменная падлога, месцамі пакрытая старым адарваным лінолеўмам…

Я зайшоў да мамы ў палату, і, напэўна, гэта было самым цяжкім, САМЫМ ЦЯЖКІМ ВЫПРАБАВАНЬНЕМ у маім жыцьці – усьміхнуцца ёй, бо ўвесь мой твар здранцьвеў, сківіцы ня рухаліся, вочы былі набрынялымі сьлязьмі і крывёю, было цяжка дыхаць і элемэнтарна рабіць крокі насустрач мамінаму бальнічнаму ложку, дзе яна ляжала, такая сьветлая, прыгожая, стомленая, і ўсьміхалася мне так шчыра, так добра і так сьветла… я ўзяў яе за руку і стаў, расьцягнуўшы вусны ва ўсьмешцы, зьнерухомлены, як слуп… застылы голэм з разарванаю на кавалкі душою… я ня мог нічога ёй сказаць, бо баяўся, што, калі раскрыю рот, пачну крычаць і скуголіць…

Неверагодна жудаснае месца, неверагодна старая бальніца, неверагодна нікому не патрэбная анкалёгія, на якую забыўся кожны таўстадупы чыноўнік, міністар і прэзыдэнт… я б паглядзеў на іх, калі б ім давялося ляжаць там пад кропельніцамі… хапіла б аднаго засранага міністрыка памясьціць на суткі ў гэтую анкалёгію – і ўсё б зьмянілася але гэтыя казлы, што трымаюць у сваіх руках уладу і выбудоўваюць сабе вялікія харомы з калёнамі ў Драздах, нават калі іх пачынае разьядаць знутры рак, як мінімум кладуцца ў клініку ў Нямеччыне альбо Ізраілі, вось і ўсё… сябры… вось і ўсё… бараўляны… мінская анкалёгія… бараўляны… мінская анкалёгія… калі ж у нас можна будзе хаця б паміраць у атачэньні простага, чыстага, сьветлага і добрага… але пакуль што варта сьціснуць зубы

талерантным і сумленным беларусам, і ляжаць пад кропельніцамі ў сьмярдзючых пакоях савецкіх часоў, і калупацца пальцамі ў аблупленай тынкоўцы… і чакаць… і сачыць за курсам даляра… за ростам хмарачосаў і за пасяўнымі. Амэн.

***

Чалавек усё жыцьцё спрабуе выспацца, нарэшце знайсьці такі ложак, каб можна было спаць няшмат, але моцна і па-здароваму добра… пачынаючы з нэаліту і першых знойдзеных лежняў-паглыбленьняў, высланых травою і скурамі жывёл, мы толькі й займаемся тым, што шукаем зручныя спосабы сну і сэксу. Мы пячорныя людзі, мы рэдка глядзім уверх, мы ўсё шукаем на зямлі, на падлозе, пад нагамі… першае, што мы зрабілі са сваімі лежнямі, паднялі іх вышэй зямлі, каб трымаць хаця б месца сну сухім і больш-менш чыстым. І пачалі праектаваць свае першыя матрацы, напампаваныя саломаю, лістотаю, травою… а потым адзін нейкі лянотны эгіпцянін вырашыў, што ў ложку можна ня толькі спаць, пускаючы сьліну, і трахацца, але й есьці, напрыклад… і вось мы ўжо жарэм у ложку… а адзін рымлянін пайшоў яшчэ далей і напампаваў свой матрац гусіным пер’ем і распачаў эпоху оргій на мяккіх пярынах, калі локці і калені больш не чырванеюць і ня драпаюцца падчас жарсьцяў… пух… пер’е… а кітайцы ўвесь гэты час як спалі на падлозе і на каменным паралелепіпэдзе, так і па гэты час спяць і сьціраюць свае сьпіны і ногі да крыві, пакуль трахаюцца… разбэшчаныя эўрапейцы ў эпоху Рэнэсансу пераналі ад сваіх старажытных жыхароў манэру ня толькі спаць, склешчвацца і жэрці ў ложку, але й ладзіць прыёмы, салёны і чытэльні, адпачывальні і сральні,

жавальні і гатавальні, а таксама праводзіць сымпозіюмы, калёквіюмы і процьму іншага непатрэбнага, але каштоўнага для нас з вамі дзейства…

Потым, пасьля рэнэсансных эпох, усё пакацілася хутчэй і весялей, ложкі пачалі піліць з дрэва на чатырох ножках, пачалі пад ложкамі ставіць куфэркі і каробкі, пакункі і клункі, хаваць свае шкарпэткі, талеркі і панчохі… і вось ужо нам і печ не патрэбная, каб ляжаць на ёй і чакаць свайго зорнага часу, і на куфэрку ўжо ніхто ня сьпіць, хіба толькі розныя бамжы засталіся на лаўках і ў парках, у пад’ездах і на сьметніках…

Сон для чалавека – траціна яго жыцьця… але мы ператварылі ложак у сэнс нашага існаваньня, мы цяпер у ложку нават глядзім кіно, чытаем газэты і кнігі, гутарым, робім сэлфі і процьму іншага, нікому не патрэбнага і нецікавага дзеяньня…. І заўважце, я нічога яшчэ не сказаў пра тое, што трэцяе па чарзе, пасьля сну і сэксу, што мы робім у ложку, – гэта хварэем і паміраем… такім чынам, калі сумаваць нашу жыцьцядзейнасьць вакол прадметаў у кватэры… пасьля пліты і ўнітазу нас заўсёды чакае ложак, наш сябра, дарадца, наш д’ябал, наша вялікая губка, якая ўсмоктвае чалавечыя сокі, пахі і адлушчаную скуру, назапашвае ў сваіх нэтрах клапоў і кляшчэй, мурашоў і сакавітых мушак.

Я нават не магу ўявіць, што мне рабіць з маміным ложкам… ён да гэтага часу ўтрымлівае абрыс яе цела, я на яго гляджу і бачу, як яна на ім ляжыць, у розныя часы па-рознаму, ляжыць і ўсьміхаецца мне ўвечары, калі я зайшоў сказаць ёй “дабранач”, яна адкладае кнігу, якую чытае… а вось яна напаўляжыць і распавядае мне якую-

небудзь гісторыю, яна любіла распавядаць што-небудзь містычнае альбо жахліва-павучальнае, а я ляжу побач, толькі ногі зьвесіўшы з супрацьлеглага боку ложка і галавою ўпёршыся ёй у бок… а вось яна ляжыць, і ёй вельмі цяжка і балюча, і яна нават рукі падняць ня можа, альбо нагі, і вось прыходзіць жанчына, якая павінная зрабіць ёй укол морфію.

## 2

Ну што… вы дабраліся, мой чытачу, да чвэрці раману і, напэўна, думаеце, што я і надалей зьбіраюся пісаць толькі пра жудасныя і цяжкія рэчы, але насамрэч я ня стаўлю мэтаю разварушыць д’яблаў і чорных зьмеяў, якія кружлялі вакол маёй сям’і… у першую чаргу я, вядома, вымаляваў толькі самае балючае, бо гэты боль прымушаў мяне пазбавіцца ад яго, каб, звонку паглядзеўшы на вышэй напісанае як на тэрапэўтычны лямант, спыніцца, аддыхацца і, запаволіўшы хаду, раскрыць перад вамі карціну, залітую сонцам, аточаную высокай травой, якая месцамі ператварылся ў сьвежаскошаны газон… мы ўсе ў шортах, бяз маек, кроплі поту сьцякаюць шэрымі струменьчыкамі па лбе, казычуць нос і вочы… навокал толькі прырода і сьвежае паветра, набрынялае вільгацьцю з рэчкі Пціч.

Мы на лецішчы… родныя жонкі майго дзядзькі прадалі майму брату лецішча на поўдні Беларусі… мы даўно плянавалі прыдбаць штосьці, каб маме было весялей жыць ці, як бы патлумачыць… калі яна ня здольная на далёкія падарожжы, няхай у яе будзе куды езьдзіць у выходныя дні… каб не сядзець у гэтым кватэрным акварыюме ў горадзе.

Спачатку мама езьдзіла з бацькам, брат часьцяком зь імі… я быў недатычны да лецішча, бо не было ў мяне ані часу, ані жаданьня, ані імпэту. Я ведаў, што за мамай даглядаюць мае родныя брат і тата…

Але справы пачалі мяняцца. Праз год.

***

Для нас лецішча сталася месцам адпачынку, месцам, куды можна было зьбегчы і часова занурыцца ў цёплую, мяккую, сьвежую, прахалодную, рассыпістую і цьвёрдую глебу.

Лецішча нашае знаходзіцца ў такім месцы, што навокал – пустэча, закінутыя маёнткі і садовыя дамкі… на гарызонце па баках лес… за лесам велічэзнае вадасховішча… да лецішча даехаць магчыма толькі праз адзіны мост… у прынцыпе, у нашым неспакойным сьвеце, з нашымі палітычнымі абставінамі і "рускім мірам" побач, можна пабудаваць дом з сонечнымі батарэямі на даху, падарваць мост і жыць недасяжна… партызаніць.

Першы год мы, вядома, ня ведалі, як упарацца з шасьцю соткамі правільна, таму запрасілі аднаго трактарыста, які ня проста перапахаў глебу, ён яе парэзаў на глыбокія кавалкі, перавярнуў усё дагары нагамі… лецішча ператварылася ў рытвіны і катлаваны, якія нам давялося выроўніваць два гады запар, разразаючы рыдлёўкамі і нават сякераю вялікія кавалкі аплеценай травою зямлі… нам было цікава змагацца, нам хацелася працаваць, хацелася проста так тут і цяпер сеяць, узрошчваць нейкія культуры, няхай і не ў вялікіх маштабах.

Месцы, якія мы зьбіраліся перакопваць і выроўніваць увесну пасьля п'янага трактарыста, каб яны яшчэ

больш не пазарасталі пустазельлем, мы накрывалі чорнай плёнкаю, пад якой нічога не расло, але ўтульна сяліліся сямейства вужоў… здаралася часам, калі чорная плёнка праляжыць больш за месяц, ты яе адкідаеш, з рыдлёўкаю наперавес, і назіраеш, як у розныя бакі кідаюцца зьмеі, вялікія і малыя, і такія хуткія… брат часьцяком пасьпяваў аднаго з вужакоў схапіць за хвост, падняць, патрэсьці, папужаць мяне ці В. альбо маму… сьмяяліся… крычалі, каб кінуў зьмяю… аднойчы такі вуж насраў на малога, зь перапуду, напэўна. Вужыныя гнёзды выглядалі звычайна як кратовыя норы, але выдавала іх тут і там раскіданая скінутая сухая скура.

***

Першы сьвядомы ўспамін, як ні дзіўна, у мяне пра майго брата, самы раньні… калі мы яго забіралі з радзільні, і я глядзеў на яго ў калясцы дома… і калі ён, стаўшы крыху больш дарослым, спаў каля сьценкі, бо з краю ложка мусіў спаць я… і каб брат не зваліўся, акрамя мяне, побач ставілі стол для часопісаў, з прыгожымі перакошанымі ножкамі… але брату удавалася ня толькі празь мяне перапаўзьці ноччу, але й скаціцца на стол і спаць на ім…

Першыя сьвядомыя ўспаміны пра маму ў мяне зьвязаныя з малаком, я ляжаў у ложку, а мама сядзела на сваёй канапе і карміла грудзьмі брата… я памятаю, як яна сцэджвала малако ў кубачак і я яго піў… я памятаю гэтае ўтульнае сьвятло ад старога таршэра, жоўта-гарчычны абажур… звычайна мы праводзілі такія вечары, калі чакалі бацьку з другой зьмены… бо калі ён працаваў на трэцяй, мы ўсе спалі, але мама заўсёды пакідала запаленым сьвятло ў пакоі… і гэтае запаленае сьвятло

заўсёды сьвяціла для кагосьці з нас, і мы ведалі, што нас чакаюць…

Мы пераехалі, і сьвятло, цяпер ужо на кухні, сьвяціла мне і майму брату, бо наш узрост падбухторваў нас гуляць, тусавацца, піць і кахацца… але мы заўсёды вярталіся дамоў, і мама абавязкова прачыналася, каб паглядзець на нас і выключыць сьвятло…

Першыя сьвядомыя ўспаміны пра бацьку – гэта п’янства… несусьветны алькагалізм і сваркі. На мой вялікі жаль… я памятаю толькі некалькі дзён зь дзяцінства, калі бацька ня быў выпіўшы: аднойчы мама і тата ўзялі мяне ў парк, той самы парк па вуліцы Сьляпых, цяпер ад гэтага парку мала што засталося – упілілі там жыльлёвы комплекс Чайкоўскі – так званы ў народзе “ябаны стыд”, але не пра гэта я тут… яны ўзялі мяне ў парк, і калі я стаміўся, то пасадзілі ў спартовую торбу і несьлі – мама з аднаго боку трымае ручкі, тата – з другога… тады я быў яшчэ адзіны ў сям’і, але мы ўжо чакалі брата… вось яны ідуць, я гайдаюся ў торбе… было весела, і потым стала яшчэ весялей, калі бацьку на плячо насрала птушка… добра мы тады з мамай сьмяяліся.

Сказаць, што мая мама была шчасьлівая, немагчыма… яна ўсё жыцьцё цёпла і па-добраму ўспамінала толькі дзеда Вікенція і свае дзіцячыя гады… для яе назаўжды застаўся той час, калі яна жыла там, у вёсцы… сухія цёплыя рукі дзеда, ягоныя добрыя вочы… цукеркі і марозіва, якія ён ёй купляў, калі яны разам хадзілі на цукровы завод у гарадзкі пасёлак… для мамы гэтыя часы – залатыя, таму яна й жадала, каб яе пахавалі побач зь дзядуляю і бабуляю… свайго бацькі мама ня бачыла, яго не падпускалі да яе… і бацька яе рана памёр… мама потым, ужо дарослаю, здолела адшукаць яго магілку…

Чаму яе не пускалі да роднага бацькі... ня ведаю, што адбывалася ў галаве яе маці, маёй бабкі, – таямніца, але тут не абышлося бяз сварак і мяккага сэрца мамінага таты… бо ад каго ж яна таксама такая добрая і ўсёдаравальная.

***

Сталася так, што ўвесну бацька сказаў, што яго ўзялі на працу ў Маскву на склад аўтазапчастак МАЗ.

Проста ўявім такія абставіны: мама хварэе, брат зьбіраецца ажаніцца і таксама зьехаць… застаюся толькі я, які за ўсё адказны…

Напрыклад, я не сядзеў за стырном пяць год, і мне трэба раніцай адвезьці бацьку ў Шабаны да аднаго дальнабойніка, які выпраўляецца ў Расею…

Усё маё жыцьцё складзена з высокіх доляў рызыкі. У школе наш клас назвалі экспэрымэнтальным і тэставалі паводле пасьпяховасьці сыстэму і падручнікі… мяне тэрмінова прапанавалі перавесьці з чацьвертага адразу ў шосты клас… я мусіў неяк тэрмінова выходзіць на татамі ў спаборніцтвах па дзюдо за дзьве гадзіны да пачатку саміх спаборніцтваў у сваёй вазе, бо адбылася нейкаяператасоўка, і я пайшоў і стаў… на баскетбольных гульнях, калі заставалася менш пяці хвілін да канца, калі мяне так і не паставілі гуляць, трэнер мне кажа праз сэкунду быць гатовым да замены і тэрмінова закінуць два мячы з трохлічбавай зоны… у мяне стрэсаў было за жыцьцё – не пералічыць… чаго мне каштаваў той жа конкурс “маладых талентаў” у музычнай школе… для мяне ўдарам былі першыя праклёны і ананімныя мэйлы ў бок маёй літаратуры і маёй творчасьці, калі ты сутыкаесься з сапраўднай лютай нянавісьцю – гэта пужае, сапраўды пужае… я заўсёды

павінны быў за штосьці адказваць, камусьці абавязаны: пракантралюй урокі ў брата, і каб ён быў паеўшы, абавязкова здаць усе іспыты да пэўнага тэрміну, ты абавязаны пісаць і несьці адказнасьць за тое, пра што і як пішаш, а інакш – палаць табе на сёмым коле пекла… і гэтая адвечная нэрвовая адказнасьць, гэтыя патрабаваньні часта выбівалі зямлю ў мяне з-пад ног… але даводзілася заўсёды падымацца, таму, напэўна, я ўжо зарабіў сабе псарыяз, бо мой мозг і мае нэрвы не вытрымліваюць.

І вось раніцай трэба сесьці за стырно… дый увогуле машына, стары форд эскорт, застаецца табе, сынку, каб ты вазіў маму на лецішча. І я сеў і паехаў… я сур’ёзна… я ехаў і не адчуваў, ня чуў свайго сэрца, я не адчуваў сваіх рук… мае яйцы залезлі кудысьці ў страўнік і пачалі ныць. Я – адказны за ўсіх і за ўсё.

Але гэты момант я не магу назваць канчатковай кропкай майго вар’яцтва, зрывам нэрваў.

Напэўна, кропкай стала сьмерць мамы, калі мне давялося ўсё арганізоўваюць і за ўсё адказваць… у мяне не было магчымасьці і моцы плакаць, я штохвіліны паўтараў сабе, што трэба ўсё зрабіць як мае быць, бо мама заўсёды, ЗАЎСЁДЫ разьлічвала на маю падтрымку, хоць часам я яе і падводзіў.

І такім чынам, пасьля гэтай паездкі, якая далася мне як самы кепскі трылер, мы пачалі жыць з мамаю, і пачалі езьдзіць зь ёй на лецішча, і я нарэшце пачаў любіць прыроду, і нарэшце пачаў змагацца са страхам вады, я сапраўды пачаў прымаць водныя працэдуры ў рачулках, пачаў разам з Хурмой залазіць у ваду ўжо

ў красавіку… я пачаў па-іншаму ўспрымаць сябе і сваё тоўстае цела.

І мяне захапілі грады, брат вынайшаў клясны мэтад вырошчваньня марыхуаны разам з таматамі-чэры, як высьветлілася – марыхуана ратуе чэры ад хваробаў, а чэры, у сваю чаргу, узбагачае належным чынам глебу для марыхуаны – ураджай у той год быў што трэба.

***

Плянаў у першыя гады была процьма: ня толькі вырошчваць садавіну і гародніну, але паламаць старую вулічную прыбіральню і паставіць на яе месцы новую… адрамантаваць насос для калёнкі, каб ваду можна было не мясіць паўдня, але, качнуўшы пару разоў, наліць некалькі соцень літраў…

Нам хацелася шмат чаго зрабіць, і мама, мы гэта бачылі, радавалася кожнаму нашаму падарожжу на лецішча. Мы плянавалі паставіць замест садовага дамка нармальны дом, каб можна было жыць у ім хаця б летні сэзон. А таксама мама хацела, каб мы хоць адзін з суседніх закінутых участкаў таксама набылі, аб’ядналі гэтыя соткі з нашымі і сталі землеўладальнікамі па-сапраўднаму…

Мама шмат плянавала, але мы не змаглі дамовіцца на продаж ніводнай суседняй зямлі: усе, хто валодаў імі, былі мясцовымі, жылі сабе ў вёсках і г.п. і нічога не плянавалі, ім здавалася, што, калі яны пачнуць прадаваць свае лецішчы, яны штосьці страцяць каштоўнае, але насамрэч якія там былі лецішчы – адно пустазельле і непралазныя гушчары, іх трэба было б дбайна апрацаваць і выдаткаваць не адзін сэзон работы, каб увогуле

стала магчымым нармальна штосьці саджаць і будаваць… па выніку праз колькі год у нас праклалі новы мост і дзяржава пачала адчайна пазбаўляць злосных неплацельшчыкаў і розных ёлупняў, якія не даглядалі свае месцы, іхнае ўласнасьці – і людзі згубілі нават тое, што маглі прадаць… я, на мой вялікі жаль, калі ў мінулым годзе пачаў самотным езьдзіць на лецішча, шукаючы там маці, адчайна спрабуючы сабе дапамагчы чым заўгодна… сеяў збожжа, касіў і нейкім цудам набыў суседнюю зямлю, якую і аб’яднаў з нашым лецішчам… і… калі ўсё ў мяне атрымаецца, у наступным годзе вазьмуся ўжо з усім сваім імпэтам за справу, каб было куды езьдзіць летам, каб было з кім там весьці маўклівыя дыялёгі, каб глядзець на гэтую старую грушу і бачыць пад ёй маму…

***

Неяк так усё выйшла, што большасьць словаў цяпер я кнокаю на гэтай чорнай клявіятуры, і мне становіцца блага, і мне становіцца вусьцішна, што ўсё гэта я мог бы сказаць, прамовіць маці, распавесьці ёй пра тое, што і як у мяне насамрэч у жыцьці… але вымушаны адчайна шукаць ва ўспамінах, у ліхаманцы і злосьці адказы і прабачэньні, шукаць сэнс, варты жыцьця, існаваньня… шукаць. А чаго менавіта – невядома… пакуль што я знайшоў толькі мэтад, так скажам – стыль, якім бы я хацеў апавесьці пра ўсе тыя нязгоды, няўдачы і боль, што перасьледавалі мяне, і я скажу шчыра – я восем год шукаў магчымасьці патрэбных словаў, сказаў, літар, каб пачаць гэтую гісторыю, але баяўся яе пачынаць, бо інакш гэта магло ператварыцца ў споведзь пра роднага мне чалавека, якога ўжо няма на гэтым сьвеце. Я вельмі баяўся пачаць пісаць… і цяпер,

калі насамрэч мінула недастаткова часу, я перакуліў самога сябе, скінуў сваё цела з ложка і абсалютна ненаўмысна, на нейкім запале нагрукаў, гучна і адчайна, першыя дзесяць старонак і ўбачыў, што гэта ня я пачаў распавядаць пра сваю маму, што гэта Сэлін піша, што ён ува мне пачаў крычаць, лямантаваць… я так моцна паглыбіўся ў ягоную творчасьць, што ён пачаў са мною размаўляць і падказваць, як, дзе і што варта было б успомніць, і, нягледзячы на гэты боль, на гэты сапраўды нястрымны боль, варта нарэшце выказацца.

***

Мама ніколі нічога ні ад каго не патрабавала і нічога ні ад каго не чакала, яна толькі аддавала, такой я яе памятаю, такой запомню назаўжды… магчыма, яна ў маладосьці была больш рамантычнаю, ці, прынамсі, даверліваю, але ўсё-ткі жыцьцё з бацькам, сваркі і супрацьстаяньні з сястрою і маці зрабілі ўсё, каб яна страціла даверлівасьць, але яна ўпарта працягвала ўсіх любіць і ўсім дапамагаць. Працягвала верыць, што дабром можна выратаваць і ўсё зьмяніць у сьвеце. Вось, напрыклад, колькі разоў яе падводзіла сястра, а мама заўсёды да яе добра ставілася, і нават калі даходзіла да такіх дзіўных рэчаў – калі цётка пачынала маму падазраваць у нейкай чорнай магіі (яна тады, відаць, хварэла, іншага адказу ў мяне няма), рэчах абсалютна агідных і жудасных, мама, вядома, крыўдавала, але заўсёды любіла сваю сястру, дапамагала ёй ва ўсім і часам сачыла, каб тая што-небудзь ела, пакідала ў лядоўні для яе ежу і, калі бачыла, што тая штосьці зьядала, рабіла выгляд, што не заўважыла, а цётка, у сваю чаргу, цукар і гарбату зачыняла ў сваім сэрванце… хавала.

Жыць кожны павінны асобна ад іншых – гэта залатое правіла, мы ні храна ня калектыўныя істоты, што там наплёў Юнг і астатнія падхалімы, яны жылі сабе ўдосталь і нават не імкнуліся паглыбіцца ў абставіны большасьці жыхароў плянэты, жыхароў – закладнікаў сваіх краін і ябанай фінансавай эліты… жыхароў – быдла, ненажэрнага капіталістычнага быдла…

Вось і мы такім жа чынам пакутавалі… калі мама з горыччу любіла паўтараць усім вядомыя словы Сталіна: “Жыць стала лепей, жыць стала весялей!”, мы акурат патаналі ў сваіх асабістых крыўдах, сварках і бойках, у сваім хатнім брудзе і лайне, што ня вынесеш за парог, бо пра ўсё пачуюць і даведаюцца суседзі… якія насамрэч такія ж, як і мы, – галадранцы, сволачы і крывадушнікі… і жыць нам весялей ніяк не станавілася.

Але мама мне чытала дзьве найцудоўнейшыя і клясныя кніжкі, дзьве кніжкі, якія адклаліся ў маім сэрцы назаўжды…

Звычайна я нырай да яе пад коўдру і разглядаў малюнкі, ілюстрацыі, падчас яе прыемнага чытаньня Данііла Хармса: “Жили в квартире / Сорок четыре / Сорок четыре / Весёлых чижа: / Чиж-судомойка, / Чиж-поломойка, / Чиж-огородник, / Чиж-водовоз, / Чиж за кухарку, / Чиж за хозяйку, / Чиж на посылках, / Чиж-трубочист”. Альбо яна разгортвала кнігу Карнэя Чукоўскага – і пачынаўся цуд са зьвяратамі і рабятамі, бандытамі і вясёлым доктарам Айбалітам…

Я доўгі час верыў і быў упэўнены, што любоў да кніг, да іх чытаньня і зьбіраньня мне прышчапіў Стывен Кінг яшчэ ў пятай клясе, калі я распачаў знаёмства зь ім праз кнігу “Чатыры сэзоны”, дзе ёсьць аповед пра хлопца са стрэльбаю і ягоных закладнікаў – аднаклясьнікаў, падчас урокаў

матэматыкі гісторыя давала мне надзею на справядлівасьць… я так і бачыў нашую азызлую, тоўстую матэматыцу з чырвонымі валасамі… вось яна ізноў пачне на каго з нас крычаць каля дошкі, а я ня буду чакаць, пакуль пачне хто з маіх плакаць, я дастану драбавік і засаджу ў гэты сральнік добрую порцыю шроту! Але даводзіцца капаць глыбей… і нават ня столькі Кінг і страшная для мяне казка “Дзюймовачка” адыгралі ў маім кніжным жыцьці істотную ролю, колькі паэты высокіх палётаў, якія пісалі дзіцячыя рэчы, хаваючы ў сталах тэксты, за якія іх маглі саджаць, расстрэльваць і паліць… Я ўдзячны маме і яе чытаньню ў ложку.

***

У нашай сям’і першае лецішча было ў маладэчанскім кірунку, і такі нейхайны догляд за зямлёй я нават ня ведаю з чым параўнаць. За першае лецішча мне было сорамна перад усімі суседзямі навокал… наша сям’я была зусім маладою – бацькам да трыццаці, нам з братам па сем і чатыры гады, мо крыху болей. Мой бацька ня ўмеў і да гэтага часу ня ўмее рабіць рукамі, у яго ніколі нічога ўдалага не атрымлівалася… да прыкладу, дыван, які у нашым пакоі вісеў на сьценцы, перыядычны звальваўся, бо то драўляная планка адыдзе, то кручкі парвуцца… альбо ў нас пэрманэнтна дома не працавалі замкі ад дзьвярэй… зьліўны бачок у прыбіральні не працаваў ніколі, даводзілася яго падымаць уручную…

Вось і першае лецішча ў нас было – пляма на целе зямлі, нязграбныя спробы апрацаваць дванаццаць сотак сталіся для нас нейкім невыносным выпрабаваньнем. Што ні сэзон – абсурднае змаганьне з градкамі… я да гэтага часу, калі капаю грады, шалею ад роўнасьці, нацягваю

ніткі для разораў і вымяраю ўсё так, каб было ідэальна, прыгожа і роўна… бо зь дзяцінства перад вачыма тыя самыя грады, якія капаў мой бацька, – усё скасабочана, перакулена і нейкім магічным чынам споўзлае па краёх. Мяне дзівіла, што мой бацька ня здольны зрабіць працу прыгожа… мама звычайна старалася як-небудзь усё акультурыць, але беспасьпяхова.

Неяк праз колькі год мама дамаглася, каб бацька паставіў парнік. І тое, што ён пабудаваў, не прысьніцца нават у жахах. Гэта быў натуральна перакошаны склеп: таўшчэзныя бэлькі, цэляфанавая плёнка, месцамі рваная, таму ў некалькі слаёў прыбітая… дошкі перакрыўленыя і сям-там паламаныя, і сам парнік хутчэй выглядаў мёртвым, ніж жывым. Мама плакала, бо такі сорам і на ўзгорку, і на нашай зямлі… не было і думкі, што там штосьці зможа вырасьці. Парнік нагадваў месца пахаваньня для таматаў і салодкага перцу.

А потым, праз неверагодныя спробы, сваркі і гутаркі, бацька пагадзіўся пачаць будаваць хату, бо на нашым участку стаяў дамок-вагон, перададзены нам бясплатна суседзямі, бо ім было нас шкада і яны ўжо даўно адбудавалі сабе трохпавярховы дом… тое, што было на нашым участку, выклікала агіду і сорам у нас, але, напэўна, не ў бацькі.

Значыцца, будзем будаваць дом. Прыехаў экскаватар і выкапаў нам пад падмурак і гараж яміну. Я сур’ёзна, нам выкапалі нейкі пізьдец! Навярнулі нам гліны і зьехалі… далей бацька замовіў плоскія доўгія дошкі для каркасу пад камяні і цэглу… дошкі скінулі за дамком-вагончыкам, і так яны там і па гэты час, напэўна, гніюць і абрастаюць пустазельлем, і на іх сухіх ды цёплых краях грэюцца яшчаркі.

Потым на наступны дзень ляснула такая залева, якая можа быць толькі на пачатку лета, і наша яміна ператварылася ў сажалку з жабкамі, камарамі і іншай хярнёй.

Бацька сказаў, што трэба выкачваць ваду альбо пачакаць, пакуль усё прасохне.

Нічога не прасохла, праз пару тыдняў мы больш ня езьдзілі на гэты пляц сораму, на гэтую кінутую зямлю, на гэтае балота памерам дванаццаць сотак.

Мы ня езьдзілі, бо немагчыма было глядзець у вочы суседзям, якія за кароткі час пабудавалі сабе двух- і трохпавярховыя дамы, узгадавалі не адно пакаленьне збожжа і насаджалі вінаграду і кустоў парэчак вакол сваіх альтанак і тлустых мангалаў.

Мне ўсё жыцьцё хацелася мець лецішча, ведаеце, такое сапраўднае лецішча, каб быў прыгожы ўтульны дом, каб мама там жыла летам, але я пасьпеў толькі дакупіць яшчэ адзін участак і аб'яднаць са сваім, ужо на поўдні Беларусі, у накірунку на Рудзенск…

***

Колькі памятаю маму, колькі памятаю сябе, столькі часу мама працавала. Яна працавала касіркаю ў банку, у крамах прадавачкай і была часова загадчыцай на зьмене, пакуль ёй не паставілі ў пашпарце пячатку, што яна інвалід, і ёй афіцыйна было забаронена працаваць. Думаю, гэта адзін з наймацнейшых удараў для чалавека – забарона на працу… пэнсія на інваліднасьць. Мама казала, што яе зарана абвясьцілі нямоглай, бо яна адчувае ў сабе моц, каб жыць і працаваць… але пячатка ў пашпарце…

Маме давяралі людзі, дзе б яна ні працавала, вакол яе заўсёды зьяўляліся сябры і пакупнікі, якія прыходзілі толькі да яе, на яе зьмену… яна сядзела на касе – усе ішлі да яе, бо яна магла дапамагчы з прадуктамі, падказаць, што лепш ня браць… яна неяк убачыла, што бабулька бярэ сем батонаў і кефір, і даведалася, што гэта тыднёвы паёк няшчаснай старой, і мама сама набыла ёй прадуктаў за свой кошт. Калі яна гандлявала хлебам у краме, яе аддзел наведвала процьма пакупнікоў, бо яна нават сталым наведнікам адкладала больш сьвежы і цяплейшы хлеб. Яна заўсёды для ўсіх навокал была патрэбнаю і карыснаю, а тут раптам – інвалід з пэнсіяй і льготамі на лекі, і ты нікому не патрэбны.

Не, яна ня стала сядзець дома і чакаць сьмерці, яна прайшла курс хіміятэрапіі, было праведзена некалькі апэрацый, і мама ўладкавалася нянечкай у адну цудоўную сям’ю.

Яна ня проста працавала ў гэтай сям’і… яна стала другой маці для трох дзетак. Яна, як анёл, іх берагла і адукоўвала. Яе мудрасьць, якую шматлікія людзі няздольныя назапасіць і за доўгі тэрмін, дапамагала сям’і на розных складаных этапах… мама выратавала старэйшага ад сьмерці, калі выклікала хуткую, маючы прачуваньне, што ў яго ня проста баліць страўнік… яна выратавала маці гэтых дзяцей, калі заўважыла крывавую плямку на станіку і прымусіла яе праверыцца… і выявілі на раньняй стадыі рак грудзей. Мама выратавала дзецям іх маці…

Сям’я была вялікая, і ўсе вельмі любілі маю маму, і бабулькі – інтэлігентныя жанчыны – цанілі яе, і дзеці любілі неверагодна… яна ў летні перыяд жыла зь імі ў катэджы пад

Менскам… стамлялася, вядома, але казала,  што ад дзяцей яна атрымлівае любоў і ласку, і гэта яе выратоўвае таксама.

Мая мама была ўсё жыцьцё МАМАЮ для ўсіх… спачатку для нас, потым для дзіцёнка адной швагеркі, якая зьбіралася рабіць аборт, і мама да яе прыехала на некалькі дзён, і ўгаворвала яе, і песьціла, і тлумачыла… і тая ня стала рабіць аборт, і цяпер недзе жыве ўжо дарослая прыгожая дзяўчына, і швагерка дагэтуль успамінае са сьлязьмі на вачах, як яна ўдзячная маёй маме за той час падтрымкі, якая яна шчасьлівая, што ў яе такая ўжо дарослая і прыгожая дачка.

Мама была мамаю для трох дзетак у сям'і, і яна й па гэты час для іх другая мама, яны й па гэты час успамінаюць яе і растуць паводле яе ласкі і мудрасьці…

І што мяне турбуе, на што я крыўдую, гэта на тое, што ёй даводзілася працаваць і зарабляць грошы, бо бацька быў сквапны, быў і застаецца сквапным, і нават калі нам не хапала грошай аплачваць ёй сядзелку, даводзілася некалькі разоў дадаваць грошы ў аплату з яе пэнсіі па інваліднасьці… гэта сорам, жах і лямант.

***

Вось тут мы пасадзім агуркі, а вось тут радыску, а тут я б хацела пасадзіць кветкі.

Мама паўсюль на нашым новым лецішчы насаджала кустоў, кветак і градак. У мяне зь ёй распачалася міні-вайна наконт пасадкі тых ці іншых культур, бо я бачыў лецішча як такое ўтульнае месца адпачынку, з альтанкай, жывой агароджай і неверагодна мяккім, пухнатым сьвежаскошаным газонам, і, такім чынам, на зьдзяйсьненьне маіх мар

мне патрабавалася прастора, і пажадана прастора плоская, як талерка альбо апрацоўчая дошка. А мама хацела процьмы кустоў і кветак, якія я то тут, то там сваёй бэнзакасой выпадкова зразаў. Я быў у захапленьні і выбачаўся, але падсьвядома разумеў, што гэтае лецішча, якое мой брат набыў для мамы, ператвараецца ў маё пэрсанальнае месца, дзе я захапіў уладу і пачаў насаджваць свае законы, што, дзе і як павінна расьці і на якіх месцах.

І на мой вялікі сорам і боль, я, размахваючы сваёй бэнзакасой, выпадкова пад корань зрэзаў, не заўважыўшы, маленькі дэкаратыўны куст бэзу, які толькі-толькі прыжыўся і пакуль што распускаў адно лістоту. Нават ня тое што не прыкмеціў – не адчуў розьніцы між касьбою травы і маленькай расьліны.

А бэз гэты быў адмыслова пасаджаны ў тым месцы, дзе мы пахавалі нашу старую сабачку Лайму, нашага шматпакутнага ад хваробаў васямнаццацігадовага сабаку, акурат у першы год набыцьця лецішча.

Мне было вельмі сорамна і няёмка, я выбачаўся, адмоўчваўся, калі мама на лецішчы ўспамінала пра бэз і Лайму, але гэты выпадак ня вылекаваў маю прагу стварыць супэргазон, бо зрэзанымі потым сталіся яшчэ кусты вінаграду і парэчак.

Я разумею, што большасьць рэчаў, якія саджала мама, былі рэчамі яе культуры і водгуллем часоў, калі грады сапраўды выратоўвалі ўзімку, калі мы елі сваю бульбу, смачна прыгатаваную ў любым выглядзе, і заядалі яе засоленымі гуркамі ці квашанаю капустаю, разам з лустамі сала… гэтая ежа ратавала нас даволі працяглы час, і мы расьлі тоўсьценькія, прыгожанькія анёльчыкі, і калі

трэба было праводзіць працэдуры абароны здароўя ў часы паўсюднага грыпу, мы елі сырую цыбулю і нам было файна.

Часам лецішча прыносіла нам багаты ўраджай таго, чаго мы не чакалі: мы вывозілі машынамі яблыкі, а неяк столькі грушаў было, што бацька суткамі сядзеў на кухні з уключанай сокавыціскалкай і ціснуў, і чысьціў, і дадаваў цукру і закатваў… мы потым пілі яблычны і грушавы сокі на працягу двух год.

***

Лецішча нас радавала, яно давала нам надзею на будучае, дазваляла часова забыцца на хваробу…

Мы з В. часта хадзілі на раку, дзе было неверагодна прыемна акунуцца ў прахалодную ваду, пасьля цяжкай працы на сонцы, калі пыл і пясок у цябе ў вачах, у споднім і паміж пальцаў ные, раздражняе і не дае пакою.

Я нарэшце адным сьпякотным летам замовіў новы вулічны туалет, прыбіральню з дрэва… закатаў папярэдне мармур пад яго, і да нас прыехаў мужчына і сабраў яго за паўдня… туалет нам быў даспадобы… мама сказала, што ён выглядае нашмат прыгажэй і лепей за наш садовы дамок і што варта было б неяк прыбіральню замацаваць, на ўсялякі выпадак, каб хто ня зьнёс. Мы з мамы сьмяяліся – замацаваць вулічны сарцір, каб ня стырылі, – неверагодная ідэя!

Мужчына, што ўсталёўваў нам прыбіральню, гледзячы на мяне і часам уступаючы ў размовы, усё больш схіляўся да калярэлігійныйх гутарак, усё ў мяне цікавіўся пра праваслаўе, казаў пра тое, што каталікі – нашы самыя

блізкія браты… пра Буду мы зь ім гутарылі… і толькі калі ён зьяжджаў, запытаўся ў мяне, у якой царкве я служу… мужчына вырашыў, што я, такі поўны, з даўгімі валасамі і барадою, – бацюшка ў храме. Мне было сьмешна, але я яму растлумачыў, што я пісьменьнік і даволі далёкі ад рэлігіі чалавек, хоць шмат яе вывучаў ва ўнівэрсытэце і некалькі разоў перачытваў Біблію.

Мама, як звычайна, сказала, што ня проста так мужчына мяне пераблытаў са сьвятаром, што гэта знак, што мне трэба быць бліжэй да Бога…

І, дарэчы, няшчасны скошаны бэз каля пахаванай Лаймы на наступны год ад самага кораня даў новыя парасткі… усе мы гэтаму факту былі неверагодна радыя, асабліва я.

***

На лецішчы наш другі сабака, нашая белая і гульлівая Хурма навучылася сачыць за рыбаю ў Пцічы… стане на беразе… вада празрыстая, рыбу добра відаць… яна як убачыць, дык каменем у ваду і плюхаецца… стараецца, але пакуль што ніводнай рыбы так і не ўпалявала… усё наперадзе.

Увогуле нашая Хурма пасьпела налавіць на лецішчы і мышэй, і кратоў, і за вужамі ганялася, а аднойчы схавала здохлае мышанё ў салёне аўто, каб адвезьці дамоў… мы доўгі час не маглі выявіць, чаму ў машыне так сьмярдзіць.

Хурма ўвогуле вартая асобнай кнігі. Неяк аднойчы яна злавіла варону, пакуль тая ўзьлятала, паламала птуш-

цы крыло… а аднойчы гнала да мяне сапраўднага здаровага гарбатага пацука, раніцай, у нашым двары! Сабака з пацуком да мяне бягуць, я – ад іх! Пацук ня ведае, што яму рабіць, і на дрэвы спрабуе скочыць, і на мяне – двойчы на калашыне вісеў… Хурма яго за сьпіну кусае… і тут здалёк нейкая жанчына, па-офіснаму апранутая, на абцасах (прынамсі было лета) ідзе да нас і здалёк крычыць на мяне, што я, падла такая, свайго сабаку на котку натравіў… я нават сказаць у апраўданьне нічога не магу, адбіваюся ад пацука… і тут… жанчына заўважае, каго ганяе мая Хурма… і зь віскатам кідаецца ад нас падалей… я рагатаў з жанчыны да чырвані, ажно забыўся на пацука, а Хурма ў гэты час пагнала яго акурат да жылога дому, у падвал…

Хурма, дзікі, але вельмі ласкавы і добры джэк-расэлтэр’ер, – наш псыхатэрапеўтычны сабачка, нашая пігулка шчасьця і радасьці, наш супэрантыдэпрэсант. З Хурмой мы маем выхад да сьвету, і я вельмі ўдзячны за гэта маме, бо яна адважылася пасьля Лаймы завесьці новага сабаку… Вось мы і набылі сабе пухнаты белы камячок бязьмежнай любові і шчырага захапленьня сьветам.

***

Я не магу сказаць, што мама была нешчасьліваю… але я ведаю дакладна, што яе шчасьце скончылася пасьля таго, як яна зьехала ад бабулі з дзядуляй, калі пачала вучыцца ў Капылі… менавіта тады, я магу з усёй упэўненасьцю сказаць, яна згубіла шчасьце, але пакуль яшчэ ня ведала гэтага, ня ведала да аднаго моманту, пакуль зь ёй ня здарыўся мой бацька, пакуль яна не сустрэла гэтага маладога хлопца з рэдкімі вусікамі… ён тады прыйшоў

у яе школу з кветкамі і падараваў іх яе аднаклясьніцы, але, калі пабачыў маму побач, забраў у дзяўчыны кветкі і падарыў ёй.

Думаю, у мамы ўсё склалася б зусім інакш, калі б ня мой бацька… можна сказаць, што гэта было ў іх абодвух першае каханьне… тое самае ненадзейнае першае каханьне, якое мусіць адзначыць новы шлях, пазнаёміць з дарослым сьветам, падарыць процьму прыемных успамінаў і неабходнага вопыту… маёй маме варта было б не заставацца на доўгі тэрмін у гэтым каханьні, але ёй было сямнаццаць, і яна зацяжарыла… а потым праз два месяцы яны ажаніліся.

Абодва былі абсалютна не гатовыя да такога павароту абставінаў… сваякі і родныя з абодвух бакоў былі не ў захапленні ад такога раньняга шлюбу… быццам бы толькі мама вінаватая ў тым, што праз гэты дурацкі сэкс… але што гэта я тут… мне дык няма чаго скардзіцца… мама зацяжарыла мною, і я ёй за гэта вельмі ўдзячны… ёй давялося са мною прайсьці празь вялікія цяжкасьці, бо, акрамя сваякоў, яе родная маці выгнала з дому, і яна вымушаная была нараджаць у Капылі і жыць у сваёй цёткі, якая сталася мне самай сапраўднай бабуляй і другой маці, пакуль бацька служыў тры гады ў Разані…

Гэта дзіўна… прынамсі вы зьдзівіцеся, але маму сапраўды атачала процьма злосна настроеных людзей, людзей, якія яе не любілі і жадалі ёй быць няшчаснай… разумееце, шмат каго раздражняе, калі чалавек здольны быць ня проста добрым, але й прабачаць усё і ўсім, гэты чалавек прымушае злых людзей сумнявацца ў сваёй ісьціне, у сваіх поглядах, робіць іх агіднымі для саміх сябе…

Мінула тры гады, мой бацька вярнуўся з арміі і мама зацяжарыла братам… я сур’ёзна… так гэта і было, быццам мама была адмысловай прыладай для стварэньня дзяцей…

Але тут ужо на гарызонце замаячыў Менск, бо яе маці, бабка Ніна, запрасіла нашу сям’ю жыць у сталіцы ўсім разам…

Проста страшна нават падумаць і ўявіць, дзеля чаго нас вярнулі ў Менск… а насамрэч усё проста – дзеля таго, каб атрымаць большую жылую плошчу… тады бабка ня ведала, што мы застанемся зь ёй жыць на БОЛЬШАЙ жылой плошчы ажно на дваццаць год… калі б ведала, напэўна б усіх нас ноччу задушыла падушкаю… я ўпэўнены… яна нас ненавідзела, і ненавідзела маму за тое, што тая проста жыла, дыхала… яна хацела ня бачыць ані нас, ані яе, ані нашага бацьку. Яна ўсё жыцьцё любіла і любіць толькі свайго малодшага сына ад другога мужа, нават ня так сярэднюю дачку, як свайго сына, якому прабачае ўсё на сьвеце – і турмы, і крадзяжы, і наркотыкі… яна звычайна крычала на нас, каб мы ня клікалі яе да тэлефона, называючы “бабушка”, толькі на імя, але мы, наадварот, ажно ў слухаўку крычалі “баааабушкаааа!”… як жа яна бясілася, ажно бялела!

Што я магу сказаць добрага пра сваю бабку… на жаль, нічога, бо я сапраўды ня ведаю нічога, што б яна зрабіла чалавечнага для маёй мамы… і маме я паўтараў не аднойчы, што прабачыць бабку я не магу на нейкім фізычным узроўні, калі цела супраціўляецца… калі немагчыма гэта зрабіць – да галаўнога болю.

***

А потым пачаліся нашыя пакуты ня толькі з бабкаю, але й зь дзядзькам, які выйшаў тады часова з турмы… зь ягонымі сябрамі і ягонымі жанчынамі… потым да маміных пакутаў дадалася цётка… родная… і паралельна жыцьця не давалі маме бацькавы сваякі… а потым яшчэ зьявіўся ў нашай бабкі стары дзед, яна зь ім расьпісалася, але зьехала жыць у вёску, у свой стары дом, які яна нікому не аддавала, адбудоўвала і перапісала цалкам на сваю сярэднюю дачку… а потым, калі нам стала крыху лягчэй, пачаліся пакуты з бацькам, ягоным алькаголем і ягонымі палюбоўніцамі… а потым у мамы была спроба сысьці, яна знайшла сабе іншага мужчыну, які таксама нагаварыў ёй прыгожых казак: і што нас з братам да сябе забярэ, і што ёй кватэра будзе вольная… але ўсё так абставіў, што мама трапіла ў такую ж камуналку, толькі ўжо з цалкам чужымі людзьмі ў кватэры, і нас з братам ніхто не зьбіраўся забіраць да сябе ў вольную ад сужыцеляў кватэру…

Я тады паступаў у ВНУ… бацька па-чорнаму піў, перад гэтым зламаўшы нагу… таму ён сядзеў поседам дома і толькі часам чыкільгаў у краму па пляшку альбо даваў грошы маёй цётцы ці дзядзьку…

Мама вярнулася праз паўгода… здаецца, так, праз паўгода… яна вярнулася да нас… менавіта да нас з братам, бо ёй больш ніхто не патрэбны… так яна нам заўсёды казала: калі б ня мы, яна б усё зрабіла б паіншаму, але тое, як мы расьцем, кім становімся, яе радуе, і яна ўпэўненая, што ўсё ня проста так у жыцьці, што ёй варта было прайсьці праз усе гэтыя пакуты дзеля нас…

***

І вось ужо праз колькі год мы даведваемся, што падышла чарга… ільготная чарга на кватэру… і тут раптам замест шчасьця да нас прыходзяць чорныя, як правалы, як дзіркі ў космасе, дні… дні аналізаў, хваробы і апэрацый… і ўжо ня хочацца нічога, ні гэтай ёбанай новай кватэры, якую мы чакалі дваццаць год, ні пераездаў, нічога… хочацца, каб толькі ўсё было добра з мамаю…

Я сур’ёзна так лічу, і мама таксама так лічыла, што гэтае ненавіснае чаканьне кватэры, усё гэтае жыцьцё толькі дзеля адной мэты, сканцэнтраванасьць вакол гэтай мары, гэтага жаданьня і тоны парваных нэрваў давялі яе да хваробы… бо рак прыйшоў хутка, непрыкметна і адразу на перадапошняй стадыі…

Дактары кажуць, што чым больш малады арганізм, тым хутчэй рак распаўсюджваецца і зьнішчае чалавека… а маме было сорак два гады… узрост, калі ўсё толькі пачынаецца, але яна ўжо выглядала як стары чалавек, хоць і не было ў яе аніводнага сівога воласа, толькі свае натуральныя прыгожыя каштанавыя валасы, якія я тым вечарам машынкаю састрыгаў пад нуль, бо пасьля хіміі яны палезлі цэлымі пасмамі.

# 3

Для чаго я спрабую выказацца тут, у гэтай кнізе, аб апошніх падзеях васьмі год? Мне здаецца, у першую чаргу я маю намер дагаварыць, дастаць гэтую крыўду на сьвятло, вонкі, крыўду, якая ўва мне сядзела і таўсьцела, павялічвалася, і яе стала зашмат праз усе гэтыя неверагодныя, несправядлівыя жыцьцёвыя акалічнасьці з намі, з нашай сям'ёй і асабліва з мамаю… і я б хацеў нарэшце агучыць усё гэта, бо, калі мінае колькі часу, я адчуваю, як у мяне зьяўляецца голас гутарыць менавіта пра гэта… голас неспакойны, месцамі жаласьлівы, а можа быць, ён камусьці падасца і рамантычным… на дзясятак адсоткаў, скажам, рамантычны.

Я спрабую ахапіць гэтае жыцьцё, суб'ектыўна, але натуральна паказаць ягоныя вантробы, вантробы хваробы і нашага часу… і ведаеце, мне становіцца лягчэй, я разумею, што праз увесь гэты тэкст я пачынаю весьці роўны дыялёг з мамаю, я вучуся яе слухаць, вучуся гутарыць зь ёй не перабіваючы і не зрываючыся на нэрвы, кшталту гэтага падлеткавага: "Ма-а-а-м, бліііін, ды што ты ізноў!"

Справа ня толькі ў тым, што мама захварэла, гэтага ніхто не прадбачыў, і ўсе мы былі ў шоку, усе стаялі перад вусьцішнымі праблемамі экзыстэнцыялізму, калі

ты сапраўды ня ведаеш, як сябе будзеш паводзіць, сутыкнуўшыся зь мяжою падзеяў, калі зазірнеш у твар абставінам мяжы тут і цяпер… і якім ты станеш потым, пасьля, калі гэты францір па-за табою, за тваёю сьпінаю… рэч у тым, каб пастарацца зьмірыцца са стратаю і прааналізаваць мінулае.

Зразумела, што мае спробы стварыць аб гэтым кнігу, напісаць раман, штосьці кшталту алегорыі на сучаснасьць, спробы споведзі і злоснага крыку, у першую чаргу хвалююць мяне праз тое, што я ня ведаю, хто я цяпер… які я, які ў мяне характар, куды прывёў мяне гэты экзыстэнцыйны вопыт…

Раней я дакладна ведаў, што змагаюся за літаратуру… што жыву ня проста так, што мяне сапраўды заносіць удалячынь падчас пісьма, і я магу ў гэтым літаратурным сьвеце жыць доўга, вельмі доўга, настолькі доўга, наколькі гэта будзе мне патрэбна і будзе мне падабацца…

Я зь дзяцінства абвык да таго, што літаратура можа цябе выратаваць, даць табе моцы перажыць усё, абсалютна ўсё… я ведаў і натуральна бачыў, як за кнігі людзі паміралі і ахвяроўвалі сваім жыцьцём, і надышоў час, калі мне спатрэбілася пачаць пісаць… спачатку зьявілася прага эпатажу, бо я вельмі любіў, калі на мяне зьвярталі ўвагу… я пісаў шок і шык, трэш і бруд, і мяне ад гэтага пёрла, чаго, шчыра кажучы, не здаралася ў маіх чытачоў.

Мая сьвятая дзіцячая вера, што я вось творца, саманазваны пісьменьнік, заносіла мяне на ўскрай фантазіі ды эгацэнтрызму, і простых рэчаў, якія маглі б мне дапамагчы разьвіць літаратурны стыль, папросту не было перад маім носам, яны былі мне нябачныя, бо пыха кіравала астатнім.

Я, скажам так, на нейкім жыцьцёвым этапе абмінуў той момант, калі варта было б спачатку навучыцца правільна чытаць, а потым толькі пачаць пісаць… бо чытаў я, як вар’ят, і гэта прыносіла процьму ведаў, але не надавала майму зроку пісьменьніцкага крэатыву. І, калі ўжо так паглядзець на ўвесь свой творчы працэс, і я маю на ўвазе тэксты, якія я пісаў для першай кнігі, яны наскрозь набрынялыя Ўэлшам, Бэроўзам і спробай самагубства, ракам, перажываньнямі і сапраўднай нявыкруткай, таму так атрымалася, што ў гэтую літаратуру я ўвайшоў як злачынец, як вар’ят і як небарака… і да ўсяго мае “Атручаныя людзі” былі заўважаныя і крытыкамі, і пісьменьнікамі… і лягічна, што гэтая кніга апавяданьняў была сырою і нікчэмнаю, як і большасьць першых кніг, як і хто б іх ні пачынаў – на сонечным Балі, папіваючы сьвежавыціснуты сок, ці пад сталом у падсобцы на працы, перажоўваючы камякі стогнаў… кніга адразу выклікала ў абсалютнай большасьці людзей агіду, пракляцьці і лямант, але знайшліся, сапраўды знайшліся чытачы, якія пісалі мне словы падзякі, і літаратурныя крытыкі, якія ставілі высокую адзнаку напісанаму.

Між іншым я атрымаў процьму зьдзекаў і кпінаў адначасова як ад бліжэйшых сяброў (што для мяне было самым сапраўдным ударам), так і ад маладых (і ня вельмі) пісьменьнікаў… наўпрост знаходзіліся людзі, якія пісалі мне абразы, плявалі ў душу, і нават былі сярод іх тыя, хто паводле статусу ня мусіў бы сябе так непрыгожа паводзіць…

Я, на той час зусім засмучаны хлопец, які жыў працяглы час не ў гуморы, увогуле гатовы быў закапаць сам сябе, першым легчы ў труну, але ж мама заўсёды казала, што гэта ня толькі неверагодны грэх, але й жудасьць для

бацькоў – пахаваць сваё дзіця… і я працягваў далей жыць, і пісаць, і працаваць…

Мяне на тым першым творчым этапе ня столькі падтрымалі родныя (пра тое, што мама зьбірала апавяданьні і інтэрвію са мною, я даведаўся, толькі калі перабіраў яе рэчы, ня так даўно… пасьля сьмерці)… дык вось, ня столькі мяне родныя падтрымалі, колькі тры моцныя асобы: А. Г., А. Б. і спадар У. А..

Гэтыя людзі мяне падтрымалі… кожны па-свойму: хто пажаданьнем плёну ў творчасьці і падтрымкай у выглядзе шорт-ліста літаратурнай прэміі, хто па-сяброўску за бутэлькай каньяку больш напорыста і крытычна, але надаючы мне мужнасьці займацца літаратурай і надалей, а хтосьці зь іх проста сказаў, што чытаў і ўхваляе…

***

Увогуле мае кнігі мяне штодзень кудысьці гналі, не давалі мне спыніцца, патрабавалі і шэптам нагадвалі, што гэта толькі пачатак, варта было б сёньня дапісаць, не адкладаць у далёкую шуфляду нічога, працаваць шмат і перапрацоўваць гэта, выдаляць і зьмяняць… і так сталася, што мне ўжо казалі, сумна так, што вось, я пасьпяшаўся зь першаю кнігаю, вось ужо і казкі вышлі, і я не магу прэтэндаваць на новую, сьвежасьпечаную, румяную грашовую прэмію для маладых пачаткоўцаў, для маладых пісьменьнікаў…

Я сапраўды для беларускай літаратуры – пасынак, прывід пісьменьніка, вельмі нежаданы дзіцёнак, злы вар’ят, хам і алькаголік… я пасьпеў адразу не спадабацца процьме творцаў і процьме калялітаратурных дзеячаў… мяне адразу сьпісалі ў бяздарныя прыблуды, і тым болей я пачаў

не падабацца пэўнай колькасьці і некаторым суполкам і колам людзей, калі атрымаў творчую стыпэндыю ў Нямеччыну… засеў я са сваімі тэкстамі косткаю ў горле шматлікім… і зь мяне кпілі, маўляў, зьбіліся лічыць колькасьць маіх кніг… і банілі мяне, і нават спамілі… дарэчы, сьмешна спамілі: “Пялевін, пішы яшчэ, сука кончаная, давай яшчэ болей кніг” – такі вось сказ прыходзіў мне пэрыядычна з розных дзіўных мэйлаў… пра мяне нават пісалі вельмі злыя неўраўнаважаныя апавяданьні, дзе скажалі маё прозьвішча, маю асобу зьневажалі і малявалі мяне як абсалютна ябанутага графамана, на мяжы сквапнасьці і вар’яцтва, які так любіць лізаць дупы розным вядомым пісьменьнікам…

Што цікава… я гэта перажыў… перажыў праз тое, што сышоў у іншае жыцьцё, стварыў сабе абсалютна новага чалавека, пісьменьніка, нарадзіў сабе свайго асабістага празаіка… прыдумаў яму жыцьцё, біяграфію, зарэгістраваў у сацсетках і нават мабільны яму падключыў, адвёз свайго героя пісаць кнігі замест сябе на сялібу пад Нясьвіж… і тады мяне адпусьціла, нэрвы сталі на месца, я пачаў больш-менш нармалёва спаць, ня ўлічваючы запаленае сьвятло і кашаль мамы з суседняга пакоя…

І, што таксама цікава, для мяне асабіста… мне… нарэшце стала абсалютна абыякава, хто, дзе, калі і за што не прапускае мяне на тыя ці іншыя творчыя стыпэндыі, не пускае ў друк… я перастаў хадзіць на літаратурныя сустрэчы, чытаньні і тусоўкі, на мяне пачалі забывацца, мяне пачалі адпускаць ад сябе пагуляць. Я, па сутнасьці, даўно мог бы быць таксама і там, і тут, і, можа быць, пісаць артыкулы для пэўных сайтаў, бо і чалец належных

літаратурных арганізацый, і публікацыямі а.і.бацкеля не пакрыўджаны, тае ж… напэўна… чалавечы фактар – кагосьці да гэтага часу ванітуе ад маёй асобы і маёй прозы… і я разумею, і я не прымаю гэта, бо мусіць быць аб’ектыўны падыход да ўсяго, але, на жаль, асабістае стаўленьне да гэтага часу – прыярытэтнае.

***

Ладна, што гэта я тут разышоўся… усё літаратура і літаратура… мне здаецца, што без такога “літаратурна-біяграфічнага” ўступу не зусім усё можа быць зразумелым, пра што я тут расьпінаюся… мне хацелася б зьвярнуць вашую ўвагу, што некаторыя рэчы ў маім жыцьці так супалі, што я ня здольны быў стацца паслухмяным зайчыкам, які піша толькі пра тое, што павінна ўсіх задавальняць і асабліва цешыць розныя там суполкі і зьвязы пісьменьнікаў і колы крытыкаў. Ня тое было і застаецца ў мяне на сэрцы, і не такім чынам, як большасьці хацелася б, я жадаю пісаць і выказвацца.

Я сасьпеў на гэтую колькасьць старонак і ідэяў для напісаньня пэўнай колькасьці кніг апавяданьняў ня проста так, я паглыбляўся ў філязофію дэкадансу, я захапляўся чытвом і гісторыяй ва ўнівэрсытэце, я вывучаў бітнікаў і экзыстэнцыялістаў, я цікавіўся дэпрэсіяй, чалавечымі скрыўленьнямі і ў першую чаргу кінутымі людзьмі, разьюшанымі і пакамечанымі жыцьцямі… і калі нарэшце пра гэта ўсё напісаў, я змог крыху супакоіцца, перадыхнуць і дазволіць ствараць сваю літаратуру а.і.бацкелю, чалавеку, які навучыў мяне быць аб’ектыўным, шчырым і крыху “паехаўшым”…

Але што ж гэта я нічога не сказаў пра сваю сям’ю, пра В., якая сапраўды мяне выратоўвала падчас хваляваньняў, жарсьцяў і спробаў мяне зьнішчыць ананімнымі людажэрамі і нэрвовымі зрывамі ад хваробы мамы…

В. падаравала мне другое жыцьцё, яна – тая самая сьветлая сьцяжынка, маё сьвятло, якое пачало знаёміць мяне з прыгажосьцю гэтага сьвету, з цудам жыцьця і назіраньнем за прыродаю… дзякуючы ёй я пачаў пісаць казкі і больш сьветлыя апавяданьні… але пра гэта ня тут.

***

Бо я хацеў бы спыніцца на такой акалічнасьці, на такой абсурднай сытуацыі, як ад’езды, грэбаныя стыпэндыі, камандзіроўкі і падарожжы… я думаю, тут нікому ня трэба тлумачыць, што гэта такое, калі твой блізкі чалавек – хворы, а табе выпадае шанец ехаць вучыцца за кошт інвэстара ў Англію на тры месяцы… маме толькі зрабілі апэрацыю на грудзях, яна праходзіць шматпакутную хіміятэрапію, ванітуе і кепска сьпіць, хадзіць ня можа, а табе кажа, каб ехаў, бо ў жыцьці трэба ўсё спрабаваць і да любых прапановаў цягнуцца, інакш будзеш шкадаваць потым…

У мяне ўвогуле на той час ня складвалася ні з вучобаю, ні з адносінамі, ні з творчасьцю… і я злоўжываў алькаголем і быў падобны да пракіслага яблыка, месцамі прагнілага, месцамі яшчэ бліскучага і сьвежага, я хаміў, сварыўся і любым чынам шукаў ад навакольных абразы, сваркі, бойкі, пляўкоў у свой бок… я вельмі хацеў, каб мяне крыўдзілі, я кідаўся біцца, ноччу залез на Кальварыйскія могілкі і швэндаўся там сярод надмагільляў, я ціха гутарыў з памерлымі, ажно пакуль на мяне начны стораж

не спусьціў сабак… бег я адтуль шпарка, у вочы трапляла гальлё, я пасьпеў перакуліцца праз агароджу і акурат ілбом праз тоўшчу сьнегу ўляпіцца ў арматуру – лоб і нос былі падраныя, кроў залівала мне вочы, а я бег, і сам сябе ненавідзеў, і праклінаў гэты сьвет і Бога за ўсе выпрабаваньні.

Я насамрэч проста хацеў хаця б з кім-небудзь пагутарыць, я шукаў сябра, мне сапраўды не ставала бліжэйшага чалавека… і я шукаў сяброў сярод сабутэльнікаў і старых знаёмых, сярод сваіх кліентаў і сярод выдаўцоў, пісьменьнікаў і асабліва сярод паэтаў, бо назіраў за некалькімі, якія мяне натхнялі, і мне здавалася, што мы зь імі падобныя… я шукаў падтрымкі і сярод музыкаў, мастакоў і нават архітэктараў…

Але ўсё заканчвалася аднолькава – усе жлукцілі і вялі сябе як вар’яты і быдла, і ніхто ня тое што гутарыць не хацеў на тэму свабоды мастацтва, альбо там пра сёньняшняе надвор’е, альбо пра маё апавяданьне, ніхто проста ня чуў мяне…

А потым я ўвогуле пачаў больш маўчаць, ніж гутарыць, у кампаніях і сярод усёй гэтай багемы… а мінула колькі часу – я ўвогуле замкнуўся на сваёй сялібе пад Нясьвіжам і пасяліў там свайго любімага сабаку, В., бараду Патрыка, Л., Р.Дз., А.Б. і М.Ш. і пачаў займацца вытворчасьцю налівак і экаежы…

***

Насамрэч магчыма зьбегчы куды заўгодна, але немагчыма зьбегчы ад уласнае галавы… і вось я ў Лёндане, марыў пра гэта зь дзяцінства, калі трапіў па праграме дзяцей

Чарнобылю ў Шатляндыю і калі пачаў вучыцца ў спэцклясе па ангельскай мове.

Я ў Лёндане, мне дваццаць тры, і хутка тут, у Брытаніі, я буду сустракаць свой новы дзень нараджэньня. Мне б закруціць раман, мне б пасьпець абысьці ўсіх мастакоў у музэях, мне б пазнаёміцца з Дыкенсам і Шэксьпірам… але я раблю дзьве асноўныя рэчы: вучуся ў акадэміі і швэндаюся бяз мэты па горадзе, мне сумна, я часта вяртаюся ўспамінамі да мамы і пераглядаю свае жыцьцёвыя каштоўнасьці… я наіўны і просты, як тапак, і я ўсё яшчэ веру, што ў мяне атрымаецца ня толькі цудоўная літаратура, але я знайду сабе сапраўдную кампанію паэтаў і пісьменьнікаў, знайду сабе сярод іх месца, каб весьці дыялёгі і спрачацца, філязофстваваць і проста разам усім маўчаць.

Па выніку, калі я вярнуўся, я знайшоў сабе двух паэтаў-выблядкаў, якія мяне не паважалі, і ўсяляк мне зайздросьцілі, і за сьпінамі кпілі зь мяне і маёй літаратуры, і падстаўлялі мяне не аднойчы, і цягнулі зь мяне процьму грошай, і люта ненавідзелі, калі ў мяне пачалі выходзіць кнігі… я сапраўды быў такім дзіцём, я так шчыра захапляўся сяброўствам і літаратураю, што проста адмаўляўся заўважаць увесь гэты бруд вакол сябе, усю гэтую багну, у якую мяне з галавой зацягвалі так званыя сябры… і ніхто, ніхто ўвогуле не дапамог мне скласьці кнігу так, каб яна была вартай, ніхто нічога не раіў, толькі рэдагавалі, і тое кепска, і пілі… хоць варта было б сказаць, што ў першую кнігу з усіх апавяданьняў можна было б узяць толькі два, а астатняе выкінуць…

Але вернемся, вернемся, мае шаноўныя, у Лёндан… дзе я ў здымнай кватэры каля сквэру Расэла набіраю хатні менскі нумар:

– Мам? Лёша? Прывіт. Дай маму… як яна там?

– Прывіт, нармальна… адпачывае…

– Тады не давай мне маму, я перазваню.

– Не, я ўжо зайшоў да яе ў пакой. Як там Англія?

– Ахраненна! Проста цуд нейкі! Ня веру, што я тут!

– Мг… – я чую, што брата гэта ня вельмі радуе, мяне таксама гэты цуд ня надта радуе.

– Мама. Ну як ты?

– Я добра, сыночак, лепей скажы, як ты там?

– Я таксама добра…

– Апранаесься цёпла? Шапку носіш? Зіма ж!

– Ма-а-ам! Тут плюс! Тут цёпла-а-а…

– Ну што ты ныеш адразу! Я хвалююся!

– Добра, я зразумеў.

– Есьці ёсьць што?

– Да.

– Як вучоба?

– Нармальна… я, дарэчы, раней за ўсіх ужо здаў адну фрызуру з пятнаццаці, і вось трэба пачаць пісаць курсавую пра “Тоні і Гай” і пра моду…

– Я радая за цябе, сынок… я ведала, што ў цябе ўсё атрымаецца!

– А што там дома, мама…

– Усё нармальна… як звычайна… бацька п’е… Лёша працуе… сумны нейкі ходзіць.

– Хто?

– Лёша…

– Ну зразумела… а ты як?

– Баліць пад пахаю… але паціху, я змагаюся!

– Папраўляйся, мама…

Так звычайна мы гутарылі з мамай, але ўсю інфармацыю, галоўную для мяне, я атрымліваў ад брата… ён, калі

першым адказваў на званок альбо ў канцы, пасьля мамы, распавядаў мне, што ёй кепска, вельмі… занесьлі інфэкцыю падчас апэрацыі… швы разыходзяцца, сочыцца з раны крывя і нейкая вадкасьць… я слухаў моўчкі, мне не было чаго сказаць, мне і сорамна, і няёмка, але ў свой адрас ніякіх папрокаў я ня чуў, усе разумелі, што такое падарожжа для мяне – неабходнасьць… і калі дактары давалі лічаныя месяцы, то гэта яшчэ не пацьверджана, бо апэрацыя зроблена, хіміятэрапія амаль пройдзена… засталося верыць і чакаць… я слухаў, трымаў слухаўку каля вуха, рука зацякала, я глядзеў на сьценку, пачынаў разглядаць шчыліны і сколы на ёй, і да мяне, як скрозь сон, даносіліся гудкі пакладзенай слухаўкі.

***

І сапраўды, пакуль мяне не было, пакуль я там змагаўся са сваімі прывідамі, вучобаю і супрацьстаяў дэпрэсіўным навальніцам… мама больш-менш акрыяла, і калі я ўжо вярнуўся, яна прымусіла бацьку і ягонага сябра мяне забраць з аэрапорта, я наўпрост трапіў дамоў да прыгожай і вясёлай мамы… яна заўсёды ўмела так рабіць – з намі быць вясёлай, добрай і прыгожай…

Маё жыцьцё пачало паляпшацца… я прывёз процьму падарункаў усім, і нават татаваму сябру, які мяне сустрэў у аэрапорце, – сыр са спэцыфічнай цьвільлю і пахам… дарагі сыр… бацька потым сказаў, што сябра яго выкінуў дома, калі разгарнуў за сталом, – жонка сказала, што ён напэўна цалкам сапсаваўся ў дарозе… а сыр быў сапраўды нятанны і самы што ні ёсьць сасьпелы.

Я вярнуўся дамоў і пабачыў, што замест кніжнай паліцы, якая вісела ў маім пакоі, цяпер стаіць вялізная

шафа, дакладней вялізныя паліцы, шырокія, прыгожыя… гэта мама прымусіла бацьку паставіць мне прыгожыя паліцы ня толькі для кніг, але і для іншага, каб усё зьмясьцілася… то-бок яна дамаглася ад яго, каб ён паехаў у “Зрабі сам”, набыў там дошкі і цьвікі і скалаціў мне, паводле ейных замераў і чарцяжу, сапраўдную вялікую амаль што шафу, толькі безь дзьвярэй. А гэта, скажу я вам, подзьвіг як для таты, так і для мамы…

Праз колькі месяцаў я ўжо з імпэтам працаваў у ангельскай франшызе ў Менску, навучаў новы пэрсанал і заляцаўся да некалькіх дзяўчат… нам усім станавілася лепей… лягчэй… можна часова забыцца на хваробу і проста папіць піва ўвечары, паглядзець у зорнае неба і нарэшце пачаць пісаць штосьці вялікае і цікавае, штосьці вартае жыцьця ня толькі дзеля рэабілітацыі і дзеля змаганьня з кімсьці альбо чымсьці, але дзеля жыцьця і сьцьвярджэньня мараў, і я прыдумаў “Апранутыя апавяданьні”.

***

Так, сапраўды, ложак мой у Лёндане – гэта ложак-забойца…

Ну, па-першае, я яго не разьбіраў да канца, і таму ў сабраным становішчы ён быў кампактнай канапай на дваіх, і калі пакласьціся на такую канапу, ногі і галава не памесьцяцца, толькі тулава… і звычайна я на такой канапе спаў альбо ў позе эмбрыёна, альбо на сьпіне, такім чынам падняўшы і зьвесіўшы праз падлакотнік ногі, быццам зьбіраюся нараджаць, а пад галаву клаў усё, што пад руку траплялася…

А па-другое, я ня мог фізычна рабіць такія рэчы, як разьбіраць і зьбіраць канапу. Адна думка пра тое, што мне давядзецца п’яному ўвечары штосьці разьбіраць, выклікала ўва мне ўнутраны хаос, я адразу пачынаў скукожвацца і ссыхацца, як разынка, і ўзьбірацца на канапу як ёсьць… з бутэлькаю шатляндзкага ўіскі… выпіваць перад экранам ноўта, так званага лэптопа.

І таксама варта было б дадаць, што я атаясамліваў сваю няўтульнасьць з мамінай няўтульнасьцю ў дадзеных часе і прасторы, я ўяўляў, як ёй цяжка ляжаць цяпер там і як ёй цяжка спаць і трываць усе гэтыя пакуты, таму я сябе прымушаў таксама пакутаваць… разьдзяляць зь ёй боль на адлегласьці.

***

О! Што б я адпавёў у той адносна далёкі час, калі б мне сказалі, маўляў, тое, што маме цяпер стала лягчэй, яшчэ нічога не азначае, бліжэйшымі гадамі цябе чакаюць адныя творчыя расчараваньні… і нават калі ты будзеш радавацца буйной нямецкай літаратурнай стыпэндыі – не сьпяшайся, бо за гэтым адразу рушаць усьлед нездаволеныя выпады, процьма крытыкі і нейкай агульнай абыякавасьці да цябе і тваёй творчасьці, бо тыя, хто гучна пра сябе заяўляюць ад самага пачатку, мусяць умець трымаць удар, бо калі твае першыя кнігі перабіраюць па костках – у дзевяноста адсотках выпадкаў знойдуць адну салому, злосьць і няспраўджаныя мары падлетка, і нічога ад літаратуры.

Так са мною і сталася, я зарана атрымаў стыпэндыю і адначасова адказнасьць у вачах шматлікіх беларусаў…

але ж я нікому нічога ня вінны і не абавязаны! Я сур’ёзна гэта заяўляю, бо таксама маю сваё права на творчасьць, на свабоду думкі і стварэньня сваёй літаратуры, якую я бачу сваімі ўласнымі вачыма, а ўсё астатняе – гэта праблемы ГЕРМЭНЭЎТЫКІ! Дзякуй, але я як-небудзь без чужой дапамогі пакрочу, куды мне трэба…

І вось у нас адначасова безьліч радасных навінаў: я жанюся з цудоўнай В., у нас наперадзе яшчэ вольны і цікавы Кактэбэль, а потым ад’езд на стыпэндыю ў Ваймар на паўгода… грэх скардзіцца… гэта сьветлы пэрыяд майго жыцьця, усім добра… больш-менш усім добра… але я не кажу тут пра розных курдупеляў і пра іх зайздрасьць ды чорную душу.

Да таго як распачаць пісаць свой першы вялікі літаратурны праект, я, начытаўшыся Пітэра Грынуэя… праяжджаючы на тралейбусе праз баптысцкую царкву, прыдумаў ідэю абагульніць процьму краінаў і гісторый пра людзей пры дапамозе адзежы, якая гуманітарным грузам развозіцца па цэрквах… мой першы праект… і мяне проста на кавалкі рве хутчэй пачаць, асэнсаваць, зьдзейсьніць яго! І мне не хапае толькі вольнага часу.

Я добра ўсьведамляю, што адкрываю для сябе штосьці кардынальна новае і ў мяне будуць шэсьць магічных нямецкіх месяцаў, каб напісаць усё як мае быць… пастунова… з асалодаю…

І тут, у дадзеных часе і прасторы, сапраўды зьяўляецца асалода ад творчасьці, я адчуваю, што гатовы да сваіх маленькіх вялікіх адкрыцьцяў, я разумею, што магу па-іншаму пачаць пісаць, бяз злосьці, бяз скрухі…

І, што істотна, мама радуецца жыцьцю… езьдзіць з бацькам на лецішча… мы з В. выдаем нашыя казкі – кнігу сумеснай мастацка-літаратурнай творчасьці.

Нам хораша.

***

І калі да маёй самоты ў Нямеччыне далучаецца В., у нас пачынаюцца ўвогуле вясёлыя дні… я званю маме нячаста, бо аўтаматы на вуліцы пасьпяхова жаруць манэты па эўра за сэкунды размовы… але я і не хвалююся, у мяне няма жаданьня і часу гутарыць з мамаю доўга… у нас усё файна… у мамы таксама… яна не сумуе, яна займаецца гаспадаркай, вяжа, шые, чытае кнігі, глядзіць сэрыялы, адважна вучыцца жыць наноў, бо рак спыніўся… спыніўся, але нікуды не сышоў, ён проста ўзяў сабе адпачынак… адпачынак за наш кошт… і нам зразумела, што ён нікуды не падзеўся, ён проста ня так актыўна пачаў сябе паводзіць… але мы… нам… калі нам тады сказалі – шэсьць месяцаў… і ўжо ідзе трэці год жыцьця… мы пачынаем верыць у цуды, мы пачынаем жыць… хоць тут, вядома, вялікая заслуга дактароў, якія ніколі не раскрываюць сьмяротна хворым усе карты і таямніцы, бо лепей ня ведаць нічога пра сваю хваробу, ніж ведаць тое, што можа цябе вельмі хутка паламаць… плацэба ніхто не адмяняў, і яно нам заўсёды больш патрэбнае і карыснае, ніж веды…

Нямецкі пэрыяд жыцьця для нас з В. стаўся адным з самых плённых і натхнёных, мы вучыліся ў іншых, у мінакоў і ў вялікіх творцаў, мы вучыліся адно ў аднаго… жыцьцю, творчасьці… разважалі, марылі і падарожнічалі, і не было б гэтаму ні канца ні краю, калі б тэрмін стыпэндыі ня скончыўся.

За той “лёгкі” час мы пасьпелі пакахацца на старым ложку ў Крыме і на ім жа праляжаць з тэмпэратураю пасьля атручаньня мясцовай ежаю… мы пасьпелі паспаць асобна і ў вялікай самоце, як для маладзёнаў, калі я першым зьехаў у Нямеччыну, пакуль В. потым не залезла са сваімі халоднымі ножкамі да мяне ў ваймарскі ложак, напярэдадні новага году, шумнага, вясёлага эўрапейскага новага году! І мы цалкам выкінулі з галавы нашыя старыя ложкі, канапу і процьму іншага друзу, бо мы ведалі, што ўсё добра… і так мусіць быць заўжды з намі, і з мамаю, і зь яе новым вялікім-вялікім і пухнатым ложкам, які ёй не замінаў выдатна адпачываць, бо бацька ў сьне на яе не навальваўся, спаў адносна далёка, хоць і хроп, як той яшчэ дзікі зьвер.

## 4

А што было далей?.. Што было далей?! Далей было вось што!

Я аднойчы прыйшоў дамоў, а на гаўбцы, схаваўшыся за вільготнымі наўлечкамі і ручнікамі, сядзела на раскладным зэдліку мама… сядзела і ціха, бяз гукаў плакала… вялікімі бліскучымі сьлязьмі… якія каціліся ў яе да падбародзьдзя і капалі на куртку.

Мама кожныя паўгода робіць у мясцовай паліклініцы флюараграфію, спэцыяльную, падрабязную… і ў яе выявілі мэтастазы ў правым лёгкім… так здарылася, што паўгода таму нічога не заўважылі, а калі мінула яшчэ шэсьць месяцаў, калі ўжо нават сьляпы заўважыў бы мэтастазы, нам сказалі, што ўжо запозна… усё, прыехалі, канец… лёгкае неапэрабельна… і вось тут у нас сапраўды апусьціліся рукі.

У гэты момант я ўпершыню адчуў сапраўдную нявыкрутку, неабходнасьць крычаць была неверагоднаю, але я ўсё гэта праглынуў…

Паспрабаваў неяк вельмі нудотна і нязграбна падтрымаць маму, а сам толькі і рабіў, што праклінаў тую доктарку, ці хто там быў… доктара, лябаранта… лябарантку,

якая… які… быў настолькі бязвокай жывёлай, што не заўважыў маленькае зацямненьне паўгода таму, якое магчыма было скальпэлем выразаць і пакінуць паўтара лёгкіх, але застацца жывым…

Што ж гэта такое?! Хто мне скажа? А?! Што гэта такое? Лёс? Сьляпыя дактары?.. Рукадупыя лябаранты? Бясплатная мэдыцына?!

У мяне сапраўды не было ніякіх думак, меркаваньняў, нічога, акрамя страху і нянавісьці… я разумеў, што наперадзе ў нас вельмі цяжкія дні, тыдні, месяцы… а калі пашчасьціць – гады… цяжкія, але нашыя, сямейныя, з мамаю.

Нам трэба было аб’яднацца, стаць разам, каб лягчэй было змагацца з хваробаю… а бацька ўзяў і вырашыў паехаць працаваць у Маскву…

Але добрага было і тое, што мой брат ажаніўся, і мама завіхалася ў гэтых справах, і мы стараліся радаваць яе, як маглі, але звычайна я то злаваўся побач зь ёю… ня ведаю… ну на яе меркаваньне аб палітыцы… альбо, там, пра суседзяў, што яна кажа: “а што ж суседзі скажуць?”… альбо нэрваваўся на яе за гэтыя: “так, апрані тэрмінова шапку!” ды “на ноч ня еж!”

Забабоны гэтыя ў яе былі розныя, а я як сын быў не ў гуморы ад такога… а то ж.

***

Ведаеце, калі пачынаеш чуць, як хтосьці цяжка кашляе ў іншым пакоі, і калі ведаеш прычыну… калі ведаеш, што гэта немагчыма спыніць і што твая мама п’е сыропы ды розныя пігулкі, каб зьмягчыць кашаль, толькі

і ўсяго… для цябе сон ператвараецца ў скамечаны аркуш паперы, такой паперы, якая добра пайшла б на вытворчасьць каробак… папера, якую, нават разьмяўшы ў руках, вельмі складана ператварыць у шар, у мяч. І ўявіце, што вы ляжыце на гэтай пакамечанай паперы замест ложка і ўсе гэтыя “мячыкі” сваімі краямі ўпіваюцца вам у сьпіну.

Вось мама закашляла крыху мацней – і па сьпіне цячэ пот, і сьпіну коляць голкі, і ты варочаесься, бо ложка ўжо больш няма, замест яго – пекла, матрац, напампаваны лёзамі.

Цяжка перадаць, і таксама цяжка пра гэта штосьці сказаць.

Для мяне гэтая чацьвертая частка кнігі самая складаная… на яе я ад самага пачатку глядзеў як на штосьці далёкае, недасяжнае і таму быў больш-менш супакоены, але ўсё роўна гнаў думкі, што калісьці мне давядзецца дакрочыць і да яе…

Скажам так, першую частку я пісаў, бо мне трэба было накрычацца, выкрыкнуць усе затоеныя крыўды, назваць імёны, асэнсаваць цяжкасьці жыцьця…

Другую частку я пісаў ужо з надзеяй распавесьці ня толькі пра свой сум і боль, але аб’ектыўна апавесьці пра жыцьцё…

Трэцюю частку, мне здаецца, я пачаў пісаць як эгаіст, спрабуючы растлумачыць свае няўдачы і свой характар праз пакуты, і нейкім жабрацкім чынам прасіў чытача мяне пашкадаваць і ўзяць на ручкі, пагушкаць беднага сына гэтай тройчы перакроенай краіны…

Дык вось, пра чацьвертую частку я стараўся як мага далей ня думаць і нават зрабіў некалькі захадаў выдалень-

ня яе… то-бок я пачынаў яе пісаць і выдаляў, у думках цалкам апраўдваючы сябе, што і без фіналу тут мо й не раман будзе, але ж аповесьць дакладна…

Я супакойваўся на колькі дзён, а потым пачынаў шалець і пісаць чацьвертую частку ізноў. Вяртаючыся ўспамінамі, пачуцьцямі і думкамі то да мамы, то да ложкаў, а то й захлынаючыся ў спробах растлумачыць хаця б тут, што для мяне… для нас азначала тое ці іншае… кватэры, суседзі, сваякі, канапы і алькаголь, хвароба і гэтае ўменьне супрацьстаяць, гэтая неверагодная маміна моц трымацца і жыць… і ня проста жыць, але працягваць нас гадаваць, песьціць, вучыць быць у міры разам, вучыць павазе і рыхтаваць нас, кожны дзень рыхтаваць нас быць моцнымі, сьмелымі перад жыцьцём і сьмерцю, быць шчырымі перш за ўсё адно перад адным, бо “калі мяне ня будзе, вы з братам будзеце самымі блізкімі адзін аднаму”, бо “калі мяне ўжо ня стане, ты са сваёю жонкаю будзеш сям’ёй, і будзь зь ёй добрым, мудрым і ласкавым, бо яна твой скарб”.

І што я маю? Я маю сапраўды тое, пра што мне казала мама, я маю свой скарб і я маю свайго самага блізкага чалавека – брата… далей нам жыць, далей…

Мы жылі асобна ад бацькоў амаль два гады… жылі паўгода пасьля таго, як мамы ня стала… а потым вярнуліся ў гэтую пустую кватэру… глядзець на ложкі не было моцы, таму спачатку мамін пакой быў зачынены і адчыняўся даволі рэдка… і мы працягвалі пакідаць запалены таршэр на кухні, як гэта рабіла мама, калі раней чакала нас… цяпер на кухні сьвятло гарыць штоноч і штодзень… бо мы чакаем, падсьвядома мы чакаем.

А потым адзін за адным пачалі зьмяняцца дні і тыдні, мне здавалася, што я ніколі ня кіну так шмат піць… я нажлукчваўся як ашалелы, і нават калі В. сыходзіла спаць альбо засынала, я пасьпяваў дапіць, дасмактаць, дахлябтаць гарэлку, ўіскі, каньяк, піва, віно…

Здавалася, няма гэтаму ні канца ні краю… я лічыў, што зрабіў вялікую памылку, пачаўшы ў апошнія тры дні даваць маме ўколы морфію… яна ж мне казала, што ня хоча такіх моцных уколаў. Разумееце, яна ў апошнія дні ўжо не магла так проста трываць на звычайных абязбольных… мне давялося званіць у хосьпіс і прасіць пачаць ёй даваць морфій… яна яшчэ ўставала… уявіць цяжка, але яна ўставала ў прыбіральню і нават пад морфіем не жадала бачыць ніякіх “утак”… калі прыходзілі дактары, хуткая альбо супрацоўнікі хосьпісу, дык дзіву даваліся, што мама ня тое што не ў падгузьніках, але сама ходзіць на кухню, калі трэба паесьці, хаця б крыху падсілкавацца… яна была як волат, як сапраўдны змагар, які на маіх вачах ствараў цуд ВЯЛІКАЙ барацьбы, мужнасьці і шчырай любові да нас з братам і да ўсіх астатніх: родных, сваякоў, суседзяў, дзяцей, жыхароў, народаў.

***

Нам увогуле вельмі цяжка даўся пераезд. Колькі разоў я з мамай заводзіў гутарку, што мы пераяжджаем не таму, што яна нам замінае, а таму, што нам трэба эканоміць, нам трэба здымнае жытло, каб у В. была асобная майстэрня, а ў мяне свой кабінэт, і такім чынам мы сумясьцім тры рэчы ў адным і ня будзем асобна здымаць майстэрню і кабінэт!..

Мама крыўдзілася і нават плакала… я памятаю нашыя доўгія гутаркі раніцамі, калі я перад працаю яе адвозіў

на хіміятэрапію…. І на наступны дзень – гутаркі падчас вяртаньня з бальніцы дамоў…

“Мама, нам трэба жыць асобна, я табе ўжо казаў пра гэта… я ж таксама не магу заўсёды цябе турбаваць і сваёй працай, і сваім жыцьцёвым графікам… табе трэба больш адпачываць… а мы да паўночы можам ня спаць… і табе нельга дыхаць алеем, і ацэтонам, і лякам і… і… і…”

Мама ехала, слухала, казала, што разумее, але насамрэч магла потым праз колькі дзён на кухні, калі мы яе наведвалі і заставаліся ночыць, выдаць, што ўсе яе кінулі, і мы з В., і брат з К., усе разьехаліся…

Мне сорамна за гэта, але калі мы пераехалі, я стаў спаць даўжэй, мой матрац больш ня рэзаў так сьпіну, мне было лягчэй проста ляжаць дома і званіць маме, гутарыць зь ёю, запытвацца, як у яе справы, што рабіла за дзень яна і яе сядзелка Ганна, якую мы нанялі ёй яшчэ да пераезду.

Ганна прыгатавала булён з кавалка вясковай качкі, прыбрала на кухні і паўсюль памыла падлогу (мне ўжо сорамна, што падлогу памыла паўсюль Ганна), а мама паглядзела свой сэрыял (яна тады глядзела нейкі ўсходні сэрыял… падзішахі, арабы, пустэльні, каханьне і паранджа на жанчынах).

***

Такім чынам, мне нават цяжка сказаць на якім этапе я не заўважыў, як моцна схуднела мая мама… настаў час, калі мы ўсе, хто калі мог, – бацька, калі прыяжджаў, брат, я альбо сядзелка Ганна – пачалі вазіць маму праз хуткую дапамогу раз на тыдзень, а потым і часьцей, адпампоўваць

зь лёгкага вадкасьць… а потым ужо і з брушной поласьці… гэта быў новы этап нашых іспытаў, нашых маленькіх кароткатэрміновых пеклаў, змаганьняў, маленькіх, але перамог над сьмерцю. Кожным разам мы адцягвалі момант, мы ўгрызаліся зубамі, а калі не маглі зубамі – дзяснамі, кончыкамі пальцаў, пазногцямі… мы чапляліся за любы шанец.

Звычайна маму везла хуткая, а за ёй я на машыне… каб везьці яе зваротна… калі мама езьдзіла з Ганнаю альбо братам, ніхто за хуткаю ня ехаў – вярталіся на таксоўцы (дзякуй Богу, нам кожным разам шчасьціла з кіроўцамі таксі).

Езьдзіць адпампоўваць вадкасьць у бальніцу – гэта выпрабаваньне цярпеньнем, гэта выпрабаваньне зьмірэньнем, гэта выпрабаваньне міласэрнасьцю. Трываць, чакаць і трываць, мэдычная сыстэма напаўжывая, але якая ёсьць… звычайна дактары дзяжурныя, маму пазнавалі і працэс мог паскорыцца, але калі мы траплялі перад выходнымі альбо на сьвяты, дактарам і не да нас было… вось мы сядзім, чакаем, калі нам дазволяць ехаць на чацьверты паверх у пульманалёгію, праз нас носяцца мэдсёстры і ахоўнікі, пацыенты і дактары, усе сьпяшаюцца – прыёмны пакой не гумовы – там бомж з колатым раненьнем у жывот, тут п’яны малады мужчына з брушным крывяцячэньнем… а мы сядзім і чакаем на лаўцы, мама толькі паглядае на мяне, п’е ваду і маўчыць… мы чакаем… а за гэты час, колькі разоў мы там былі, здараліся і бойкі пацыентаў з дактарамі і аховай – буяных прывозілі…

І сьмерці здараліся, калі хуткая прывозіла, але дзяжурны доктар проста не пасьпяваў выратаваць параненага… тады насілкі адвозілі, накрыўшы нябожчыка курткаю, прасьцінаю альбо ягонай кашуляю… і яшчэ доўга стаяў пах экскрэмэнтаў і крыві.

Мама заўсёды казала, што В. зь ёю туды ніколі не паедзе, ня трэба яе пужаць, яна дзяўчына чульлівая, уражлівая і далікатная… але В. зь ёй езьдзіла… мы ўсе езьдзілі.

І на ўсім гэтым фоне мяне вельмі зьдзівілі словы бацькі, ужо пазьней, калі мы рыхтаваліся да пахаваньня:

– Я не чакаў гэтага, што яе ня стане… мне… мне сябра паказаў у інтэрнэце, што калі ўжо вадкасьць зьбіраецца ў лёгкіх і ў брушной поласьці, то максімум шэсць месяцаў.

– Тата, мы з братам яшчэ раней ведалі, што маму ўжо не вылечыць, што ты вярзеш!

– А я ня верыў і ня ведаў! А вы што ведалі?!

– Так, мы ведалі пра ўсё…

– Як гэта так?!

І ён сапраўды на нас крыўдзіўся, што мы пра ўсё ведалі, а ён нічога ня ведаў і недзе сабе прыдумаў, што ўсё будзе добра… мяне гэта злавала, я хацеў, каб ён не ляпіў зь сябе няшчаснага, але годна прыняў страту сваёй жонкі, нашай маці… але яму ўсё гэта цяжка давалася, вельмі цяжка… ён, як малое дзіцё, спачатку на нас спрабаваў абражацца, потым кідаўся і папракаў ва ўсім сядзелку Ганну, што гэта яна не даглядзела маму… гэта было вельмі непрыемна і сьмешна: ён асобна крыўдаваў на Ганну, бо тая яго не любіла, што ён такі п’яны прыходзіў з працы, мог прыйсьці нават і больш-менш цьвярозым, але за сталом на кухні заліваўся дашчэнту… і яго Ганна праганяла ў пусты пакой спаць… а я званіў у гэты час маме, запытваўся пра справы, а мама мне адказвала, што Ганна ўжо сышла, у яе ўсё ёсьць, сёньня прыяжджаць ня трэба, бацька ў іншым пакоі сьпіць, яе не турбуе… ну добра, мама… добра.

***

І вось на гэтым агульным фоне мне трэба ехаць у камандзіроўку на тыдзень, у Прагу, акурат пасьля дня нараджэньня… на наступны дзень.

Як гэта параўнаць, з чым? Як вось так усьвядоміць, што твая маці выглядае танчэйшай за прасьціны, якімі накрытая ў ложку, але ўстае, ідзе на кухню і кажа:

– Трэба ехаць, Сяргей… гэта твая будучыня, сыночак… едзь.

І я зьбіраюся ехаць…

Як гэта дзіўна… мая мама за жыцьцё пабывала ў Калінінградзе, Маскве і Крыме, і заўсёды я памятаю гэтыя часы сонечнымі і цёплымі… ёй заўсёды хацелася шмат падарожнічаць, глядзець сьвет… яна любіла перадачы і каналы пра прыроду і гарады, пра гатаваньне, вядома ж.

***

Слухайце, насамрэч кнігу варта было б пачаць з моманту, калі мама нарадзілася… вось я, набліжаючыся да фіналу, зразумеў, што гэта было б ня толькі лягічней, але адразу б раскрыла галоўную ТАЯМНІЦУ, ведаючы яе, вы б успрымалі б раман зь першай старонкі па-іншаму… але пакінем як ёсьць і зробім выгляд, быццам так і было задумана.

Мама нарадзілася, і яе маці, мая бабка, кінула яе ў радзільным доме… разумееце?!

Ад самага нараджэньня ад мамы адмовіліся, і яе адшукалі дзед Вікенцій і баба Вера ды забралі да сябе ў вёску.

Вось з чаго варта было б пачаць, бо тады былі б зразумелымі і лягічнымі ўсе мае стогны і цяжкія ўспаміны, зьвязаныя з маёю бабкаю.

Наведваючы маму на могілках, я не магу завітваць да бабкі, я прыяжджаю да яе хаты, але не заходжу, як ні намагаюся... думкі, цяжкія, скрушныя думкі і ўспаміны не даюць мне магчымасьці добра да яе ставіцца.

Шкада бабку, шкада яе, што яна такая самотная, але прабачыць яе я пакуль што ня ў змозе, бо, як толькі яе бачу, адразу перад вачыма альбо як яна сварыцца на нас ці на маму, альбо ўспаміны, што яна не прыехала ў апошнія дні да мамы, да сваёй дачкі, і толькі званіла і запытвалася: “Ну што, як яна, дыхае яшчэ?”, альбо веданьне таго факту, што яна маму кінула ў радзільным доме…

А дзед Вікенцій і баба Вера таксама “малайцы”, ня толькі не пускалі да мамы яе бацьку Васіля, але і настройвалі яе супраць яго, бо баяліся, што той забярэ яе да сябе!

Трэш! Немагчыма ў гэта паверыць! Не аддаваць дачку бацьку… а той увогуле больш ніколі не жаніўся і рана памёр.

***

Ладна, насамрэч хопіць ужо адцягваць фінал, хопіць ужо баяцца гэтага, надышоў час распавесьці пра галоўную страту ў маім жыцьці, надышоў час прайсьці праз гэта.

Апошнія дні ў маміным жыцьці для нас з В. сталі часамі чаканьня, падсьвядомага чаканьня… калі ты не прымаеш

гэта і нічому не даеш веры, але недзе ў глыбіні, у сэрцы пакутуеш ад асэнсаваньня, што сёньня маме зрабілі ўкол морфію, а гэта азначае, што яна можа ўжо не прыйсьці ў сьвядомы стан, яна мо захоча штосьці мне сказаць, да таго як пакінуць гэты сьвет, але ня зможа, бо морфій хоць і здымае боль, але адначасова забірае і ясны розум. Я доўга вагаўся, ня мог вырашыцца, але тое, што маме балюча, было невыносным, таму я пазваніў у хосьпіс і папрасіў пачаць даваць ёй морфій… і да нас пасьпела двойчы прыехаць добрая поўная жанчына з уколам. На гэтую жанчыну я глядзеў, як на анёла, мне хацелася яе абдымаць, хацелася аддзячыць ёй ад усяго сэрца за тое, што яна так хутка прыехала, што не задавала ніякіх пытаньняў і так пяшчотна і па-добраму краналася мамы і ставіла ўкол.

Насамрэч я ня буду тут падрабязьнічаць, скажу толькі, што мама апошнія два дні амаль не вярталася, толькі аднойчы паспрабавала ўстаць з ложка ў прыбіральню… устала на ногі, але не магла трымацца, зрабіла пару крокаў… мужнасьць неверагодная, на самым апошнім подыху ўсё рабіць самой, ніякіх вам “утак” і падгузьнікаў…

***

Калі бацька быў цьвярозым, у нас з В. і Хурмой атрымлівалася выехаць у лес… проста хацелася на гадзінку выехаць, пахадзіць, ні пра што ня думаць… але гэта ўсё часова, глядзіш – і ўжо трэба сьпяшацца дамоў, бо бацька ўжо выпіўшы, а нянечкі на выходных няма…

Была субота, калі мы пасьля абеду вярнуліся дамоў з парку ў Драздах… бацька пайшоў спаць, п’яны… мама

ляжала, спала і скрозь сон крыху стагнала… я разумеў, што ўвечары стогны будуць мацнейшымі… але там ужо і ўкол прыедзе.

Набылі з В. піва, нічога не хацелася, у нас былі запампаваныя чэскія рэжысэры, каб нeяк запамятавацца, але нічога не хацелася… не хацелася ні глядзець, ні піць, ні ляжаць, ні есьці, ні спаць… нічога…

Увечары некалькі разоў сядзеў у фатэлі каля мамы… яна ляжала, адвярнуўшыся да сьценкі і дзьвярэй… я сядзеў… пэрыядычна прыкрыкваючы на бацьку, каб ня сунуўся да яе блізка са сваім алькагольным пахам… каб даў маме хаця б перад сьмерцю не ўдыхаць гэтыя выпарэньні… мама стагнала, мы выклікалі хуткую, і дактары прыяжджалі, і, што істотна, адна і тая ж брыгада, яны адзначылі сабе ў паперах штосьці і сказалі нам – ноч будзе бяссоннаю, трымайцеся, дыханьне зусім на паверхні, быццам ужо і да лёгкіх не даходзіць.

І вось дванаццаць ночы, нарэшце ўдалося маму пакінуць бяз бацькі, я сеў у фатэль… цішыня... чую, здаецца мама дыхае…. Празь сем хвілін прыходзіць В. і нахіляецца да мамы…

– Здаецца, што ўсё…

Я падыходжу, кранаюся мамы, бяру шкельца, падношу да вуснаў.

Усё.

Сапраўды ўсё.

Ноч, першыя гадзіны сьвятога Вялікадня, маму першай забраў Бог, бо Брамы адчыніліся для ўсіх сьвятых

і добрых людзей, бо сысьці на Пасху – мара любога верніка… гэта цуд.

Я выклікаю хуткую, міліцыю… буджу бацьку… ён плача… усе плачуць… акрамя мяне… я сказаў сабе, што арганізую пахаваньне для мамы як мае быць… ніякіх сьлёз, трэба быць мужным, трэба быць моцным…

***

Мама чакала мяне, нас, яна перастала дыхаць, дачакаўшыся, калі нарэшце старэйшы сын будзе ў пакоі, побач, той самы сварлівы сын, якому часта няма часу пагутарыць, няма часу выслухаць, няма настрою, няма вольнага жыцьця… хуткая прыехала, зафіксавала гадзіну сьмерці, кранацца мамы ніхто не хацеў, таму дактары казалі, што рабіць, і я выпрамляў маме рукі, клаў роўна галаву, заплюшчваў вочы, завязваў бінтам сківіцу, каб вусны былі самкнутымі.

Маму мы не аддалі… яна да раніцы была з намі… бацьку напаілі супакаяльным, самі з В. леглі ў сваім пакоі паляжаць да раніцы на ложку…

А раніцай нас ужо турбавалі з пахавальных службаў і фірмаў… а то ж – гэта някепскі бізнэс, як і вясельле… але ня буду тут пісаць пра тое, як мяне падманулі на чатырыста даляраў, бо я ня ведаў, што, як і да чаго робіцца ў гэтым "пахавальным" бізнэсе. Я хачу толькі апавесьці, што, калі мы везьлі маму на могілкі, дзе ўжо былі яе любімыя бабуля Вера і дзед Вікенцій, нам усю дарогу сьвяціла сонца, незвычайна так сьвяціла, весела… а я, быўшы за стырном, ледзь слухаў, як Хава распавядала пра сваю сяброўку,

пра сваю Іну, якая так рана сышла… ехаў за аўтобусам сьледам, не сьпяшаўся, ехаў і слухаў, і там, недзе глыбока ўнутры сам сабе плакаў, бо мой асабісты сум па маме – ён мой сум, мой прыватны боль.

І вось калі мы прыехалі на могілкі – падняўся моцны вецер, і да ўсяго хмары… вось мы разьвітваемся з мамай – ізноў сонца, вось пачалі кідаць зямлю… сонца... вось пайшлі рабочыя з рыдлёўкамі… ізноў хмары, вецер і, увага, – пайшоў сьнежны град!!! Самыя сапраўдныя вялікія мокрыя камякі сьнегу проста пачаліся шмякацца, як нейкія пячаткі болю, суму і Апакаліпсісу… і назад мы вярталіся ў такім абсурдным занепакоеным стане, маўляў, нават Прырода з мамай разьвітвалася, ды ўвогуле адбывалася навокал нешта невытлумачальнае, сьвятое і рэдкае для гэтай Плянэты.

***

Насамрэч. Напэўна. Нельга заканчваць так, варта было б напісаць штосьці больш паэтычнае, дадаць завяршальнага, добрага, вечнага, шчасьлівага, вернага, сонечнага, аптымістычнага. Дадаць нейкую кроплю, чайную лыжку дабрыні. Няхай бы гэта зрабіла мой тэкставы кампот салодкім, але пітным.

Я сапраўды так думаў, літаральна нават знайшоў момант, адкапаў з глыбіняў памяці, падсьвядомасьці, з мастацка-літаратурных пакояў, з-пад спарахнелых і гнілых ложкаў, сярод згубленых шкарпэтак, прылепленых жуек і старых газэт такі ўспамін, такую падзею, нешта такое, што надавала веры і сьвятла і, што вельмі істотна, – упэўненасьці, што ўсё будзе добра.

Але гэтая падзея, гэтая замалёўка, маленькі нюанс чысьціні і сьмеху, зьвязаны з жыцьцём маёй мамы, быў цалкам расьціснуты, зьнішчаны, затаптаны і зьедзены ўмомант, як толькі я адказаў на мабільны званок.

Вы разумееце… тут такое адбылося, такое! Адбылося тут такое!

Мая звар'яцелая бабка месца сабе не знаходзіць, яна крычыць і рве на сабе валасы і адзежу. Мне звоніць мая цётка, каб пагутарыць, спакойна пагутарыць, даведацца пра ўсё, бо тая бабка проста як дэман… самы натуральны дэман.

Мы на днях з В., абмеркаваўшы ўсё з братам, замовілі маме помнік і надмагільле і вырашылі аб'яднаць агульнай агароджай разам зь яе горача любімымі бабуляй Верай і дзедам Вікенціем, людзьмі, якія адзіныя выявіліся для яе самымі роднымі, бо забралі да сябе і вырасьцілі.

Бабка быццам бы і па мамінай сьмерці жадае ёй пакутаў, цягнецца да нас сваімі скручанымі рукамі, цягнецца да нас з братам, хоча калі не задушыць, дык падрапаць, ня ўдарыць, дык хаця б балюча ўшчыкнуць, укусіць нас яшчэ раз, каб не забываліся, каб нам тут не бачылася ўсё пройдзеным этапам. І вось мы гутарым зь цёткай пра тое, што бабка патрабуе не чапаць могілак яе бацькоў, "з мамкай сваёй рабіце што хочаце" – крычыць яна, і я чую, у слухаўку!

А я кажу, што як так… як так можна – паставіць асобныя агароджы самым блізкі людзям… такое нельга рабіць. Тады, кажа цётка, бабка кажа, што трэба ўсе тры магілкі разам з агароджай усталяваць пад вуглом, каб у галаве

было вышэй… Я спрабую патлумачыць, што на схіле гэта немагчыма, надмагільле трэсьне, помнік пад вуглом паваліцца і будаўнікі так рабіць ня будуць… і я толькі чую ў слухаўку праз голас цёткі: не паважаюць! Робяць што хочуць! Мамцы сваёй рабіце што хочаце! Маіх бацькоў вырашылі чапаць! Сукі! Я вам ня дам!

Я кажу ў слухаўку, што мы нічые магілы не чапаем, мы проста абагульняем усё адной агароджай, бо мама мусіць быць побач з роднымі… цётка кажа, што разумее, але ж тут бабка быццам сама не свая, нават прайшлася па сваяках у вёсцы, і што калі я ці брат зьбіраемся прыехаць, лепей быць асьцярожнымі… літаральна зрабіла для мясцовых зь мяне злодзея, нейкага сатаніста, што плюе на магілы…

Я… а што я… я паеду праз тыдзень туды, да бабкі, трэба вырашаць усё, пакуль яшчэ не ўсталявалі агароджу, помнік і не паклалі плітку… я не магу нават уявіць, наколькі я злосны ці пакрыўджаны на яе… мне здаецца, што я ўжо так моцна маральна згвалтаваны і так эмацыйна вынішчаны, што вось гэтая гістэрыка, спроба штосьці даказаць з боку бабкі для мяне – як нейкі непад’емны крыж, і што мне, каб да яе прыехаць і пагутарыць, а гэта значыцца выслухаць нешта несумяшчальнае з жыцьцём… давядзецца быццам уздымацца ўгору, крочыць кудысьці, і глытаць пыл, і адкідаць у бакі камяні… давядзецца выслухаць тоны лаянкі, забіць тысячы нэрвовых клетак, выкупацца ў ваньне бруду.

І абсалютна бессэнсоўна ўсё гэта, бо для яе мы праявілі кепскую ініцыятыву, таму што самі вырашылі штосьці рабіць на могілках, і ня так, як яна кажа, – нават ня слухаючы ніякіх аргумэнтаў ад будаўнікоў, ад нас,

ад іншых, – у яе свая сьвятая праўда, бабка гатовая нават калашмаціць магілы і падымаць мерцьвякоў зь зямлі.

Мне брат кажа, што яна згубіла нас, мы ўжо колькі год для яе недасяжныя, мы ёй ня звонім і не заяжджаем да яе, хоць праяжджаем празь ейны дом кожным разам, як наведваем маму. Бабка хоча хаця б цяпер і тут нас згвалціць, паказаць сваю ятру і адзіноту, паказаць нам сваю гістэрыку, каб не забыліся, каб помнілі, як мы жылі, каб яшчэ раз нас укалоць, нас дастаць, і неістотна, якімі сродкамі і праз каго... ладзячы свае танцы на могілках.

І чым гэта ўсё скончылася, запытаецеся вы... скончылася ўсё тым, што бабка падсьцерагла на могілках будаўнікоў і прымусіла іх усё рабіць так, як яна скажа і хоча, крычала на іх і нават не хацела слухаць нічога наконт схілу, вуглоў і іншага... яе прымусілі падпісаць адмысловую паперку, што за помнік і агароджу адказнасьці ў будучым кампанія-забудоўшчык не нясе... выдатна, так? Нам паставяць усё што трэба і як яна хоча, але ніякіх гарантыяў...

І вось калі нават паставілі помнік, бабка пачала патрабаваць дабіць нейкія словы, набіць партрэт мамы, нягледзячы на ўсе нашыя аргумэнты, што помнік зроблены паводле амаль апошняга жаданьня нябожчыцы – маленькі, чорны, без пасьвячэньняў і партрэту...

Але ў нас усё добра... у нас усё будзе добра. Апошні раз, калі мы наведвалі маму... праца амаль была скончаная, мы глядзелі на прыгожы чорны помнік мамы, глядзелі на агароджу, на схіл і патрэбны для бабкі вугал у галаве нябожчыкаў, і нам было спакойна побач з мамай, мне

было спакойна побач з В., нам было ўтульна побач з нашым сабачкам Хурмой. Я адчуваў сябе моцным і добрым, мне больш не хацелася нічога ні ад каго і таксама не хацелася больш бачыць бабку… і я ведаю, як скончу кнігу, я ведаю, колькі паэтыкі варта дадаць, каб разьвітацца з вамі, чытачы, правільна, разьвітацца па-сяброўску, бяз вусьцішы, але пакінуўшы пасьля сябе посмак суму ўспамінаў і цёплага адчуваньня, што ёсьць у гэтым жыцьці як мінімум шчасьце і спадзеў на прыгажосьць, дзеля якіх варта жыць.

## 5

Я, мой малодшы брат, мама, тата і наш сабачка на імя Лайма (як Вайкуле, а то ж) едзем у бэжавай капейцы праз кісельную сьпякоту ў санаторый на возеры Нарач. У нас з сабою плястыкавая каробачка з бутэрбродамі: белы хлеб, масла і сыр… ад сонца сыр расьцёкся, такі сабе сырны суп з хлебам.

Сырны суп толькі на выгляд суп, але калі мы пачынаем бутэрброды аддзіраць адзін ад аднаго, становіцца зразумелым, што сыр хутчэй запёкся, ніж зварыўся…

Прыпынак. Мы з братам проста паглынаем гэтую сырную смакату… Бацька збочыў у лес… да Нарачы яшчэ дзьве гадзіны.

Здаецца, уся самая смачная ежа і рэцэпты гатаваньня прыйшлі да нас зь беднаты: пацёклы сыр на цесьце… паштэт з хлебам… лаваш і сыр… звычайныя рэчы, здольныя прыносіць найвялікшае задавальненьне. Альбо, калі пасмажыць бульбу, дадаць да яе зялёнай цыбулі і ў прыкуску – шматок сала. І ня трэба нічога выдумляць, і ніякія кучаравыя рэцэпты і побач не паставіш, бо першакрыніца чалавечага задавальненьня – гэта абсалютна простыя рэчы.

Мама не раскладала нічога каля машыны, ніякіх палянак мы не шукалі, ды й не да пікнікоў было майму бацьку, гэта было відавочным праз ягоную нэрвовасьць і неахвоту нават рабіць перапынкі, каб папісаць, бо мы спазьняліся, пуцёўка паведамляла аб заезьдзе і засяленьні з дванаццатай гадзіны дня… а было ўжо дзьве па абедзе, і бацькі хваляваліся, што замест нас ужо будзе хтосьці іншы жыць амаль месяц у лясным дамку. Мама супакойвала, казала, што пуцёўка аплачаная і нас мусяць чакаць, але гэтага ня чуў мой бацька, які быў аматарам жыцьцёвай драматургіі. Таму бутэрброды мы з братам жавалі хутка, стоячы каля машыны.

Мы нікуды ня едзем пятнаццаць хвілін, я кусаю бутэрброд і сыр цягнецца ад яго і павісае на падбародзьдзі, даводзіцца кожным разам, як каштуеш гэтую жоўтую пацёклую смакату, здымаць з падбародзьдзя сырныя ніткі і накіроўваць у рот…

Мне пятнаццаць… я добра гуляю ў стрытбол, фанацею ад каманды “Чыкага булс”, з практыкі ведаю, што гэта такое – францускі пацалунак, з пэрыядычнай пасьпяховасьцю два гады як куру і ведаю, якая на смак гарэлка… аматар цяжкой музыкі і прозы Стывэна Кінга, я ня надта шчасьлівы ад пэрспэктывы месяц жыць сярод соснаў, але магчымасьць нырнуць у возера вабіць, таму я еду са сваімі прыватнымі спадзевамі й плянамі і вельмі спадзяюся, што іх не парушаць бацькі альбо які іншы форс-мажор.

***

Вядома, па прыезьдзе нас засялілі. Дамок меў два пакоі, асобную кухню і на вуліцы душ з прыбіральняй. Для нас гэта выглядала раскошай, быццам мы прыехалі

ня ў лес на ўзбочыне возера, а ў нейкі казачны дом, які вось-вось можа зьбегчы на сваіх курыных кіпцюрах ад нас як мага далей, і пойдзем мы яго шукаць, клікаць яго, прасіць вярнуцца, вярнуцца хаця б толькі на месяц, на калені падаць, бо такога дамка, такіх цудоўных апартамэнтаў у нас ніколі не было. Я адразу заняў у пакоі, дзе мы з братам засяліліся, ложак каля вакна. Брат малодшы, а я нахабнейшы за яго і, вядома, старэйшы… яму выбіраць не давялося.

Жыцьцё пацякло павольна, як быццам ты яго заціснуў у кулаках і як пясок, па драбніцы прапускаеш. Павольны паход на возера праз сосны, босымі нагамі па сьцяжынцы, абмінаючы шышкі, але часам на іх натыркаючыся і прымушаючы сябе пільней глядзець пад ногі. Павольнае пагружэньне ў цёплую блакітную празрыстую вадкасьць… адпачынак на пляжы… нясьпешная прагулка пасьля абеду на лячэбныя ванны альбо ў кінатэатар… і гэта пасьля шчыльнага абеду…

Зразумела, што гэтая павольнасьць адбівалася і адлюстроўвалася на тэмпе жыцьця, ці, калі хочаце, адпачынку маіх бацькоў. У свой час мы з братам што толькі ні выраблялі: абсьледавалі тэрыторыю, сачылі за дзяўчатамі, лавілі жаб, рыб, камароў, цмокаў, галубоў і вожыкаў – і нам было гэтага мала: курылі сухую траву, лістоту, шышкі, газэты і, калі атрымлівалася знайсьці, цыгарэты… рабілі хованкі з сакрэтамі, падкопы пад дамкі, шпіёнілі за дарослымі цёткамі на пляжы, закопвалі адзін аднаго і гуляліся ў пахаваньне альбо ў сэкс з пясочнай жанчынай, якую ўдала стваралі пры дапамозе вады і пяску, амаль натуральных памераў.

Мы хутка знайшлі сабе кампанію такіх жа гарэзаў, бо, вядома, калі нашкодзіш, дык гэтым самым выклікаеш дух разьдзяўбайства ў акрузе, і на гэты дух, як на адмысловы фэрамон, зьбягаюцца ўсе мясцовыя бэйбусы, і мы ўжо каманда ў стрытболе, мы ўжо сварымся і б’емся зь іншымі камандамі ня толькі паводле спартовага імпэту… і мы ўжо зьбіраем вакол нашай кампаніі іншых, каб пасядзець увечары і выпіць пад гітару і гукі добра знаёмых песень, якія ўжо заселі ў пячонках, сталі косткамі ў горлах, але іх усё роўна хочацца сьпяваць, гарланіць гэтыя ўсе “какая-боль-5-0-всё-ідзёт-па-плану-а-ня-сьпець-лі-мне-песьню-ааааа-люююювбііі”.

***

Праз чатыры дні ў санаторыі зладзілі танцы. Летні амфітэатар, узрост тых, хто нязграбна танчыць, – пяцьдзясят, усе -наццаткі толькі назіраюць па куточках, абдымаюцца і цалуюцца, але ніхто не сыходзіць, усіх прываблівають гэтыя гірлянды зь лямпачак, гэтая цеплыня і магчымасьць проста пасядзець у атачэньні іншых людзей, патанаючы ў сваіх думках увечары, амаль уначы…

І тут раптам нібы раскрыліся нетры зямлі – перад адпачывальнікамі паўстае дзікая шобла зь пяці панкаў-мэталістаў. Хлопцы брудныя, дзікія і п’яныя, невядома, зь якога лесу яны выйшлі… натуральна завальваюцца на танцпляцоўку і, гарлапанячы, прымушаюць паставіць “грабоў”. Ім ніхто не пярэчыць, кожны хоча свой адпачынак прабавіць да канца здаровым і цэлым, каб усе рукі і ногі былі пры сабе, і пры гэтым застацца шчасьлівым.

Самаробны дыджэй выключае “іванушак інтэрнэшнл” – і на ўвесь лес з дынамікаў нясецца: “Границы ключ переломлен пополам...” Хлопцы пачынаюць скакаць, як ашалелыя.

Я, вядома, назіраючы гэты цуд, сумуючы па такіх шалёных танцах у сваёй школе на выпускных (куды мы завітвалі таксама сваёй адмысловай бруднай кампаніяй), далучаюся да іх.

Мяне спачатку адпіхваюць... хто такі?! Але я нахабна, забыўшы аб самазахаваньні, лезу да гэтых панкаў, да гэтых, дарэчы, відавочна дарослых панкаў... ня ведаю, што адчула тады мая мама, можа быць, яна пасьпела ўявіць, як мяне забіваюць і яна кідаецца да забойцаў з помстай, але мне толькі цяпер стала зразумела яе становішча.

Па выніку пасьля таго, як панкі адскакалі сваю першую песеньку, яны вырашылі даведацца, хто я такі, і потым, слова за слова, зразумелі, што я альбо ябануты пацан, альбо рэальна ябануты пацан, які нахрапам лезе да нецьвярозых дарослых мужчыкоў танчыць іхнія шалёныя панкаўскія танцы ў агульнае зачыненае кола псыхаў.

І мы пасябравалі, адтанчылі яшчэ дзьве песьні, адну “Офспрынгаў” і другую “Мэталікі”, выпілі з плястыковак гарэлкі, схаваўшыся ў цемры соснаў... я пазнаёміў гэтую кодлу з нашай кодлай, бо нас было ўжо шасьцёра, мы ўсе выпілі, і я мэталістаў прывёў ночыць да нас у дамок...

Да гэтага часу ня ведаю, што мама думала, кім мяне лічыла, што ўвогуле хацела б зрабіць з усім гэты хараствем, якое пабачыла: пяць абсалютна нажлукчаных незнаёмых мужчын у вельмі брудных чорных байках і нават, нягледзячы на сьпякоту, касухах, я – малы сьветлавалосы хлопчык,

такі сабе Дарыян Грэй, брат побач хударлявы і гарэзьлівы – і мы ўсе сямёра – бухія.

Я думаю, мама вырашыла паступіць мудра, пагутарыць з намі раніцай – і шчыра аддала хлопцам наш з братам пакой, а нас паклала ў сваім на падлозе, балазе на той момант нам было абсалютна ўсё роўна, дзе спаць…

На раніцу мы з братам у сваім пакоі нікога не выявілі, толькі густы, маркотны пах… пакой мы прыбіралі і праветрывалі тры дні: недапалкі, брудныя шкарпэткі, невядомыя падцёкі і кроплі, ліпучая падлога, гноем, лайном і потам сьмярдзела невыносна.

***

Надта багатага выбару сярод дзяўчат для кароткатэрміновага каханьня не было. Тры дзяўчыны – адна малая зусім, другая мне абсалютна не сымпатычная, але і трэцяя, так скажам, ня кветка ў полі. Гэтыя тры дзяўчыны неяк абсалютна натуральна ўвайшлі ў нашую кампанію, складзеную зь мяне, хлопца – аматара гранжу і яшчэ аднаго хлопца – які быў такім, ведаеце, сваім у дошку.

Сяброўка пачала са мною цалавацца літаральна ў дзень знаёмства, нашыя стадыі адносінаў былі хуткімі, і пасьля абдыманьняў, прагулкі за ручку я ўжо дакладна ведаў яе памер грудзей і мы ўжо сядзелі на беразе і цалаваліся, і ёй усё неяк не падабалася, як я цалуюся, і яна вырашыла, што трэба нам, каб навучыцца адно з адным цалавацца, папрактыкавацца ў перадачы вады з рота ў рот. Вось, замест каб нармальна, рамантычна цалавацца ноччу на беразе возера, мы пералівалі ваду. І яна такая:

“Дзіўна, калі я перадаю табе ваду, яна нідзе не працякае, а значыцца, ты добра валодаеш вуснамі, але чаму ў нас не атрымліваецца добра цалавацца ўзасос”.

“Таму што ты, мая дарагая, перад тым як пачаць лёгкія, кранальныя пацалункі вуснамі, спрабуеш сваім языком пралезьці скрозь мае зубы адразу ў горла… так ніхто не цалуецца…” але я ёй не агучваю сваіх думак, мне і так падабаецца, што яна, такая ўся пякельная, сядзіць на мне і вычвараецца са мною і вадой у бутэльцы. Гэта для юнака – тое, што трэба.

***

Мой бацька вырашыў адпусьціць бараду, звычайна ён кожны дзень галіўся, і здаралася, што калі раніцай твар быў чысты і гладкі, як рачныя каменьчыкі, то ўвечары ягонае падбародзьдзе было горшым за наждачную паперу! Бацька звычайна любіў маму памучыць, да таго як галіцца… знойдзе яе ў пакоі і, калі яна не чакае, абдыме і пачынае сваім падбародзьдзем церці ёй скуру, не істотна дзе, істотна, што гэты наждачны твар моцна драпаецца, мама крычыць, сьмяецца, але калі гэта зацягваецца, ужо сварыцца на тату.

І тут наш бацька… вакол яго – нарачанскі адпачынак, нарачанскае сонца, нарачанскія сосны, нарачанскі настрой і... Нарачанская Барада.

Алах акбар! Хаця не, у той год, у той час самае страшнае, што ў нас было, – гэта трагедыя на Нямізе, і пра тэрарыстаў ніхто не казаў, не было пра гэта ані плётак, ані чутак, ані выбухаў у падземках і самалётаў у хмарачосах…

таму майго бацьку, звычайна, можна было зблытаць зь лесьнiком, паляўнiчым... калi ён кепска апранецца – бяздомным, але нiяк не з тэрарыстам.

Бацька дбайна расьцiў сваю бараду, гадаваў як дзiцё, i разлучацца зь ёй яму было цяжка, але паводле працы варта было пагалiцца пасьля адпачынку.

I можна ўявiць, як мы сьмяялiся дома зь яго, калi загарэлы да чорнага тата без барады меў абсалютна белыя шчокi i падбародзьдзе, лiтаральна – шахцёр, якi надзеў на твар ватна-марлевую павязку.

Мама сьмяялася i паўтара скрозь сьмех: “А я табе казала... папярэджвала!”

***

Тое лета было самым цёплым, зялёным i прыгожым, i, што вельмi iстотна, тое лета не было сьпякотным. Яно было лагодным для таго, каб не пакутаваць ад гарачынi, цi, наадварот ад рэзкiх перападаў тэмпэратуры, i тым болей тое лета ня бачыла нiякiх ураганаў, тарнада i iншай нячыстай сiлы... колер лета быў створаны з мамiных валасоў, якiя яна вырашыла, можа быць i спантанна, пафарбаваць у халодна-бэжавы блёнд... каранi былi крыху цёмныя, але на канцах валасы проста аддавалi сонейку свае цёплыя яскравыя промнi зваротна, такiя яны былi сьветлыя i блiскучыя... i фрызура карэ ўпрыгожвала ня толькi абрыс яе твару, але i сылюэт агулам.

Мама была самаю прыгожаю, яна была стройнаю i звычайна патрабавала, каб яе не фатаграфавалi зьверху,

бо так яна выглядае замаленькай і поўнай… а брат, вядома, умудрыўся сфатаграфаваць мяне на пляжы, дзе я стаю, а мама на заднім пляне ляжыць макаўкай уверх на жываце і, чытаючы кнігу, загарае… самі разумееце, брат стаяў зьверху, на горцы, так скажам, там і я каратканогі атрымаўся, і мама – быццам плямка, круглая… фотаздымкі праявілі ўжо ў горадзе, мама крыўдзілася, а мы сьмяяліся з гэтага фота.

Так… мама была самаю прыгожаю, тата – самым барадатым, а брат – самым непаседлівым.

А я быў хударлявым юнаком з даўгімі валасамі, усе казалі – падобны да Курта Кабэйна. Але да Курта былі падобныя ўсе юнакі з даўгімі сьветлымі валасамі, і асабліва тыя юнакі, якія сябе кепска паводзілі.

Я б тое лета забраў бы з сабою, пакладзіце яго ў пакунак, калі ласка, але не, у мяне ё торба, думаю, хопіць і проста ў торбу яго пакласьці. Дзякуй. Колькі зь мяне? Картку прымеце ці манэтамі накідаць?

Мама з бацькам па вечарох, калі не сядзелі на ганку, гулялі па беразе альбо наведвалі мясцовы кінатэатар, дзе звычайна паказвалі або старыя фільмы, або адразу шакавалі сваімі няўдалымі і ў нечым жудаснымі плякатамі, на якіх незразумела што было намаляванае, але нагадвала псыхічнае захворваньне… і толькі паводле назвы ці напісанага жанру было зразумелым, на які фільм ты ідзеш: “Матрыца” гэта, альбо рамантычная француская камэдыя, альбо фільм жаху “Муха”… Тым ня менш у нашае лета праз кіно дадавалася ня толькі цёплага жоўтага колеру, але і цёмна-зялёнага і нават чорнага, што надавала адпачынку

складаных эмоцый і рабіла гэты санаторый месцам для сапраўднага каханьня.

Тым летам мама сапраўды была самаю прыгожаю і, мне здаецца, шчасьліваю.

***

Лавіць вугроў на Нарачы забаронена, але ўсе ставяць на іх спэцыяльныя пасткі, такія даўгія цыліндры, з аднаго боку зачыненыя. Вугор заплывае ў такі цыліндар, але разьвярнуцца і выплысьці ўжо ня здольны.

Гандляваць вугром забаронена. Але ўсе ведаюць, у каго можна набыць вугроў – сьвежых, салёных ці вэнджаных.

Наш сябра, які аматар гранжу, невядома адкуль дастаў дванаццаць велічэзных вэнджаных вугроў, і мы плянавалі сёньняшні вечар сьвяточным, даўгім і абавязкова алькагольным.

Я не магу сказаць, што ў маім юнацтве мама мне штосьці забараняла, яна мяне заўсёды пакідала перад выбарам – рабіць гэта ці не, варта гэта таго ці іншага… так было і зь півам, і першымі цыгарэтамі…

Я паведаміў, не запытаўся, але паведаміў, што сёньня пляную піць піва… мама сказала, маўляў, калі ласка, але ня шмат, я яшчэ непаўналетні і за колькасьцю варта было б абвыкнуць сачыць зь першых спробаў, каб потым умець выпіваць прыгожа, асабліва ў кампаніях, а ня так, як гэта робіць часам бацька, што даводзіцца яго здымаць са стала, на якім ён танчыць стрыптыз.

Права выбару і парады мамы стварылі мяне такім, які я ёсьць… і хоць на маім жыцьці і было некалькі злоўжываньняў і вар’яцкіх паводзінаў, я заўсёды ведаю, што я вольны выбіраць і адказны за сваё права волі і выбару.

***

Наш другі сябра, які свой у дошку, невядома адкуль дастаў дваццаць паўтаралітровых бутэлек “Жыгулёўскага” піва, і мы ўжо плянавалі ня проста сьвяточна-алькагольны вечар, але і разгульны.

Піць піва ў юнацтве – гэта сьмешна, бо збольшага маладыя ныркі і пячонка працуюць так моцна, што табе да таго, як захмялець, даводзіцца ўжо бегчы ў кусты. Алькаголь, асабліва алькаголь у піве, настолькі хутка праходзіць праз арганізм, што на душы застаецца толькі адчуваньне смутку, і прэлы пах у роце, і вялікае жаданьне, неверагоднае – ссаць кожныя пяць хвілін… мая дзяўчына вось ляжыць у мяне на каленах, у нас гарыць агонь, сябра, які любіць гранж, на гітары грае песьню “Полі” Нірваны, мы ямо вугроў і п’ем піва, але я адчуваю, што маёй дзяўчыне гэтага мала, яна расчырванелая ляжыць у мяне на каленах і глядзіць мне ў вочы, дакладней ловіць мой позірк, дае мне зразумець ужо не намёкамі, але проста кажа вачыма, што варта было б у гэтую цёплую ноч дадаць крыху рамантыкі… а я п’ю піва і разумею, што хутка ізноў пайду ў кусты.

Піва з рыльца, зь велізарных бутэлек… рукі запэцканыя рыбаю… якая тут рамантыка? Якія тут дзявочыя целы і грудзі… Але ж:

Polly wants a cracker
I think I should get off her first
I think she wants some water
To put out the blow torch…

Сябра цягне неўміручыя радкі… а я ўжо сьпінай лаўлю акорды, бо вось новая сасна, на яе я яшчэ ня сцаў…

***

Штовечар мы абавязкова застаемся да позьняй гадзіны на ўзьбярэжжы. Нам мала дзён у гэтым леце, нам мала гадзін у гэтым леце і хвілін, і зразумела, што сэкунды тут нават не пасьпяваюць лічыцца… мы гатовыя заставацца так да раніцы, сустракаць сьвітанак, рабіць з пледаў, імху і сасновых галінак ложкі, у якіх будзем толькі кахацца – ніякага сну…

Сонца патанае ў вадзе, наша кампанія звычайна ўжо ў позьні час, захутаўшыся ў цёплыя кофты і пледы, пацягвае паціху піва, курыць па адной цыгарэце на шасьцярых, па тры зацяжкі, дбайна захоўваючы на канцы цыгарэты попел, стараючыся яго ня стрэсьці, а калі ўжо ў каго і падае попел…

Цёпла, цёмна, вільгаць возера запаўзае пад шорты і пад пледы, пад саколкі і казыча ікры. Хлопец, які свой для ўсіх, злавіў штосьці магічнае ў паветры, можа быць, праглынуў колькі зорак… ён поўзае па пяску, валяецца ў ім, распранаецца і кідае адзежу ў розныя бакі, заходзіць у возера па пояс і вяртаецца, бо якія б п’яныя і неадэкватныя мы ні былі, мы клапоцімся адно аб адным і не дазваляем ноччу лезьці ў ваду цалкам… хлопец мокне і адразу вяртаецца на бераг сохнуць.

Раптам ён азіраецца ў наш бок, устае і проста да мяне трыма крокамі падскоквае і заціхае на хвіліну, напэўна. І пасьля таго, як ужо ўсе зьвярнулі на яго ўвагу, ён прамаўляе:

– Слухайце, а ён жа вось у гэтым пледзе, вакол аточаны вамі ўсімі, з гэтымі даўгімі валасамі, як сьвяты! Не, не сьвяты – Хрыстос, маці яго за нагу!

Усе азіраюцца, глядзяць на мяне, пагаджаюцца зь ім… а я маўчу, мне ў гэты час сапраўды падаецца, што я Хрыстос. Гэта цела маё, гэта кроў мая… ежце… піце…

***

У бацькі ў той час зьявілася першая машына… бэжавыя жыгулі-1, сьпераду гэтыя жыгулі мелі дадатковы бампэр, “супрацьтуманкі” і салён ад “сямёркі”… канешне, уявіць даволі складана, але машына зьнешне крыху нагадвала БМВ, быццам сваім выглядам задзірала вас, выклікала на бойку.

Машына для нас выглядала ці не апошнім адкрыцьцём сьвету, яна быццам бы давала нам шанцы жыць лепей, ня толькі хутчэй, але і цікавей, больш калярова, напэўна, бо мы пачалі перасоўвацца па розных маршрутах таксама і адкрываць для сябе іншыя беларускія гарады… мы на ёй езьдзілі на лецішча, а таксама ў вёску, у Брэст, у Нясьвіж… мама адшукала нарэшце магілку свайго бацькі, да якога яе ўсё жыцьцё не пускалі… мы нават даехалі да Нарачы.

Гэтая “капейка” выратоўвала нас у любыя часы, асабліва калі за стырном ужо сядзеў я, і для нас з братам яна заўсёды выглядала ўнушальна, пакуль мы яе не памянялі на форд, але гэта ўжо зусім іншая гісторыя…

Што казаць, ня маючы да гэтага ніводнай машыны, мы былі б радыя і трактару, ня кажучы ўжо пра “пракачаную капейку, падобную да БМВ”.

***

Тое лета было са знакам “Каханьня”, песьні, якую сьпяваў Дэльфін… гэтае “Каханьне” па пяць разоў на дзень гучала з гучнагаварыльнікаў па ўсім санаторыі, з усіх слупоў было чуваць, як Дэльфін нарэшце, хоць і зь лёгкім цынізмам, але такім, ведаеце, прэвэнтыўным, сьпявае пра найважнейшае ў жыцьці чалавека пачуцьцё.

Сапраўды, калі з дынамікаў гучалі іншыя песьні, ніхто ня чуў, а калі толькі па сасновым бары разьляталіся першыя знаёмыя ноты, дзе б мы ні былі, мы пачыналі сьпяваць усе разам… звычайна “Каханьне” мяне асабіста напаткоўвала на баскетбольнай пляцоўцы… гэта быў час, калі пасьля абеду ўсе дарослыя ішлі спаць у свае ложкі, на свае пярыны, у свае спальныя мяшкі ў намётах, бо былі і “дзікары” вакол санаторыя, а мы, зразумела, шукалі прыгодаў і звычайна ішлі на спартыўную пляцоўку, дзе, акрамя аматараў здаровага ладу жыцьця, былі толькі падлеткі, бо зусім малыя таксама адпачывалі з бацькамі, якіх падманвалі сьмешным чынам:

– Мама, тата, я спаць ня буду!

– Добра, ня сьпі, толькі паляжы пару хвілінак у ложку пад прасьцінкай – і можаш ісьці гуляць.

І ўсё, малы сьпіць…

Вось мы, капітаны, абіраем у сваю каманду гульцоў… я звычайна аддаю перавагу сяброўству, мой

апанэнт, старэйшы, абірае тых, хто яму патрэбны для перамогі…

Наш стрытбол звычайна заканчваецца не на нашую карысьць, бо сябра, які любіць гранж, гуляе чыста за кампанію, а хлопец, які свой у дошку, вельмі любіць гуляць, але не гуляе ў камандную гульню, таму я часта гуляю на сябе, без пасоў, і спадзяюся на чацьвертага нашага, які лёгка выйграе ў гульні пад кальцом.

Я нечакана атрымліваю пас, бягу да кальца, брат пасьпявае нават зафатаграфаваць, як я скокаю, – сьветлыя валасы ў розныя бакі, мяне ніхто не накрывае, але я не трапляю… мяч адскоквае ўбок, і мы спыняемся. Другая каманда разыгрывае мяч, мы крыху суцішыліся і цяпер добра чуем, што ізноў сьпявае Дэльфін, і кожны з нас, пачынае за ім паўтараць:

…
Она сама по себе невесома,
Она легче, чем твои мысли,
Но вспомни, как душу рвало,
Когда она уходила,
Как на глазах твоих слёзы висли.
…

Я думаю, тое лета было самым натхняльным і чыстым для ўсіх нас, яно яднала, лекавала і захутвала ў свае цёплыя зялёныя абдымкі, быццам бы надаючы нам моцы жыць далей, рыхтавацца… рабіцца моцнымі і пачынаць любіць сваю сям'ю.

*Менск – Смаргоні*
*Студзень – ліпень 2016*

## Ад аўтара

Я хацеў бы падзякаваць Лідзе Наліўцы за тое, што яна кожны мой тэкст прымае ў сырым выглядзе і рэдагуе яго надзвычай далікатна і прафэсійна… Уяўляю, праз што ёй даводзілася праходзіць, і не аднойчы. Лідзе таксама асобны дзякуй за тое, што ў кнізе зьявілася пятая частка, “паэзія”, якой не ставала…

Маёй жонцы В. асаблівы дзякуй за мужнасьць і падтрымку, парады й цьвярозую крытыку.

Ганна Бундзелева, дзякуй табе за неверагодную мастацкую працу для вокладкі, мне здаецца, яна дакладна характарызуе тое, што ў кнізе.

Дзякуй табе, мой дарагі брат Лёша, што знайшоў у сабе моц прачытаць гэты тэкст да таго, як ён трапіў у друк… дзякуй табе за падтрымку, мне вельмі прыемна, што я, з тваіх словаў, знайшоў свой стыль.

Я б хацеў аддзячыць Альгерду Бахарэвічу. Ты для мяне вялікі сябра, пісьменьнік і чалавек, які трапна, стылістычна і густоўна рэдагуе і цудоўна на мяне ўплывае… Твае заўвагі паводле тэксту – вельмі канструктыўныя.

Мне таксама хацелася б адзначыць унёсак у кнігу Максіма Шапялевіча, чалавека шматграннага, які быў адной з галоўных асоб, што чыталі маю споведзь яшчэ да вёрсткі… Максім, твой жыцьцёвы лад (адвакат, марак, перакладчык) давёў мой тэкст да гарманічнага выгляду.

Віталю Латышу паклон і падзяка за ягонае гострае вока падчас вёрсткі ды карэктуры і асобны дзякуй за параду прыбраць некалькі сказаў, якія гралі ня вельмі прыгожую ролю ў трэцяй частцы.

